25 красавіка 2014 | № 16 (385)

# Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:**
**Неардынарны Артур Клінаў**
Нарыс Аляксандра Тамковіча

**5 АТАМ МІРНЫМ НЕ БЫВАЕ**

З таго дня, як выбухнуў Чарнобыль, прайшло амаль 30 гадоў. Але, як сведчаць навукоўцы, праблемаў з часам не паменела



**6 ЗАХОДНЕРУСІЗМ: АНАТОМІЯ ЗДРАДЫ**

Анексія Крыму Расіяй і падзеі ва Украіне паўплывалі на актывізацыю дзейнасці прарасійскіх маргіналаў у Беларусі, якія вызнаюць заходнерускія каштоўнасці і адмаўляюць беларусам у іх праве на нацыянальную гісторыю, культуру і нават незалежнасць

**9–24 Літаратурная Беларусь**

**27 БАЯЗЛІВЫ І БЕЗЫДЭЙНЫ СЕПАРАТЫЗМ**

Рэпартаж Зміцера Галко з Марыупаля



# Ці будзе Лукашэнка супрацiўляцца ЕАЭС?

**Лукашэнка выказаўся за захаванне незалежнасці Беларусі: на Вялікдзень і ў штогадовым пасланні. Відавочна, пасля Крыму гэта тэма стала асабліва актуальнай для беларускага правадыра.**



Сяргей ПУЛЬША





Беларуская зямля заўсёды будзе «належаць грамадзянам краіны, не толькі беларусам, але і рускім, габрэям, палякам, украінцам — усіх нацыянальнасцяў, прадстаўнікі якой на ёй жывуць», — заявіў у мінулую нядзелю А. Лукашэнка.

«Мы ніколі не дапусцім, каб з гэтай святой зямлі зыходзіла пагроза перш за ўсё нашым суседзям і іншым народам свету. Мір і спакой — галоўнае, што мы павінны сёння захаваць, гэта галоўнае, за што мы павінны змагацца», — сказаў ён.

«Наша дзяржаўнасць непахісная, і ўсялякія размовы пра тое, што мы заўтра ўвойдзем у нейкія дзяржавы, для Беларусі непрымальныя», — заявіў Лукашэнка.

Падзеі ва Украіне яскрава дэманструюць, ад каго найперш сыходзіць пагроза дзяржаўнасці Беларусі. І таму, хаця б на словах, ён «дыстанцуецца» ў гэтым пытанні ад Расіі. Канешне, мы звыклі да таго, што беларускі кіраўнік сёння кажа адно, заўтра — іншае. З аднаго боку, ён казаў, што «мы заўсёды будзем з Расіяй», але з іншага — трэба забяспечыць і «непахіснасць нашай дзяржавы».

У пасланні Аляксандр Рыгоравіч закрануў тую ж тэму. Найперш, ён назваў тых, хто сцвярджае пра ўціск рускай мовы ў Беларусі, «дыверсантамі і правакатарамі», і паведаміў, што даў заданне разбірацца з такімі асобамі КДБ ды Савету бяспекі. Што ж датычна суверэнітэту і незалежнасці, то, па ягоных словах, «хто б да нас ні прыйшоў, мы будзем абараняцца са зброяй у руках».

**Беларусь будзе «абараняцца са зброяй у руках»**

Пра тое, што Беларусь «не ўвойдзе ў іншыя дзяржавы» і будзе «абараняцца са зброяй у руках» — гэта, канешне, моцна. Але не трэба забывацца, што «ўваход у дзяржавы» пачаўся менавіта з падачы Аляксандра Рыгоравіча ў 1996 годзе. Гэта ў яго ўзнікла ідэя Саюзнай дзяржавы, з якой зараз корміцца бездань расійскіх і беларускіх чыноўнікаў. Так што, прынамсі, у адну «дзяржаву» мы ўжо ўваходзім. Праўда, шмат хто кажа, што ніякай Саюзнай дзяржавы няма, у ёй існуе хіба што толькі бюджэт, які што год ціха «пілуюць» чыноўнікі. Ці варта разумець словы беларускага кіраўніка так, што ад ідэі Саюзнай дзяржавы ён адмаўляецца?

У прынцыпе, Аляксандр Рыгоравіч скарыстоўвае Саюзную дзяржаву, калі трэба. У асноўным, у сферы ВПК, калі яму трэба альбо прадаць цягачы МЗКТ пад расійскія ракеты, альбо атрымаць тыя ж расійскія ракеты для ўласнай СПА. Існуе і шэраг навукова-прамысловых праектаў, кшталту касмічнай праграмы, стварэння суперкампутара. Але ў іншым Саюзная дзяржава ніяк сябе не праяўляе, што неаднаразова пацвердзілі розныя гандлёвыя войны або статус у Расіі нашых гастарбайтэраў.

Але ці варта разглядаць гэтую заяву як тое, што, акрамя Саюзнай дзяржавы, больш нічога не будзе? Напрыклад, віцэ-прэм'ер Расіі Ігар Шувалаў памарыў пра тое, што ў будучым у Еўразійскім эканамічным саюзе, які ствараецца зараз паміж Расіяй, Казахстанам і Беларуссю, будзе адзіная валюта — алтын. Потым ягонае выказванне абверглі, але хада думкі відавочная.

Канешне, ЕАЭС, «на паперы» праектуецца як «чыста эканамічны саюз». Але і ў Беларусі, і ў Казахстане разумеюць, што гэта — «праект Пуціна». І як у нас, так і ў казахаў ёсць істотная занепакоенасць тым, што «эканамічны» блок пяройдзе ў «палітычны», то бок, у мяккі захоп Расіяй спачатку эканомік, а потым «дэ-факта» тэрыторыі Беларусі і Казахстана. Прынамсі, у Казахстане пра гэта кажуць у поўны голас. Варта зазначыць, што ў пасланні Аляксандр Рыгоравіч казаў пра СНД ды Саюзную дзяржаву, засяродзіўся на сумесных расійска-беларускіх праектах кшталту таго ж ВПК і АЭС. А вось «новыя інтэграцыйныя ўтварэнні», Мытны саюз ды ЕАЭС, ён увагай абышоў. Ці сапраўды Лукашэнка нарэшце ўбачыў у гэтым небяспеку?

Палітычны аглядальнік Андрэй Фёдараў, які спецыялізуецца на беларуска-расійскіх адносінах, таксама адзначыў, што заклапочанасць Лукашэнкі незалежнасцю і ягонае замоўчванне далейшых інтэграцыйных працэсаў — своеасаблівы «пасыл» Расіі. «Але я не думаю, што гэта выклікана Украінай. Хутчэй, гэта выклікана тым, што не вырашанае пытанне з Расіяй аб адмене мытных пошлінаў на нафтапрадукты, вырабленыя з расійскай нафты і экспартуемыя Беларуссю», — адзначыў ён.

Па меркаванні Фёдарава, без вырашэння гэтага пытання Лукашэнка будзе, наколькі гэта магчыма і «наколькі яму дазволяць», зацягваць працэс стварэння ЕАЭС. «Ён ужо выказваўся, што без адмены гэтых пошлінаў ЕАЭС для Беларусі мае мала сэнсу», — адзначыў Фёдараў.

29 красавіка ў Мінску павінны сабрацца кіраўнікі краін Мытнага саюза і мяркуемага ЕАЭС — Расіі, Казахстана і Беларусі. Мажліва, такім чынам Лукашэнка дае зразумець Уладзіміру Пуціну: за інтэграцыю трэба плаціць. А інакш мы — незалежная дзяржава з усімі выцякаючымі наступствамі.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ



### Магілёў. Пашкодзілі гістарычны будынак

**Падчас суботніка пашкодзілі гістарычны будынак, сцвярджае старшыня Магілёўскага абласнога Таварыства аховы помнікаў Уладзімір Краўчанка.**

З гэтай нагоды ён рыхтуе скаргі ў Магілёўскую гарадскую пракуратуру і Міністэрства культуры.

«Уся тэрыторыя ўздоўж высокага берага Дняпра ад ракі Дзебра (па левым берагу) да Дубравенкі з'яўляецца гістарычным помнікам. Гэта месца старога горада. Гэтая тэрыторыя ахоўваецца законам», — кажа Уладзімір Краўчанка.

Па яго словах, падчас суботніка грамадзяне, якія прыбіралі тэрыторыю былога Школішча, пашкодзілі падмурак будынка 18 стагоддзя.

«Ідэя зрабіць парк на гэтым месцы — гэта цудоўна, аднак не трэба гэта рабіць вандалаўскім метадам. Падмурак быў прыхаваны зямлёй і ўзвышаўся над агульным ландшафтам. Удзельнікі суботніка вырашылі яго зраўняць і ў выніку пашкодзілі скляпенне і падмурак гістарычнага будынка», — кажа Уладзімір Краўчанка.

У якасці аргумента ён прыводзіць тое, што цэгла падмурка саматробная, клалася з выкарыстаннем вапны, а не цэменту, а на цэглах прысутнічаюць адбіткі чалавечых пальцаў, што сведчыць, што яны выраблялiся не прамысловым метадам, які быў распаўсюджаны ў 18 стагоддзі.

«Зараз на Школішчы стаяць паўразбуранымі чатыры дамы. Яны датуюцца канцом 19 — пачаткам 20 стагоддзя. Яны даволі трывалыя, і іх можна яшчэ прывесці ў парадак. Аднак, кіраўніцтва горада плануе іх знесці. На гэтым месцы таксама шмат падмуркаў іншых дамоў, якія застаюцца недаследаванымі», — адзначае Краўчанка.

У сваіх скаргах старшыня Магілёўскага абласнога Таварыства аховы помнікаў будзе звяртаць таксама ўвагу на безгаспадарчасць чыноўнікаў. Паводле яго слоў, будынкі можна захаваць і мэтава скарыстаць.



### Гомель. Былы мэр атрымаў 5 гадоў турмы

**Суд прыгаварыў былога старшыню Гомельскага гарвыканкама Віктара Піліпца да 5 гадоў турэмнага зняволення ўзмоцненага рэжыму.**

Такі ж самы вырак атрымаў і іншы фігурант справы, супрацоўнік Упраўлення капітальнага будаўніцтва Ігар Адарчанка, які да моманту прысуду знаходзіўся пад хатнім арыштам і быў узяты пад варту ў судовай зале. Трое іншых фігурантаў справы аб злоўжываннi службовым становішчам былі вызвалены ў зале суду, «паводле амністуючых матываў».

Адвакаты заявілі, што будуць падаваць апеляцыю, яны сказалі, што судовы разгляд справы «працаваў толькі на абвінавачванне».

Крымінальную справу супраць старшыні гарвыканкаму Віктара Піліпца і чатырох супрацоўнікаў гомельскага ўпраўлення капітальнага будаўніцтва распачалі пасля выкрыцця, як заяўляецца ў абвінавачванні, «злачыннага механізму размеркавання кватэраў у шматпавярховых дамах». Паводле следства, абвінавачаныя размяркоўвалі кватэры між сваякамі і знаёмымі па заніжаных цэнах, а таксама афармлялі дамовы па набыцці кватэраў на падстаўных асобаў.

У матэрыялах справы фігуруюць 27 кватэраў, якія павінны былі выдзяляцца людзям, што жывуць у дамах пад знос ці непрыдатных для пражывання.



### Бабруйск: Суддзю злавілі на хабары

**Пра тое, што суддзю Аляксея Клімава ўзялі на месцы злачынства, паведаміў Аляксандр Лукашэнка падчас свайго традыцыйнага паслання народу.**

Суддзя ўжо не працаваў у Бабруйску, бо пайшоў на павышэнне і займаў пасаду старшыні Кіраўскага раённага суда Магілёўскай вобласці. Па якой справе спрабавалі «задобрыць» Клімава, пакуль не вядома.

Бабруйчанам Аляксей Клімаў запомніўся па прысудах удзельнікам «маўклівых акцый». За адзін дзень Клімаў асудзіў да штрафаў 12 чалавек, сярод іх былі журналісты. Мясцовыя дэмакратычныя актывісты нават прасілі ў свой час уключыць Клімава ў спіс невыязных, як аднаго з удзельнікаў рэпрэсіўнага апарата.

**Падрыхтавана паводле матэрыялаў сайта spring96.org**

# Марш Незалежнасці

**Рух «За Свабоду» ініцыюе правядзенне ў Мінску Маршу Незалежнасці. Ён запланаваны ад пляцоўкі каля Нацыянальнай бібліятэкі па праезнай частцы праспекту Незалежнасці да плошчы Незалежнасці з далейшым правядзеннем там мітынгу. Меркаваная дата акцыі — 14 траўня.**

Мэта Маршу Незалежнасці — публічнае выказванне падтрымкі ідэі ўмацавання незалежнасці Беларусі, а таксама канстытуцыйнага палажэння пра нейтралітэт, таму што адна з пагрозаў палягае ў расколатасці беларускага грамадства. Супрацьстаяць знешнім рызыкам без шырокай падтрымкі народу немагчыма. Гарантам абароны і ўмацавання незалежнасці ёсць не адна кіруючая асоба, а ўсе беларусы.

«Гэта той дзень, калі раскол у беларускім грамадстве паглыбіў рэферэндум па змене дзяржаўнай сімволікі. На Марш Незалежнасці мы заклікаем браць перадусім бел-чырвона-белыя сцягі. Бо яны — галоўны сімвал нашай незалежнасці і дзяржаўнасці. Калі ёсць патрыёты Беларусі, якія атаясамліваюць незалежнасць з сённяшняй дзяржаўнай сімволікай, мы запрашаем іх далучыцца. Беларусь у нас адна!» — кажа намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Алесь Лагвінец.

Рух «За Свабоду» запрашае далучыцца да арганізацыі Маршу Незалежнасці ўсе незалежніцкія сілы краіны. Заяўка на правядзенне шэсця і мітынгу будзе пададзена на гэтым тыдні.

«Важна, каб улада не на словах, а на справе даказала гатоўнасць бараніць незалежнасць і спрыяць кансалідацыі грамадства, агульнанацыянальнаму кансенсусу. Паводле здаровага сэнсу, улады мусяць не толькі дазволіць акцыю, але і далучыцца да яе», — заяўляе першы намеснік старшыні Руху Юрась Губарэвіч.

**Паводле прэс-службы Руху «За Свабоду»**



# Статкевіча падтрымала «Міжнародная амністыя»

**Мікалаю Статкевічу пішуць актывісты «Міжнароднай амністыі» з Еўропы. Пра гэта палітвязень паведаміў падчас сустрэчы з адвакатам.**

Жонка палітыка Марына Адамовіч распавяла падрабязнасці карэспандэнту «Свабоды»: «У яго збольшага ўсё па-старому, увесь час у адзіночцы. Казаў, што ідуць лісты ад «Міжнароднай амністыі» — з Германіі, Францыі, Галандыі. То бок нейкая міжнародная падтрымка адчуваецца. Працягвае сачыць за сітуацыяй ва Украіне, хаця інфармацыі ў яго мала, і даходзяць да яго звесткі са спазненнем. У яго, праўда, ёсць тэлевізар, але вядома, што па ім паказваюць па беларускіх ды расейскіх каналах».

Паводле звестак Марыны Адамовіч, напярэдадні Вялікадня Мікалай Статкевіч сустракаўся са святаром. Марына Адамовіч не выключае, што цягам велікоднага тыдня яе муж атрымае ад святара велікодны куліч: «Раней такія наведванні ў іх практыкаваліся».

Былы кандыдат на прэзідэнта Мікалай Статкевіч асуджаны на 6 гадоў зняволення нібыта за арганізацыю забурэнняў пасля прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года. Сваёй віны Мікалай Статкевіч не прызнаў. Апазіцыя і праваабаронцы ў Беларусі лічаць, што Статкевіча пераследуюць за жорсткую крытыку на адрас Аляксандра Лукашэнкі, якога апазіцыянер абвінавачвае ў фальсіфікацыі вынікаў выбараў.

**Радыё «Свабода»**

# Вінярскі абвясціў сухую галадоўку

**Каардынатару «Еўрапейскай Беларусі» Максіму Вінярскаму Фрунзенскі суд Мінску прысудзіў 12 сутак арышту за непадпарадкаванне міліцыі. Актывіст абвясціў сухую галадоўку.**

«Мяне яўна хочуць ізаляваць перад Чарнобыльскім шляхам, а магчыма, і ў сувязі з іншымі падзеямі. Я абвяшчаю сухую галадоўку і адмаўляюся падпарадкоўвацца незаконным загадам міліцыі», — сказаў Максім.

Максім Вінярскі запатрабаваў, каб да яго выклікалі хуткую дапамогу.

«У суд прыехала хуткая дапамога, мяне агледзелі лекары, прызналі хворым і сказалі, што павязуць мяне ў лякарню. Але суддзя Людміла Лапо забараніла гэта рабіць, што, на маю думку, ёсць крымінальным злачынствам», — паведаміў Максім Вінярскі карэспандэнту «Свабоды» з Фрунзенскага суду.

Максіма Вінярскага затрымалі некалькі чалавек у цывільным на вуліцы пасля наведвання крамы «Карона».

Максім Вінярскі нядаўна вызваліўся пасля 15-сутакавага арышту. Ён распавёў праваабаронцам, што перад вызваленнем супрацоўнік міліцыі прапанаваў яму часова з'ехаць з Мінску. Маўляў, ёсць два варыянты: альбо з'ехаць з краіны, альбо выехаць у вёску на пэўны час (маецца на ўвазе час правядзення чэмпіянату свету па хакеі).

У адказ на гэтае папярэджанне Вінярскі заявіў праваабаронцам, што ён не ўжывае наркотыкаў, не лаецца матам, не схільны да хуліганскіх учынкаў, і таму магчымы арышт просіць расцэньваць як прэвентыўную ізаляцыю з-за сваіх грамадска-палітычных перакананняў.

**Паводле Радыё «Свабода»**

# 10 сутак за сцяг

**Суддзя Заводскага раёна Мінска Анастасія Асіпчык пакарала арыштам на 10 сутак актывіста Іллю Дабратвора.**

Дабратвор быў затрыманы 22 красавіка, калі ён ехаў на ўласным аўтамабілі. Яго спынілі па падазрэнні ва ўгоне аўтамабіля. Супрацоўнікі міліцыі склалі на актывіста два адміністрацыйныя пратаколы: парушэнне артыкула 17.1 КаАП (дробнае хуліганства) і 23.4 (непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі). Ілля вёз у аўтамабілі ўкраінскія і бел-чырвона-белыя сцяжкі, усяго 30 штук.

Сведкамі на працэсе выступілі супрацоўнікі міліцыі Пастрак і Кісялёў.

Па кожнаму артыкулу было вынесенае пакаранне па 7 сутак арышту, аднак канчаткова, шляхам частковага складання, суддзя Асіпчык пакарала яго арыштам на 10 сутак.

**spring96.org**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# У чаканні хакею

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Варта было звярнуць кіраўніку дзяржавы ўвагу на адукацыю і ўнутраны рынак, як на гэта імкліва адрэагавалі адпаведныя органы.**

Канешне, тут яшчэ спрацаваў і Чэмпіянат свету па хакеі, якога краіна чакае, затаіўшы дыханне. Зразумела ж, гэтае свята не абыходзіцца без піва. «Крыніца», «Аліварыя», «Лідскае піва» чакаюць звышпрыбыткаў, бо і надвор'е спрыяе. А тут яшчэ і ўрад паклапаціўся. Беларусь уводзіць ліцэнзаванне імпарту піва з-за межаў Мытнага саюза. Гэта прадугледжана пастановай Савета Міністраў №365 ад 18 красавіка 2014 года. Ліцэнзаванне піва ўводзіцца на паўгода — з 1 мая да 31 кастрычніка 2014 года.

Згодна з дакументам, імпарт безалкагольнага і соладавага піва будзе ажыццяўляцца па разавых ліцэнзіях. Выдаваць іх будзе Міністэрства гандлю па ўзгадненні з канцэрнам «Белдзяржхарчпрам».

З 1 па 9 мая, да пачатку чэмпіянату, наўрад ці імпарцёры здолеюць атрымаць на піва новыя ліцэнзіі, а рэшты запасаў імгненна скончацца. Так што заўзятарам хакею давядзецца «пацягваць беларускае». Асабліва добра тут выглядае Лідскі піўзавод, ці не адзіны ў краіне, які ставарае безалкагольную «нулёвачку». Таму тым, хто не ўжывае алкаголю, але піва любіць «за кампанію», давядзецца набываць лідскае. Яно хаця б лепш за «нулёвую» «Балтыку», што ў межах Мытнага саюза, але крыху горш за безалкагольную «Абалонь», што не ўваходзіць у МС.

Мы звыклі і да таго, што кожны месяц у Беларусі даражэюць цыгарэты. Але сёлетні май стане нязвыклым выключэннем — з 1 мая некаторыя маркі цыгарэтаў, наадварот, патаннеюць. На сайце Міністэрства па падатках і зборах Беларусі размешчана інфармацыя аб рознічных цэнах на цыгарэты з 1 мая 2014 года. На 20,5% патаннеюць цыгарэты «Style Black» і «Style Pink» да 7 950 рублёў. На 24,3% да 7 950 зніжаны кошты на «West Compact».

Але падаражэюць іншыя маркі беларускай вытворчасці. Так, самы пралетарскі «Фэст» будзе каштаваць 6 300, «Pall Mall Premium» — 10 950. Акрамя таго, павялічаны цэны на шэраг імпартуемых марак цыгарэт: да 19 500 падаражэе «Davidoff», да 15 500 — «Davidoff King Size Superslims», да 25 000 — «Richmond», да 21 500 — «Aroma».

Лукашэнка неаднаразова сцвярджаў, што бяспека падчас ЧМ па хакеі — галоўнае. Таму з 25 красавіка па 31 мая 2014 года запрацуе спецыяльна створаны міжведамасны аператыўна-сітуацыйны штаб Мінска — адзіны міжведамасны орган па пытаннях кіравання сіламі і сродкамі рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, якія былі задзейнічаныя ў вырашэнні задач па забеспячэнні бяспекі чэмпіянату.



**Вызначаны парадак фармавання міжведамасных рабочых груп, якія будуць ажыццяўляць кругласутачны маніторынг сітуацыі і, у выпадку неабходнасці, прымаць рашэнні па яе стабілізацыі**

Як паведамляе прэс-служба ўрада, вызначаны парадак фармавання міжведамасных рабочых груп на аб'ектах чэмпіянату, а таксама ведамасных аператыўных груп ва ўсіх зацікаўленых дзяржаўных органах, якія ў межах кампетэнцыі будуць ажыццяўляць кругласутачны маніторынг сітуацыі і, у выпадку неабходнасці, прымаць рашэнні па яе стабілізацыі.

Дзеля «стабілізацыі» сітуацыі некаторыя захады міліцыя прыняла ўжо зараз. Напрыклад, вядомы «бунтар» Максім Вінярскі выходзіў з гандлёвага цэнтру «Карона». Яго спынілі супрацоўнікі міліцыі і сказалі, што ён «падобны на злачынцу». Што з гэтым трэба рабіць? Высветліць асобу ды адпусціць. Аднак на актывіста складаюць пратакол за непадпарадкаванне міліцыі і саджаюць на 12 сутак. А дзясцін з заяўнікаў «Чарнобыльскага шляху» Ілля Дабратвор вёз у машыне каля 30 бел-чырвона-белых і ўкраінскіх сцягоў. Яго спынілі па падазрэнні ва ўгоне аўтамабіля, а ў выніку — пратаколы за тое ж непадпарадкаванне, «дробнае хуліганства», і 10 сутак арышту.

Падобна на тое, што «зачыстка ўсяго апазіцыйнага» напярэдадні ЧМ па хакеі пачалася занадта рана. Але мы памятаем і прыклад Івана Амельчанкі, які спачатку быў асуджаны на 15 сутак арышту, а потым, не выходзячы з Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў, яшчэ на 10. Такім чынам можна перасаджаць прошчу народу!

Але з чэмпіянатам ці без яго — жыццё ідзе сваім ходам. І для некаторых гэта — вельмі важны і адказны перыяд. Міністэрства адукацыі ўжо вызначыла, хто здолее патрапіць у ВНУ. Прынамсі, вызначаны адзнакі, якія будуць прыраўноўвацца да нездавальняючых па выніках цэнтралізаванага тэставання ў гэтым годзе.

Устаноўлена, што для асоб, якія паступаюць для атрымання вышэйшай адукацыі, адзнакамі па вучэбных прадметах, што прыраўноўваюцца да нездавальняючых па выніках ЦТ, у балах па стобальнай шкале ад 0 да 100 балаў (уключна), з'яўляюцца: ад 0 да 9 балаў (уключна) — па рускай і беларускай мовах; ад 0 да 14 балаў (уключна) — па матэматыцы, фізіцы, хіміі і біялогіі; ад 0 да 19 балаў (уключна) — па гісторыі Беларусі, сусветнай гісторыі найноўшага часу, грамадазнаўству, геаграфіі, замежных мовах (англійская, нямецкая, французская, іспанская).

Для асоб, якія паступаюць для атрымання вышэйшай адукацыі ў вочнай (дзённай) форме навучання за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту пры ажыццяўленні дадатковага набору на месцы, што засталіся вакантнымі пасля залічэння абітурыентаў, такімі адзнакамі з'яўляюцца: ад 0 да 4 балаў (уключна) — па рускай і беларускай мовах; ад 0 да 9 балаў (уключна) — па матэматыцы, фізіцы, хіміі і біялогіі; ад 0 да 14 балаў (уключна) — па гісторыі Беларусі, сусветнай гісторыі найноўшага часу, грамадазнаўству, геаграфіі, замежных мовах.

Падаецца, што такі разлік нездавальняючых адзнакаў разлічаны выключна на шчырых дэбілаў. Бо не набраць па рускай альбо беларускай мове 5 балаў з магчымых 100 могуць толькі людзі, якія зусім не ўмеюць пісаць і чытаць.

З аднаго боку, шкада выкладчыкаў ВНУ, якія будуць навучаць такіх асобаў. Бо чалавек, які не вывучыў мову ў школе, наўрад ці паддаецца далейшаму навучанню. Але, з іншага, наша Мінадукацыі можа цалкам ганарыцца: ніхто не скажа, што ў нас вышэйшая адукацыя недаступная. Яна даступная нават шчырым двоечнікам (калі, канешне, будзе глабальны недабор нармальных вучняў).

Так што маладзёнам трэба вызначацца: альбо вучоба, альбо хакей.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Мікалай Ладуцька



**У Мінску ўсё павінна быць прыўкрасна, і сметніцы — таксама, вырашыў мэр сталіцы Мікалай Ладуцька. І запатрабаваў ад уладальнікаў кавярняў усталяваць «правільныя» сметніцы, паведамляе агенцтва «Мінск-Навіны».**

Быў абраны адзіны дызайн для сметніц, якія ўсталёўваюць побач з крамамі, аб'ектамі грамадскага харчавання і іншымі ўстановамі, размешчанымі ўздоўж праспекта Незалежнасці і на цэнтральных вуліцах горада. Гэты дызайн быў зацверджаны ў Мінгарвыканкаме. ЖРЭА раёнаў выдалі арандатарам адпаведныя загады аб замене скрыняў.

Але справа ў тым, што гэтыя сметніцы не маюць беларускага аналагу. Эталон узялі замежны, а беларуская прамысловасць не здолела яго паўтарыць — такая ўжо ў нас прамысловасць, што нават не можа сметніцу скапіяваць. Таму ўладальнікам кавярняў і крамаў усё ж давядзецца набыць замежныя сметніцы, хоць і каштуюць яны значна даражэй.

Вось такія ў нас «імпартазамяшчэнне», «беражлівасць» і «эканомія валютных сродкаў».

## Анатоль Сівак



**Міністр транспарту і камунікацый Беларусі Анатоль Сівак сказаў расіянам: «Нічога асабістага — проста бізнэс». І ніякай палітыкі тут няма. Але «Белавія» спыняе рэйсы ў акупаваны расіянамі Крым.**

На сённяшні дзень «Белавія» не прадае квіткі на тыя рэйсы, якія былі ў раскладзе з чэрвеня па жнівень. Гэта выклікана тым, што эканоміка гэтых рэйсаў не вельмі добрая», — сказаў Сівак. Між тым, ён растлумачыў, што нельга казаць пра адсутнасць авіязносін паміж Мінскам і Крымам, бо можна ляцець транзітам праз Маскву.

Сівак звярнуў увагу на тое, што ў Расіі прынялі рашэнне аб датацыях на авіяпералёты ў Крым. «Калі нам ажыццяўляць сёння перавозкі ў Крым, то гэта трэба ўлічваць. І яшчэ, улічваючы пэўныя праблемы з прасторай, трэба будзе ляцець праз расто ўскі рэгіён, а гэта павялічае выдаткі кампаніі. Паводле разлікаў, калі ляцець праз Маскву, дзе выкарыстоўваюцца датацыі, то гэта будзе танней больш чым на 50 еўра, чым ляцець нашым самалётам праз растоўскі рэгіён», — растлумачыў міністр. Ён дадаў, што на рэйсах з Масквы ў Крым датацыі распаўсюджваюцца і на беларускіх пасажыраў.

## Дар'я Домрачава




**Беларускіх алімпійцаў, якія падымаліся на п'едэстал падчас зімовай Алімпіяды ў Сочы, увекавечаць на паштовых марках. Але не пашанцавала Герою Беларусі Дар'і Домрачавай. Легендарную ўжо біятланістку ці то нарэшце правільна напішуць, ці то памыляцца ў прозвішчы.**

Справа ў тым, што серыя «Медалісты XXII зімовых Алімпійскіх гульняў у Сочы», якая будзе выпушчаная ў абарачэнне 2 мая, выкананая на беларускай мове. Але прозвішча лепшай біятланісткі краіны па-беларуску напісана не згодна з правіламі беларускай арфаграфіі, а беларускамоўнай «калькай» з рускай — «Домрачэва». Праз «Э».

Як патлумачыла прэс-сакратар НАК Беларусі Анастасія Марыніна, у пашпарце прозвішча біятланісткі напісанае «Домрачэва». Відавочна, што і на марку ўзялі «пашпартныя дадзеныя».

Тым не менш, згодна з правіламі беларускай мовы, правільна пісаць «Домрачава».

Дар'я не ў першы раз трапляе на маркі — чатыры гады таму, пасля гульняў 2010 года ў Ванкуверы, дзе Домрачава стала бронзавым прызёрам, у гонар яе таксама была выпушчаная марка. Тады яе прозвішча, таксама па-беларуску, было напісана правільна — «Домрачава».

Што ж тычыцца ўласна марак, то ў серыю ўваходзяць тры паштовыя маркі і блок. На асобных марках размешчаны выявы Алы Цупер, Антона Кушніра і Надзеі Скардзінай. Блок ж цалкам прысвечаны Домрачавай.

а | Азбука паліталогіі

# Пераадоленне «веймарскага сіндрому»



Сяргей НІКАЛЮК

**Працэс пошуку новай ідэалогіі ў Расіі паспяхова завершаны: самы вялікі падзелены народ плануецца сабраць у адзіны «Рускі свет».**

У сувязі з выбарамі дэпутатаў мясцовых Саветаў НІСЭПД пасунуў тэрміны правядзення чарговага даследавання на 24 дні. Гэты, здавалася б, выключна механічны зрух істотным чынам паўплываў на вынікі апытання.

Зразумела, не выбарчая кампанія выступіла ў якасці фактару, які павысіў узровень аптымізму беларусаў. Яны «заразіліся» эйфарыяй, якая ахапіла расіян у сувязі з далучэннем Крыму.

Людзі рэагуюць не на падзеі, а на іх інтэрпрэтацыю. Але ўсё, што выходзіць па-за межы паўсядзённых клопатаў, большасць з нас самастойна інтэрпрэтаваць не здольныя. Вось тут і прыходзяць на дапамогу СМІ. У першую чаргу, тэлебачанне.

Прагляд тэлепраграм — паза канкурэнцыяй сярод асноўных заняткаў сучаснага чалавека старэй чатырох гадоў (акрамя сну). На «скрыню» ён марнуе без дзвюх хвілін чатыры гадзіны на суткі. Адсюль папулярнасць памылкі, нібыта тэлебачанне — гэта акно ў свет. Насамрэч жа тое, што прымаецца за акно, з'яўляецца шырмай ці, у лепшым выпадку, крывым люстэркам. Таму змены ў грамадскай думцы, зафіксаваныя сацыёлагамі, — толькі рэха медыйных падзей. Што і пацвердзіла чарговае апытанне НІСЭПД.

Чалавек, які сфармаваўся, свае базавыя ўяўленні пра свет змяніць не ў стане, таму для якасных зрухаў спатрэбяцца не месяцы і гады, а змена пакаленняў. Пры гэтым не факт, што маладыя людзі не пойдуць па шляху бацькоў. Не выпадкова ж беларуская «дзяржава для народа» распрацавала ўласную ідэалогію. Яе асноўная задача заключаецца ў аднаўленні савецкага чалавека.

І варта прызнаць, што з гэтай задачай «дзяржава для народа» паспяхова спраўляецца. Сёння, як і дваццаць гадоў таму, беларусы не здольныя зрабіць выбар паміж Еўропай і Расіяй, паміж капіталізмам і сацыялізмам. У прыватнасці, у сакавіку на пытанне: «Які грамадскі лад больш прымальны для Беларусі?» адказы рэспандэнтаў падзяліліся практычна пароўну: капіталізм — 38,3%, сацыялізм — 39,9%, а амаль кожны пяты не змог адказаць.

### Актуалізацыя вобразу ворага

Апошнія падзеі ў Расіі істотна знізілі шанцы Беларусі на еўрапейскі шлях развіцця. І справа не ў змяншэнні колькасці прыхільнікаў інтэграцыі з 36% у снежні да 30% у сакавіку — гэта часовае ваганне, і не больш за тое. Праблема ў Расіі.

Я не з'яўляюся прыхільнікам пракрамлёўскага палітолага Сяргея Караганава, тым не менш дам яму слова: «Галоўнае — гэта жорсткі намер Масквы змяніць правілы гульні, якія ёй навязваў Захад апошнія чвэрць стагоддзя. Расія не здолела — дый і не жадала — падладзіцца, і цяпер адмаўляецца ад спробаў стаць часткай Захаду» (вылучана — С.Н.).

Паводле Караганава, палітыка збліжэння з Захадам спараджала ў вялікай нацыі «веймарскі сіндром», ад якога яна вырашыла пазбавіцца — і скарысталася падзеямі ва Украіне як падставай.

Караганаў упэўнены, што «пры цяперашняй бюракратыі, карупцыі, расколе элітаў, іх непатрыятызме, змяншэнні колькасці і пагаршэнні якасці чалавечага капіталу цяперашняя мадэль не можа забяспечыць не тое што развіццё краіны, але і ўтрыманне яе доўгачаканага суверэнітэту».

Усё пералічанае можна акрэсліць адным словам — «крызіс». Для яго пераадолення патрэбны штуршок звонку. Актуалізацыя вобразу ворага за кошт канфрантацыі з Захадам і павінна спарадзіць штуршок патрэбнай сілы. Такая вось логіка.

Вынік штуршку фіксуюць усе расійскія сацыялагічныя службы. Так, паводле дадзеных Фонду грамадскай думкі (ФОМ), на працягу студзеня-лютага 2014 года электаральны рэйтынг У. Пуціна вагаўся ў межах 44–46% (сярэдняе значэнне ў 2013 годзе — 45%). Але за перыяд з 2 па 30 сакавіка ён павяліўся на 18 пунктаў — да 66%! Цікавая дэталь — паспяховыя для расійскіх спартсменаў зімовыя Алімпійскія гульні ў Сочы, якія абышліся падаткаплацельшчыкам амаль у 50 мільярдаў долараў, на электаральным рэйтынгу прэзідэнта практычна не адбіліся.

Сам па сабе завоблачны рэйтынг кіраўніка дзяржавы да зніжэння ўзроўню карупцыі не вядзе. Не здольны ён павысіць і якасць «чалавечага капіталу». Але выкарыстанне мабілізацыйнага механізму для падтрымання аўтарытарнай сістэмы не з'яўляецца чымсьці незвычайным. Паводле меркавання дырэктара «Лявада-Цэнтра» Льва Гудкова, з яго дапамогай улада здольная вырашыць трыадзіную задачу:

- узмацніць кантроль крамлёўскай групоўкі над бягучымі падзеямі;
- заблакаваць інтарэсы асобных уплывовых груп унутры ўлады;
- ва ўмовах прафесійнай дэградацыі інтэлектуальнай эліты перафарматаваць мэты грамадскага развіцця.

### Пуцінскія прэтарыянцы

Звычайна адзін лідар не ў стане даць адказы на два ці больш паслядоўныя выклікі. Гэта азбука паліталогіі. «Вар'яцтва гэтага роду, — адзначаў яшчэ ў 30-я гады гісторык Арнольд Тойнбі, — нярэдка вынікае з ілюзіі былога героя, быццам ён заўсёды зможа паўтарыць свой подзвіг, калі гэтага запатрабуе сітуацыя. <…> Надыходзіць псіхалагічная катастрофа, калі суб'ект, ап'янелы поспехам, страчвае душэўную і разумовую раўнавагу і сам становіцца перадумовай няшчасцяў, спрабуючы дамагчыся немагчымага. Гэта самая распаўсюджаная тэма афінскай драмы V ст. да н.э.».

Папулярная яна сёння і ў Беларусі. Адзіны палітык (АП) здолеў падняць уладу з бруду і аднавіць дзяржаўнасць за кошт разумнага балансу трох кампанентаў: уладнай «вертыкалі», рынку і расійскіх датацый. Аднак ужо да сярэдзіны «нулявых» гэты вінегрэт вычарпаў свой унутраны рэсурс. Новы выклік прынцыпова адрозніваецца ад папярэдняга. Ён спароджаны самім «вінегрэтам», вартасці якога сталі яго недахопамі. АП ж, ап'янелы папярэднім поспехам, спрабуе звыклымі яму метадамі адказаць на выклік, якія ён сам жа і спарадзіў.

У Расіі падзеі развіваюцца па падобным сцэнары. Пуцін прыйшоў да ўлады на хвалі масавага запыту на аднаўленне парадку, а парадак у Расіі здольная забяспечыць толькі бюракратыя.

Падпалкоўнік КДБ, які, паводле трапнага азначэння палітолага Уладзіміра Пастухова, ажыццявіў палітычную нацыяналізацыю, літаральна «адшкроб» уладу ад асобна ўзятых алігархаў. Зрабіў ён гэта рукамі новых прэтарыянцаў (лац. praetoriani — асабістыя целаахоўнікі імператараў Рымскай імперыі).

Пуцінскія прэтарыянцы — гэта наменклатура эпохі рынкавай эканомікі. Але, у адрозненне ад выразна структураванай партыйнай наменклатуры, прэтарыянцы Пуціна арганізаваныя паводле сеткавай структуры. Сёння «свае» людзі ёсць практычна ва ўсіх ведамствах і буйных камерцыйных структурах, незалежна ад іх формы ўласнасці.

Такім чынам, алігархія эпохі Ельцына апынулася пераможанай, але не дзяржавай, а сілавымі алігархамі. Прэтарыянцы зацікаўленыя ў грамадскім дабрабыце не больш за бенефіцыяраў закладных аўкцыёнаў. У выніку крадзеж саступіў месца рабаванням, а карупцыя — сілавому рэкету і непрыкрытаму гвалту.

Найбольш дакладна, на мой погляд, вынік пуцінскіх пераўтварэнняў апісаў эканаміст Міхаіл Дзялягін: «Расіяй кіруе парадаксальны, але вельмі арганічны сімбіёз ліберальных фундаменталістаў, што забіраюць грошы насельніцтва на карысць бізнэсу, і сілавой алігархіі, што забірае тыя ж грошы ў бізнэсу для асабістага непрадукцыйнага спажывання. Гэтая эканоміка мае непараўнальна больш «самаедскі» характар, чым савецкая. Па сутнасці, гэта двухступеньчаты стрававальны тракт, які пераптраўляе Расію і ў прынцыпе не здольны да развіцця».




### З апорай на ўласныя слабасці

Не паспеўшы нарадзіцца, пуцінскі праект аднаўлення дзяржавы затрашчаў па швах. Усе папярэднія праекты для эфектыўнага кантролю вышэйшай улады грамадства і эліты мелі ў сваім распараджэнні ідэалогію. Мэтанакіраваныя намаганні па яе ўваскрашэнні былі яшчэ пры Ельцыне, аднак скончыліся яны безвынікова.

За два гады да рэферэндуму ў Крыме ўжо цытаваны палітолаг Пастухоў прапанаваў тры магчымыя варыянты выхаду з сітуацыі, якая склалася. Першы варыянт — прамы пераход да дэмакратыі. Верагоднасць яго блізкая да нуля, бо адсутнічаюць значныя зрухі ў палітычнай культуры, якія зрабілі б «дэмакратычны праект» больш перспектыўным, чым дваццаць гадоў таму.

Другі варыянт — калапс пасля працяглай стагнацыі. Яго верагоднасць палітолаг ацаніў як максімальную. І, нарэшце, трэці варыянт — рашэнне пытання «па-руску». На змену цяперашняму Пуціну прыходзіць больш моцны Пуцін, які замяняе «камерцыйны» праект новым «ідэалагічным» праектам. «А вось што гэта будзе за ідэалогія, сказаць цяжка. Хутчэй за ўсё, ёю стане нейкая варыяцыя на тэму нацыянал-сацыялізму».

Што мы маем сёння? Я мяркую, падзеі развіваюцца паводле трэцяга варыянту, але з адной важнай агаворкай: ці атрымаецца ў цяперашняга Пуціна стаць больш моцным Пуцінам. Пакуль усё складаецца для яго паспяхова: актуалізаваны вобраз ворага, мабілізавана грамадства, эліта пакорліва пагадзілася на «нацыяналізацыю». Як тут ні прыгадаць выказванне алігарха Алега Дзерыпаскі: «Калі дзяржава скажа мне вярнуць «Русал», я вярну». Пуцін, як вядома, сяброў не здае. Ён 14 гадоў прыкрываў мільярдэраў першага і другога прызыву ад народа, і цяпер надышла іх чарга прыкрываць Пуціна, у тым ліку і шляхам вяртання «блудных» капіталаў у Расію.

Выразна праглядаюцца сёння і контуры новай ідэалогіі. Згодна з Пуціным, «русский народ стал одним из самых больших, если не сказать, самым большим разделенным народом в мире». Аднавіць гістарычную справядлівасць, сабраць падзелены народ у адзіны «Рускі свет» — вось задача, дзеля якой Расія гатовая канчаткова адмовіцца стаць часткай Захаду.

Але такая адмова азначае, што будаваць «Рускі свет» давядзецца, абапіраючыся на ўласныя сілы, дакладней, на ўласныя слабасці, бо ўласных сіл для мадэрнізацыйнага рыўку ў Расіі няма. Прэтарыянцы вырашаць задачы развіцця не здольныя ў прынцыпе. Не на тое вучыліся.

У працэс будаўніцтва «Рускага свету» будзе ўцягнутая і Беларусь. Вопыту мадэрнізацыі з апорай на ўласныя слабасці ў рэспублікі-партызанкі багата, і сёння яна гатовая ім шчодра дзяліцца.

# Атам мірным не бывае

Сяргей ПУЛЬША

**З таго дня, як выбухнуў Чарнобыль, прайшло амаль 30 гадоў. Але, як сведчаць навукоўцы, праблемаў з часам не паменела. А ў выніку гаспадарчай дзейнасці на забруджаных тэрыторыях і будаўніцтва АЭС у Беларусі іх яшчэ і пабольшае.**




Напярэдадні чарговай гадавіны катастрофы на ЧАЭС грамадскае аб'яднанне «Экадом» зладзіла традыцыйны круглы стол па абмеркаванні чарнобыльскіх і постчарнобыльскіх праблемаў. Гэтым разам ён прайшоў пад тэмай экалагічных наступстваў ядзерных катастрофаў. Але беларускі кантэкст наклаў на дыскусію свой адбітак.

## Закрылі тэму?

Былы адказны сакратар Камісіі па расследаваннях прычынаў Чарнобыльскай аварыі Вярхоўнага савета СССР, кандыдат тэхнічных навук Юры Воранежцаў у сваім выступе адзначыў — расслабляцца рана. Канешне, па яго словах, беларуская ўлада робіць усё, каб сапраўдных лічбаў пра наступствы ЧАЭС грамадства не даведалася. Зараз шмат кажуць пра тое, што тэрыторы, пацярпелыя ад аварыі на ЧАЭС, ужо прыдатныя да нармальнага жыцця і гаспадарчай дзейнасці. Падрабязнай інфармацыі ж па захворваннях на гэтай тэрыторыі знайсці амаль немагчыма.

Але, як кажа Воранежцаў, даводзіцца карыстацца і ўскоснымі лічбамі, якія таксама яскрава паказваюць наступствы аварыі. «Штогод, па дадзеных Міністэрства аховы здароўя, на анкалогію захворвае 42 000 чалавек. З іх 9 000 — у забруджанай Гомельскай вобласці. То бок колькасць захворванняў на тэрыторыі, якая забруджаная радыяцыяй, у паўтара разы вышэй, чым сярэднія па краіне», — адзначыў Воранежцаў.

Тое ж паказваюць і лічбы тых, хто стаіць на ўліку ў анкадыспансерах. Калі па краіне гэтая лічба блізу 250 тысяч чалавек, то з іх 40 тысяч — у Гомельскай вобласці. У паўтара разы больш, і нічым, акрамя Чарнобылю, гэта не патлумачыць.

Увогуле ж, па дадзеных Варонежцава, колькасць розных захворванняў у зонах, пацярпелых ад Чарнобылю, у параўнанні з «дачарнобыльскім перыядам» узрасла ў 34 разы.

## Не такія ўжо і малыя

Усё гэта звязана, мяркуе Варонежцаў, з тым, што радыяцыя ўздзейнічае на ДНК чалавека і на яго генатып. «Хлопчык і дзяўчынка, якія нарадзіліся адразу пасля Чарнобылю, могуць звонку выглядаць нармальнымі і здаровымі. Яны вырастаюць, ствараюць сям'ю, у іх нараджаецца дзіця. І вось гэтае дзіця ўжо можа быць хворае», — кажа Варонежцаў. Захварэць могуць і іх далейшыя нашчадкі.

За такія даследаванні «малых дозаў радыяцыі» на арганізм чалавека беларускі прафесар Юры Бандажэўскі паплаціўся турмою. Зараз ён не працуе ў Беларусі. Дый увогуле, працягласць чалавечага жыцця пакуль што не дазваляе паставіць эксперымент па захворваннях на людзях.

Але ёсць і іншыя даследаванні. Навуковы сакратар Еўрапейскага камітэта радыяцыйнай рызыкі Крыс Басбі даследаваў уздзеянне невялікіх дозаў радыяцыі ў Фалуджы ў Іраку на мышах-пясчанках. Там, дзе ў выніку вайны ЗША прымяняла зброю з абедненым уранам, генетычныя змены і хваробы ў выніку невялікіх дозаў апраменьвання ў гэтых мышэй назіраліся на працягу 22 пакаленняў.

Як вядома, асноўнымі «доўгажывучымі» радыеактыўнымі элементамі, выкінутымі ў паветра ў выніку аварыі на ЧАЭС, з'яўляюцца цэзій–137, стронцый–90 і амерыцый–241. Перыяд паўраспаду гэтага варыянта цэзію — 33,5 гады, стронцыю–90 — 29 гадоў. Але гэта той тэрмін, за які элементы распадаюцца толькі напалову. Да таго ж, у выпадку распаду стронцыю–90 утвараецца радыеактыўны ітрый, які потым ператвараецца ў стабільны цырконій–90.

Стронцый–90 назапашваецца ў касцях, і вывесці яго з арганізму немагчыма. Хуткім часам мы пабачым шматлікія хваробы з-за «замяшчэння» ў касцях стронцыю на ітрый і цырконій. Тое ж самае з цэзіем–137, які «пасяляецца» ў цягліцах і пры распадзе ператвараецца ў барый.

Самы доўгажывучы элемент — амерыцый–241. Яго перыяд паўраспаду — 432 гады. Элемент дэманструе вельмі высокую рухомасць і добра раствараецца ў вадзе. Гэтыя якасці дазваляюць яму хутка разносіцца па органах з патокам крыві і асядаць у нырках, печані і костках. Пасля аварыі на ЧАЭС амерыцый–241 прысутнічаў не толькі ў атручаным паветры, але і асеў у глебе, у выніку чаго атрымаў магчымасць назапашвацца ў раслінах. Для наступных пакаленняў беларусаў гэта не вельмі радасная падзея…

## Бомба запаволенага дзеяння

У той жа час Беларусь не толькі пачала гаспадарчую дзейнасць на забруджанай тэрыторыі, а ў дадатак да гэтай катастрофы яшчэ і будуе ў сябе атамную станцыю. Атамная станцыя апынаецца сур'ёзнай небяспекай, нават калі яна будзе працаваць у «безаварыйным» рэжыме. Справа ў тым, што і падчас «нармальнай» працы атамнай станцыі прысутнічаюць выкіды радыеактыўных рэчаў.

Той жа Крыс Басбі праводзіў грунтоўнае даследаванне выкідаў у атмасферу радыеактыўных рэчаў «нармальна працуючай» АЭС у брытанскім Сэлафілдзе. Пасля пачатку актыўнага дзеяння АЭС там узрасла колькасць лейкозаў. Мірныя і «стандартныя» выкіды «безаварыйна працуючай» АЭС выклікалі павелічэнне выпадкаў дзіцячай лейкеміі. Па падліках навукоўца, з пачаткам працы АЭС колькасць дзіцячых лейкозаў на прылеглай тэрыторыі павялічылася ў 4,2 разы. «Спецыялісты-атамшчыкі нам кажуць, што такога быць не можа: з нармальна працуючай атамнай станцыі радыеактыўныя выкіды мінімальныя, і доза апраменьвання мізэрная. Але мы на свае вочы бачым павелічэнне захворвання лейкеміяй. І інакш, як дзейнасцю АЭС, гэта не патлумачыш», — мяркуе Басбі.

Юры Варонежцаў лічыць, што галоўная небяспека дзеючай станцыі з рэактарам кшталту расійскага ВВЭР, якую маюць пабудавацца ў нас, — гэта «штатныя» выкіды ёду–131. Ёд–131 мае малы перыяд паўраспаду — 8 сутак, таму найбольшую небяспеку прадстаўляе на працягу першага месяца пасля таго, як патрапіць у навакольнае асяроддзе. З-за малога перыяду паўраспаду ён амаль імгненна ўздзейнічае на шчытападобную залозу чалавека. Нават невялікая колькасць радыеактыўнага ёду, які трапляе ў арганізм чалавека, дрэнна адбіваецца на здароўі гэтага найважнейшага органа і можа выклікаць рак шчытападобнай залозы ў пажылым узросце.

Што ж тычыцца «невялікай колькасці», то тут Варонежцаў папярэджвае: «безаварыйная» АЭС выкідвае за год столькі ёду–131, што, калі распусціць яго ў малацэ, хопіць, каб забрудзіць 40 тысяч тон малака!

Так што разам з АЭС нам трэба будаваць новы дзіцячы лейкемічны і ракавы цэнтр. А лепш, канешне, два.

## Падвойная пагроза

Радыяцыя пасля Чарнобыльскай АЭС «распаўзлася» па ўсёй Беларусі. З прадуктамі харчавання, з пылам і дымам, любымі сродкамі, але зараз, па словах нябожчыка прафесара Івана Нікітчанкі, у краіне няма месцаў, дзе ў той ці іншай ступені радыяцыя б не прысутнічала. І гэта стварае небяспеку для ўздзеяння новых дозаў радыяцыі.

Па словах таго ж Крыса Басбі, навукоўцы праводзілі даследаванні таго, як рэагуюць жывёлы ў Чарнобыльскай зоне на дадатковае апраменьванне. На людзях, са зразумелых прычынаў, такія эксперыменты не ставіліся. Аказваецца, што жывёлы, якія адзін раз атрымалі «радыяцыйны ўдар» па сваім арганізме, нейкі дадатковы імунітэт альбо «устойлівасць да радыяцыі» не выпрацоўваюць. Наадварот — сітуацыя становіцца толькі горш. Той, хто патрапіў пад уздзеянне радыяцыі адзін раз, становіцца яшчэ больш чуллівы да наступнага ўздзеяння радыенуклідаў.

«Сапраўды, гэта супярэчыць здароваму сэнсу, але менавіта гэта паказалі вынікі даследаванняў. Чалавечы арганізм пасля аднаго ўздзеяння радыяцыі становіцца яшчэ больш чуллівым для наступнага ўздзеяння радыенуклідаў», — падкрэсліў Басбі.

Такім чынам, атамная станцыя ў Астраўцы можа стаць каталізатарам росту тых хваробаў, якія звязаныя з радыеактыўным забруджваннем, — выпадкаў раку, лейкеміі і іншага, нават у тым раёне, які нібыта ад Чарнобылю і не пацярпеў.

## Што рабіць?

Тым не менш, беларускія ўлады ўводзяць у абарачэнне і тэрыторыі, якія пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС, і будуюць сваю атамную станцыю. ёПрымусіць уладу адмовіцца ад гэтых планаў амаль немагчыма. Што ж рабіць з забруджанымі тэрыторыямі?

Увогуле, па меркаванні Крыса Басбі, беларусам трэба трымацца ад забруджаных тэрыторыяў як мага далей. Але, калі ўжо так карціць увесці небяспечныя тэрыторыі ў дзеянне, то зроблена гэта можа быць так, каб мінімізаваць наступствы ядзернай катастрофы для чалавека.

Напрыклад, на забруджанай тэрыторыі можна паставіць ветравыя і сонечныя электрастанцыі. Гэта, канешне, дорага, але, паставіўшы іх адзін раз, можна забыцца на іх і атрымліваць з забруджанай тэрыторыі чыстую электрычную энергію. Можна таксама весці спецыфічную і «непрадукцыйную» сельгасвытворчасць: ёсць шэраг раслінаў, якія ўсмоктваюць радыяцыйныя рэчы. Такімі раслінамі можна ачышчаць тэрыторыю, але потым даводзецца гэтыя расліны ўтылізаваць.

Карацей, шмат чым можна заняцца, але толькі не трэба разносіць радыяцыю па краіне.

# Заходнерусізм: анатомія здрады




Сайты з ухвальнай прапагадай імперскай палітыкі Пуціна, а таксама ідэй заходнерусізма

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Анексія Крыму Расіяй і падзеі ва Украіне значна паўплывалі на актывізацыю дзейнасці прарасійскіх маргіналаў у Беларусі, якія вызнаюць заходнерускія каштоўнасці і адмаўляюць беларусам у іх праве на нацыянальную гісторыю, культуру і нават незалежнасць.**

Падаецца, што гэтую небяспеку, нарэшце, заўважыў і Лукашэнка. Падчас паслання Нацыянальнаму сходу і народу 22 красавіка ён, у прыватнасці, адзначыў, што «сёння з'яўляюцца дзіўныя разважанні наконт таго, што ў Беларусі, быццам бы, пачынаюць прыціскаць ні то рускіх, ні то рускую мову». «Канешне, большае глупства прыдумаць цяжка», — падкрэсліў кіраўнік Беларусі.

Дык хто ж і як прасоўвае заходнерускія ідэі ў Беларусі і «крычыць пра тое, што ў нашай краіне рускіх «б'юць»?

## Крым — пачатак?

Пасля аб'яўлення вынікаў рэферэндуму ў Крыме адзін з найбольш адыёзных расійскіх імперскіх сайтаў «Рэгнум» апублікаваў інтэрв'ю з удзельнікамі праекта «Заходняя Русь», які дзейнічае ў Беларусі.

Адзін з кіраўнікоў праімперскіх сіл на Беларусі Ігар Зелянкоўскі заявіў, што «падзеі ў Крыме важныя для сучаснікаў, таму што сімвалізуюць пачатак аднаўлення адзінства рускага свету і той часткі еўразійскай палітычнай прасторы, якая культурна і гістарычна адносіцца да тэрыторыі былой Расійскай імперыі».

Іншы ідэолаг заходнерусізму ў Беларусі Усевалад Шымаў сцвярджае, што падзеі ва Украіне звязаны з абуджэннем рускай ідэнтычнасці, карані якой у традыцыях маларасійства.

17 сакавіка на беларускім тэлеканале АНТ было паказана ток-шоў «Пазіцыя», якое таксама мела заходнерускую накіраванасць. Падчас перадачы гучалі думкі пра «бандэраўскую Украіну», пра «славянскае адзінства» і «ўзброены путч у Кіеве».

Пісьменнік Вячаслаў Бандарэнка, якога раней запрашалі ў перадачу адыёзнага Уладзіміра Салаўёва на канале «Расія», заявіў, што, нібыта, «барацьба з праектам «Новая Украіна» — з'яўляецца справай гонару для ўсіх сумленных людзей». На яго меркаванне, «справа найбліжэйшай будучыні — супрацьстаяць спробам пераўтварыць Украіну ў аплот «дэмакратычнага» нацыянал-сацыялізму, які не быў дабіты ў 1945-м». Пры гэтым адэпт заходнерусізму назваў айчынныя нацыянальныя сілы «беларускімі шавіністамі», якія пужаюць народ страшылкамі. Гэтую думку працягнуў супрацоўнік навукова-даследчага інстытуту Узброеных сіл Беларусі Валер Сураеў, які адзначыў, што «беларускія нацыяналістычныя дзеячы запалохваюць беларускіх абывацеляў захопам іх краіны Расіяй».

## Пуцін, мы чакаем цябе…

16 красавіка, напярэдадні «прамой лініі з Уладзімірам Пуціным» «расійскія суайчыннікі Беларусі» на чале са старшынёй Віцебскага грамадскага аб'яднання «Рускі дом» Андрэем Герашчанкам накіравалі расійскаму прэзідэнту зварот, у якім папрасілі таго падтрымаць рускае насельніцтва паўднёва-ўсходняй Украіны, якое змагаецца з «кіеўскай бандэраўска-фашысцкай хунтай».

Гэта, дарэчы, не першая чалабітная ў Крэмль з боку адэпта заходнерусізму з Віцебска. Падчас прэзідэнцкіх выбараў у Расіі ў 2011 годзе былы беларускі чыноўнік заяўляў аб тым, што «з вяртаннем Уладзіміра Пуціна беларусы звязваюць пэўныя надзеі на абарону сваіх эканамічных і палітычных інтарэсаў». На думку «пісьменніка» Герашчанкі, у Беларусі нібыта фармуецца прарасійскі сектар грамадскага жыцця, які ўжо не асацыюецца з беларускай вертыкаллю ўлады. «З вяртаннем Пуціна заходнерусы звязваюць незваротную інтэграцыю Беларусі з Расіяй», — пазначаў той.

## Заходнеруская ідэалагічная дыверсія

З аднаго боку, падаецца, што гэтыя перадачы і публікацыі — усяго толькі меркаванні акрэсленай групы маргіналаў. Аднак не ўсё так проста. Вышэйўзгаданыя ідэі тыражуюцца ў тым ліку праз дзяржаўныя СМІ. Антыўкраінскія заявы заходнерускай «пятай калоны» ў Беларусі прымушаюць задумацца над тым, што і беларускае грамадства да сённяшняга дня, на жаль, не кансалідавалася, і таму існуе пагроза яго расколу па «ўкраінскім сцэнары».

Увесь перыяд пасля падзення СССР жыхары нашай краіны вымушаны лавіраваць паміж беларускім «нацыяналізмам» і афіцыйнай беларускай ідэалогіяй, якая, у асноўным, базіруецца на выпрацаваных яшчэ ў савецкія часы пастулатах. Дадзеная складаная сітуацыя стварыла спрыяльныя ўмовы для дзейнасці ў Беларусі прадстаўнікоў заходнерускай, імперскай ідэалогіі. Ключавой праблемай з'яўляецца тое, што значная колькасць нашых грамадзян мае слабыя веды айчыннай гісторыі. З часоў Расійскай імперыі беларусам унушалася, што яны з'яўляюцца часткай расійскай цывілізацыі, нібыта, уся іх гісторыя была звязана з Масквой. Пасля кастрычніка 1917 года царскія пастулаты былі «мякка» замененыя на бальшавіцкія, але ідэя імперскасці нікуды не знікла. На жаль, гэты прарасійскі накірунак часткова падтрымліваюць і сённяшнія беларускія ўлады.

## Спроба перапісаць гісторыю Беларусі

Аналізуючы аспекты беларускай мінуўшчыны, адэпты заходнерусізму не вынаходзяць нічога новага, а толькі паўтараюць пастулаты часоў Расійскай імперыі і СССР. У прыватнасці, паўстанні пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі і Кастуся Каліноўскага яны называюць «польскімі», а рускіх намеснікаў у Беларусі Аляксандра Суворава і Міхаіла Мураўёва «клічуць» не інакш як «вызваліцелямі» і «нацыянальнымі героямі». На самай справе, паўстанні 1794 і 1863–1864 гадоў насілі нацыянальна-вызваленчы характар і былі накіраваныя супраць прыгнёту беларускіх земляў Расійскай імперыяй.

Зараз новым трэндам у працах ідэолагаў заходнерусізму ў Беларусі стала гісторыя Першай сусветнай вайны, 100-гадовыя ўгодкі якой адзначаюцца ў 2014 годзе. Так, падчас адной з нядаўніх канферэнцый адэпт імперскасці Аляксандр Гронскі абвінаваціў «Нашу Ніву» (гутарка ідзе пра выданне пачатку ХХ стагоддзя) у прагерманскіх і праўстрыйскіх пазіцыях напярэдадні Вялікай вайны, назваўшы беларускую газету нацыяналістычнай. Гэта сцвярджэнне выклікана не жаданнем правесці аб'ектыўны гістарычны аналіз праблемы, а прагай барацьбы з усім беларускім. На самай жа справе, «Наша Ніва» аказала значны ўплыў на фармаванне беларускай нацыянальнай самасвядомасці.

На той жа канферэнцыі ўжо ўзгаданы раней Усевалад Шымаў паспрабаваў «выкрыць» вытокі беларускага нацыяналізму і «прагерманскага макрыянеткавага характару Беларускай Народнай Рэспублікі». Ідэолаг памылкова сцвярджае, што «выспяванне» ідэі беларускага дзяржаўнага самавызначэння ішло ў нетрах Расійскай імперыі. У рэальнасці ж для царскай адміністрацыі беларусы былі толькі паслухмянай зброяй у барацьбе супраць беларускага каталіцкага і польскага дваранства на тэрыторыі Паўночна-Заходняга краю імперыі. Ні пра якую незалежнасць і нават аўтаномію беларускіх тэрыторый пад уладай двухгаловага арла не магло быць і гаворкі.

А вось прадстаўнікі каталіцкага дваранства беларускіх земляў, супраць якіх праводзіла дыскрымінацыйную палітыку царская адміністрацыя, разам з інтэлігенцыяй упершыню ў найноўшай гісторыі паспрабавалі рэалізаваць ідэю беларускай дзяржаўнасці ў выяве БНР. Так, рэспубліка ствараслася пры падтрымцы нямецкіх акупацыйных улад, але і БССР з'явілася не без удзелу чужой для беларусаў бальшавіцкай улады. Такімі былі гістарычныя рэаліі. І нягледзячы ні на што, першая ў ХХ стагоддзі спроба беларусаў абвясціць сваю незалежнасць заслугоўвае павагі і шанавання з боку цяперашніх грамадзян Рэспублікі Беларусь.

Аналізуючы тэму Першай сусветнай у беларускім кантэксце, варта паказваць, што тая вайна прынесла Беларусі жудасныя выпрабаванні. Руска-германскі фронт падзяліў беларускія землі, сотні тысяч жыхароў нашай краіны апынуліся ў вымушаным бежанстве, жаўнеры-беларусы плацілі сваім жыццём за рэалізацыю амбіцый рускага манарха. Так, быў гераізм вайскоўцаў Рускага імператарскага войска, але былі і казакі, якія рэалізоўвалі тактыку «выпаленай зямлі» і гналі беларусаў на Усход як быдла.

## Падрыхтоўка да інкарпарацыі

Да чаго ж на самай справе імкнуцца прадстаўнікі «прарасійскай грамадскасці» ў Беларусі? Трэба дакладна ўсвядоміць, што сучасныя прыхільнікі заходнерусізму спрабуюць зацвердзіць думку пра тое, што беларусы — гэта нібыта «частка вялікай рускай нацыі, нягледзячы на свае этнаграфічныя і культурныя асаблівасці».

Менавіта ў гэтым заключаецца асноўная небяспека з іх боку для фарміравання нацыянальнай беларускай ідэалогіі. Пастулат пра «агульнарускія карані беларусаў» перавандраваў з работ заходнерускіх ідэолагаў пачатку ХХ стагоддзя. І тады, і ў эпоху СССР, і зараз беларусаў спрабуюць прымусіць паверыць у тое, што яны ў этнічным сэнсе нічым не адрозніваюцца ад жыхароў спрадвечных рускіх тэрыторый. Раней любая праява беларускіх нацыянальных асаблівасцяў адразу ж трактавалася як «інтрыга польскай шляхты» або «буржуазны нацыяналізм». Зараз у матэрыялах прыхільнікаў заходнерусізму назіраюцца падобныя тэндэнцыі.

Дзейнасць заходнерусаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь — гэта добра спланаваная акцыя, накіраваная супраць усяго беларускага. Больш таго, пасля ўкраінскіх падзей становіцца зразумелым, што Крэмль не адмовіцца ад імперскіх амбіцый. Асноўная задача ўсіх гэтых «публіцыстаў», «палітолагаў» і «гісторыкаў» увесці ў розуму нашых суайчыннікаў заходнерускія каштоўнасці і ліквідаваць іх нацыянальную самасвядомасць.

Гэта можа прывесці да жудасных наступстваў. У дадзенай сітуацыі беларуская інтэлігенцыя сваёй працай павінна данесці да нашага грамадства словы айчыннага класіка Уладзіміра Караткевіча: «Абыякавы да мінулага не мае аніякай інтэлектуальнай перавагі над жывёлай, і таму ёсць першы кандыдат на маральную, а затым і фізічную смерць. Усё адно хто гэта — чалавек ці народ». Беларусы павінны ведаць і ганарыцца сваёй шматвяковай гісторыяй, культурай і нацыянальнымі традыцыямі. Гэта і з'яўляецца прышчэпкай ад заходнерускай хваробы.

TV

## 30 КРАСАВІКА, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.20** Меладрама «Шукаю цябе» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Лірычная камедыя «Афінскія вечары» (Расія).
**10.55** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**11.55** Галявая перадача.
**12.10** Eurovision. Без каментароў.
**12.15** Містычная меладрама «Маскоўскае змяркание» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**14.00** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**14.55** Eurovision. Без каментароў.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**16.25** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).
**17.30** Eurovision. Без каментароў.
**17.35** Меладрама «Вогнішча на снезе» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Панарама.
**21.40** Рамантычная камедыя «Вяселле па абмене» (Расія).



**23.25** Дзень спорту.
**23.35** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).
**00.30** Авантурная меладрама «Неацэнная каханне» (Расія). 1-я і 2-я серыі.

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** Мультфільмы.
**11.00** Фільм «Нэвэрлэнд».
**14.00** «Адналюбы». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Адналюбы». Шматсерыйны фільм . Працяг.
**20.30** Нашы навіны.
**20.55** Навіны спорту.
**21.00** «Здабытак Рэспублікі».
**23.10** Фільм «Царства нябеснае».



### ТВ

**06.30** «Вам і не снілася».
**09.10** Фільм «Асабістыя рахункі». Беларусьфільм, 1982 г.
**10.40** «Аўтапанарама».
**11.05** «Вам і не снілася».
**13.45** «Мінск і мінчане».
**14.20** Фільм «Джэйн Эйр». Францыя-Італія-Вялікабрытанія-ЗША, 1996 г.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Вам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.05** Фільм «Сустрэчны вецер». Францыя-Бельгія, 2011 г.
**21.50** «Дабро пажаліцца».
**22.15** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.10** «Энігма». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Мультфільмы.
**10.10** Стыль-бюро.
**10.45** Іранічны дэтэктыў «Разумнік» (Расія).
**12.45** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Сакрэтны фарватар» (СССР). 1-я - 4-я серыі.
**17.55** Рэпарцёр.
**18.50** Іранічны дэтэктыў «Разумнік» (Расія).
**20.45** «Імперыя песні». На біс.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** «Спортлато 5 з 36».
**21.30** КЕНО.
**21.35** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА. Чэлсі - Атлетыка. Паўфінал. Зваротны матч. Прамая трансляцыя.
**23.40** Офф-сайд.
**23.45** Ваенна-прыгодніцкі серыял «Сакрэтны фарватар» (СССР). 3-я і 4-я, заключная, серыі.



### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** «Сімвалы эпохі». Джаз.
**08.20** «Доўгі шлях у лабірынце». Мастацкі фільм. 2-я серыя.
**09.25** «Дыя@блог». «Пра прыгожае» з Крысцінай Смольскай.
**09.55** Серыял. «Мегрэ».
**10.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці джазавага трубача, скрыпача, дырыжора, кампазітара і аранжыроўшчыка Эдзі Рознера.
**11.10** «Размаўляем па-беларуску».
**11.15** «Вадзіцель аўтобуса». Мастацкі фільм па матывах аповесці Валянціна Чарных. 1-я і 2-я серыі.
**13.25** «Калейдаскоп».
**13.35** «Сімвалы эпохі». Джаз.
**13.50** «Камертон». Расійскі джазавы, класічны і эстрадны саксафаніст Георгій Гаранян.
**14.15** «Табар ідзе ў неба». Мастацкі фільм па матывах твораў М.Горкага.
**15.55** «Скарбніца Гарадзеншчыны». Стары замак у Гродне.
**16.20** «Размаўляем па-беларуску».
**16.25** «Памяці народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна прысвячаецца...».
**16.35** «Калейдаскоп».
**16.45** «Сімвалы эпохі». Джаз.
**17.00** Мультфільмы.
**17.45** «Пунсовыя ветразі». Мастацкі фільм па матывах аповесці Аляксандра Грына.
**19.10** «Размаўляем па-беларуску».
**19.15** «Сёмае неба Паўла Масленікава». Дакументальны фільм пра мастака, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, былога рэктара Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.
**19.40** «Доўгі шлях у лабірынце». Мастацкі фільм. 3-я серыя.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Серыял. «Мегрэ».
**21.55** «Дыя@блог». «Пра прыгожае» з Крысцінай Смольскай.
**22.20** «Белыя Росы». Мастацкі фільм.
**23.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці джазавага трубача, скрыпача, дырыжора, кампазітара і аранжыроўшчыка Эдзі Рознера.
**0.15 «Калейдаскоп».**
**0.20 «Сімвалы эпохі». Джаз.**

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.45, 10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40, 18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**19.35** Дэтэктыўны серыял «Чужы раён».
**23.45** Серыял «Інспектар Купер».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**07.25** «Трэцяя скрыпка», дак. фільм, 2010 г., Германія.
**08.55** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**09.10** Аб'ектыў.
**09.25** «Дзень памінання», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**09.50** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Беларуская дзіцячая літаратура – каму яна патрэбная?.
**10.20** Моўнік (лінгвістычная праграма): Полацкае Евангелле.
**10.30** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**10.40** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял.
**11.35** Форум (ток-шоу): Урокі Майдану. Адкуль бяруцца рэвалюцыі?.
**12.20** «Два каханні», маст. фільм, 2002 г., Польшча–Германія.
**13.55** «Нанэрль Моцарт», маст. фільм, 2010 г., Францыя.
**16.00** Форум (ток-шоу): Урокі Майдану. Адкуль бяруцца рэвалюцыі?.
**16.45** Моўнік (лінгвістычная праграма): Полацкае Евангелле.
**16.55** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял.
**17.50** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Занатоўкі натураліста».
**19.00** «Цудам ацалелы», маст. фільм, 2004 г., Польшча.
**20.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** «Рэвалюцыя. Нябесная сотня», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**21.45** Без рэтушы: «Зямля памерлых», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**22.00** «Генрых V», маст. фільм, 1989 г., Вялікабрытанія.
**00.15** «З хронікі Аўшвіцу», дак. серыял: «Зондэркаманда».
**00.40** «Дэфект», тэлесерыял: 4 серыя.
**01.40** «Цудам ацалелы», маст. фільм, 2004 г.,

## 1 МАЯ, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**08.55** Eurovision. Без каментароў.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Музычная камедыя «Кубанскія казакі» (СССР).
**11.05, 12.10** Меладрама «Час кахаць» (Расія). 1-я - 4-я серыі.



**11.55** Галявая перадача.
**14.55** Eurovision. Без каментароў.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** «Юбілейны канцэрт ансамбля «Сябры». 2014».
**17.00** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).
**17.50** Eurovision. Без каментароў.
**17.55** Прыгодніцкая камедыя «Вакацыі строгага рэжыму» (Расія). 1-я - 3-я серыі.
**21.00** Панарама.
**21.40** Прэм'ера на канале! Эксцэнтрычная камедыя «Службовы раман. Наш час» (Расія).
**23.25** Дзень спорту.
**23.35** «Вялікая розніца». Парадыйнае шоў (Расія).
**00.25** Авантурная меладрама «Неацэнная каханне» (Расія). 3-я і 4-я серыі.

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Фільм «Маё каханне».
**09.35** «Зваротны адлік».
**10.10** Фільм «Вышыня».
**11.55** «Мікалай Рыбнікаў. Хлопец з Зарэчнай вуліцы».
**12.55** Фільм «Дзеці Дон Кіхота».
**14.20** Камедыя «Белыя росы».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Лірычная камедыя «Дзяўчына без адрасу».



**17.55** АНТ прадстаўляе: «Рассмяшы коміка».
**18.45** Кіно «Вясна на Зарэчнай вуліцы».
**20.30** Нашы навіны.
**20.55** Навіны спорту.
**21.00** «Сёння ўвечар».
**22.40** Прэм'ера. Камедыя «Пінгвіны містара Попера».



**00.20** Містычны трылер «Джошуа».

### ТВ

**06.00** «Легенды СССР».
**08.35** Фільм «Спяшайся будаваць дом». Беларусьфільм, 1970 г.
**09.55** «Дабро пажаліцца».
**10.20** «Легенды СССР».
**12.55** Фільм «Сустрэчны вецер». Францыя-Бельгія, 2011 г.
**14.40** «Легенды СССР».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Прыгоды дылетанта».
**17.20** Фільм «Лак для валасоў». ЗША-Вялікабрытанія, 2007 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** Фільм «Вяртанне супермэна». ЗША, 2006 г.



**22.45** «Аўтапанарама».
**23.10** «Энігма». Серыял. Заключныя серыі.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Прыгодніцкі фільм «Д»Артаньян і тры мушкецёры» (СССР). 1-я, 2-я, 3-я серыі.
**14.15** Іранічны дэтэктыў «Разумнік» (Расія).
**16.10** Фільм-катастрофа «Экіпаж» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**18.55** Іранічны дэтэктыў «Разумнік» (Расія). Заключныя серыі.
**20.50** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Футбол. На шляху да чэмпіянату свету па футболе-2014.
**22.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Паўфінал. Прамая трансляцыя.
**00.00** Аўтабатл.
**00.30** «Імперыя песні». Народнае караоке-шоў.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.10** Сімвалы эпохі». Салат «Аліўе».
**08.20** «Пунсовыя ветразі». Мастацкі фільм па матывах аповесці Аляксандра Грына.
**09.45** «Настальжы». «Па жыцці і творчасці разам...». Творчы дуэт Ядзвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча.
**10.15** Серыял. «Мегрэ».
**10.55** «Белыя Росы». Мастацкі фільм.
**12.20** «Калейдаскоп».
**12.25** Сімвалы эпохі». Салат «Аліўе».
**12.40** «Прымадона». Народная артыстка Беларусі Наталля Гайда.
**13.30** «Мая цудоўная лэдзі». Спектакль Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі.
**15.45** «Калейдаскоп».
**15.50** Сімвалы эпохі». Салат «Аліўе».
**16.05** «Адкрыты сезон». Дакументальны фільм пра Беларускую дзяржаўную філармонію.
**16.45** «Шлягеры на ўсе часы». Канцэрт з твораў Аляксандра Зацэпіна.
**17.45** «Калейдаскоп».
**17.55** Сімвалы эпохі». Салат «Аліўе».
**18.05** «Запаведнымі сцежкамі беларускай зямлі». Дакументальны.фільм.
**19.00** «Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь - 90 гадоў». Дакументальны фільм.
**19.15** «Не можа быць!». Мастацкі фільм па матывах апавяданняў Міхаіла Зошчанкі.
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.15** Серыял. «Мегрэ».
**22.15** Прэм'ера. «На ростанях». Мастацкі фільм.
**23.45** «Калейдаскоп».
**23.55** «Сімвалы эпохі». Салат «Аліўе».

### НТВ

**06.25, 08.20** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**08.00, 10.00, 13.00, 19.00** Сёння.
**10.20, 13.20** Вострасюжэтны серыял «Матуля, я кілера кахаю».
**15.40** «Справа густу».
**16.05, 19.20** Дэтэктыўны серыял «Ціхае паляванне».
**00.40** «Авіятары».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Беларуская дзіцячая літаратура – каму яна патрэбная?.
**07.25** «Цудам ацалелы», маст. фільм, 2004 г., Польшча.
**09.00** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.25** Аб'ектыў.
**09.40** «Рэвалюцыя. Нябесная сотня», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**10.10** Без рэтушы: «Зямля памерлых», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**10.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**11.00** «Дэфект», тэлесерыял: 4 серыя.
**12.00** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял.
**12.55** «Будучыня працы», дак. фільм, 2012 г., Германія.
**14.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Валенцій Ванькові.
**14.30** «Генрых V», маст. фільм, 1989 г., Вялікабрытанія.
**16.45** «Дэфект», тэлесерыял: 4 серыя.
**17.45** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**18.40** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**18.55** «Вольны чалавек Андрэй Сахараў: Свабода ў выгнанні», дак. фільм, 2009 г., Францыя–Расія.
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Два на два (тэледыскусія).
**21.45** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2014», канцэрт: выступ гурта «Ляпіс Трубяцкі».
**22.20** «Альманья. Вітаем у Нямеччыне!», маст. фільм, 2011 г., Германія.
**00.25** «Расавая гігіена», дак. фільм, 2007 г., Францыя.
**01.15** «Вольны чалавек Андрэй Сахараў: Свабода ў выгнанні», дак. фільм, 2009 г., Францыя–Расія.
**02.55** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2014», канцэрт: выступ гурта «Ляпіс Трубяцкі».

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №4 (92)
(красавік)

**КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ**
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas. info

## Змест

**НАВІНЫ:** асноўныя падзеі незалежнага грамадска-літаратурнага жыцця Беларусі ........ с. 2
**ДА 80-ГОДДЗЯ СБП:** пра Аркадзя КУЛЯШОВА і Аляксандра ТВАРДОЎСКАГА ........ с. 3
**ЭСЭ:** «Безназоўнае» Сяргея ВЕРАЦІЛЫ ........ с. 4
**ПАЭЗІЯ:** вершы Зміцера ЗАХАРЭВІЧА і Альдоніі НАЎЧАНКОВАЙ с. 5
**ПРОЗА:** апавяданне «Кабак» Андрэя ФЕДАРЭНКІ ........ с. 6
**ПАЭЗІЯ:** вершы Фелікса БАТОРЫНА і Васіля ДЭБІША ........ с. 7
**ЧЫТАЛЬНЯ:** «Песня» Віктара КАЗЬКО і «Труба» Лявона ВАЛАСЮКА с. 8–9
**ПРОЗА:** апавяданне Віктара АСІПЕНКІ ........ с. 10
**ЗАПІСЫ:** «Начныя нататкі» Уладзіміра СІЎЧЫКАВА ........ с. 11
**ЭПІСТАЛЯРЫЙ:** «Калядныя вершы» Ларысы ГЕНІЮШ ........ с. 12–13
**КРЫТЫКА:** пра новыя беларускія выданні ........ с. 14
**САТЫРА І ГУМАР:** Іван МЕЛЬНІЧУК і Сяргей БЕЛАЯР ........ с. 15
**СВЕТ:** навіны літаратурнага замежжа ........ с. 16

# Дзе мы?*



Ігар ДРАКО



**Гадоў восем назад гутарыў з навуковымі мужамі з Акадэміі навук пра ідэнтычнасць беларусаў. Людзі былі розных узростаў, прытрымваліся розных палітычных поглядаў, іх навуковыя інтарэсы сягалі ў розныя сферы, але сустрэча праходзіла ў межах міждысцыплінарнага клуба, і кожны (нават той, хто не прачытаў ніводнага артыкула, які тычыўся б нацыянальнай ідэнтычнасці) меў права выказацца па тэме.**

Фармат вольнай дыскусіі добры і дрэнны адначасова. Добры — бо можна не стрымліваць сябе паняткавым і катэгарыяльным апаратам; дрэнны — бо паважаныя навукоўцы ў такой дыскусіі становяцца занадта непасрэднымі і, хоць і прызнаныя адмыслоўцы ў сваёй галіне, нярэдка кажуць усялякую лухту пра прадмет, мала ім знаёмы, але які іх хвалюе (як неабыякавых і крытычна думаючых грамадзян).

Напрыклад, адзін з прысутных там «тэхнароў» даў мне параду абавязкова прачытаць, што казаў Сталін пра нацыянальнае пытанне. Я спытаў: «Чаму вы думаеце, што я не ведаю, што ён казаў з гэтай нагоды? А калі б і не ведаў?.. Няўжо нельга разважаць пра нацыянальную ідэнтычнасць беларусаў без такіх ведаў?». На што атрымаў адказ: «Вядома ж, не! Мы ўваходзілі ў склад СССР, таму тое, што казалі пра нацыянальнае пытанне кіраўнікі Савецкага Саюза, надзвычай важна для разумення нас сённяшніх».

Далей у нашую спрэчку ўступіў яшчэ адзін удзельнік дыскусіі (таксама тэхнар):

«Чытаць Сталіна трэба таму, што ён меў сваё разуменне нацыянальнага пытання, ці таму, што на яго можна абапірацца ў пабудове канцэпцыі нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў?»

«Другое», — адказаў першы тэхнар.

«Ну вы даяце!» — сказаў другі.

«А што, толькі навамодныя аўтары валодаюць правам на праўду?»

«Зусім не!»

«Ды вы самі Сталіна чыталі?»

Спрэчка пагражала перарасці ў лаянку, таму астатнія ўдзельнікі дыскусіі пачалі заклікаць да парадку, і мадэратар, якому былі дэлегаваны паўнамоцтвы даваць слова і перарываць выступоўцаў, вярнуў абмен меркаваннямі ў «канструктыўнае рэчышча»...

Я прывёў гэты фрагмент дыскусіі васьмігадовай даўнасці зусім не дзеля таго, каб перасцерагчы: будзьце асцярожныя, у Акадэміі навук усё яшчэ працуюць «сталіністы», якія вельмі спецыфічна тлумачаць перспектывы самаідэнтыфікацыі беларусаў. На той сустрэчы казалі шмат цікавых рэчаў (асабліва тыя ж «тэхнары», якія найперш ставілі пытанні адносна падыходаў да вывучэння тэмы ідэнтычнасці, а не сцвярджалі нешта сваё). Сюжэт пра Сталіна мне запомніўся з прычыны празмернай эмацыйнасці.

Адна з маіх рэплік таксама была сустрэта даволі эмацыйна. Я сказаў, што «пануючая рэлігія ў Беларусі — зусім не хрысціянства, а канфуцыянства». І далей тлумачыў прыкладна так: «Тое, што знаходзіцца за межамі гэтага свету, нам глыбока абыякава. Мы, беларусы, вельмі зямныя, тутэйшыя, і нашае знаходжанне на зямлі мы не суадносім з вечнасцю, пра якую нам распавядаюць у цэрквах і касцёлах. Канфуцыянства — адзіная рэлігія, якая атрымала пачатак не ад Бога, а ад звычайнага смяротнага, не патрабуе ад людзей ні духоўнага подзвігу, ні нейкай аскезы перад тварам немінучай сустрэчы з Богам. Акрамя гэтага, вучэнне Канфуцыя ўяўляе сабою збор правілаў паводзін. Гэты збор не палохае грахамі, за якія давядзецца расплочвацца на судзе Божым. Ён вучыць, як трэба сябе паводзіць на зямлі, каб быў парадак. А парадак нараджаецца толькі з падначалення таму, хто вышэй цябе на сацыяльных прыступках. Службовец-чыноўнік — вось на кім трымаецца дзяржава, і не спрачайся з ім, бо ён больш адукаваны, чым ты, і паставіў яго службоўцам хтосьці яшчэ больш дасведчаны. Самы ж прасветлены — імператар, і ў яго ў падначаленні не можа быць кепскіх службоўцаў».

Я тады змог развесяліць публіку. Вядома, мая канцэпцыя пра «канфуцыянскую Беларусь» умоўная. Яна так і была ўспрынята. Аднак з фактам дамінавання ў нашым грамадстве службоўцаў ніхто спрачацца не стаў. Усе пагадзіліся, што ў Беларусі наогул занадта шмат дзяржавы. «Занадта» — значыць, можна і трэба скарачаць.

Але гэта было агучана падчас дыскусіі навукоўцаў. Што б сказалі беларускія грамадзяне, якія не стамляюць сябе асэнсоўваннем узаемадзеяння грамадства і ўлады?

Думаю, сказалі б некалькі кепскіх слоў у адрас пэўных службоўцаў і выступілі б за скарачэнне чынавенскага штата. Праўда, на пытанне «Ці будзеце вы супраць, калі ваш сын (дачка) пойдзе на дзяржслужбу?» адказ «Не» далі б большасць рэспандэнтаў. Чынавенская пасада ў Беларусі, як і ў Кітаі, лічыцца прэстыжнай. А ў Францыі — не. Тады дзе мы: у Еўропе ці Азіі?

«Я начальнік — ты дурань, ты начальнік — я дурань». Па-мойму, беларускае канфуцыянства вычарпальна апісваецца гэтай жыццёвай мудрасцю.

Аднак Кітай даў свету не толькі Канфуцыя, але і Лао-Цзы з яго вучэннем пра Дао.

Дао — гэта шлях, закон, лёс... Тое, што забяспечвае гармонію ўсяго існага. Галоўны прынцып даасізму — прынцып у-вэй, недзеі. Гармонія свету ўсталявана, і лепшае, што ты можаш рабіць, не парушаць яе сваімі дзеяннямі.

У мяне складваецца ўражанне, што ў Беларусі прыжылося не толькі канфуцыянства як форма чынашанавання. Даасізм, пераадолеўшы сваю «прывязку» да асобнага чалавека ў яго ўзаемадзеянні з Сусветам, стаў у Беларусі палітычнай і (шырэй) сацыяльнай дактрынай.

Рацыянальны (усё адно які: заходне-пратэстанцкі ці ўсходне-канфуцыянскі) падыход настойвае на правядзенні ў Беларусі эканамічных рэформаў. І што? Рэформаў няма. Чаму? Бо рэформы — гэта дзея, парушэнне эканамічнай гармоніі, якая заключаецца ў «сядзенні на нафтавай трубе» і вытворчасці тавараў на склад.

А хто ў дзяржаве вызначае, як павінны весціся справы? Правільна: службоўцы на чале з імператарам. Калі пачынаць рэформы, то прыйдзецца прызнаць, што раней імператар вёў справы неналежным чынам, а такога быць не можа, бо імператар ніколі не памыляецца.

Хоць у тым жа Кітаі ўсё вышэйшае кіраўніцтва краіны змяняецца раз у дзесяць гадоў. Менавіта ратацыя кадраў дазваляе пазбягаць вялікіх памылак. Але ж тое ў Кітаі, а мы не зусім кітайцы, бо наш кіраўнік ва ўладзе ўжо дваццаць гадоў і сыходзіць на пенсію не збіраецца.

Па вялікім рахунку, ён і з карупцыяй змагацца не павінен, бо сам яе і спарадзіў. Карупцыя ёсць элемент гарманічнай сістэмы, выбудаванай прасветленым імператарам.

Грамадства ў цэлым з гэтым згоднае.

Навуковыя мужы папярэджваюць: чым пазней пачнём праводзіць рэформы, тым хваравіцей яны будуць праходзіць. Што яны чуюць у адказ? Нічога, бо даосаў, якія па-канфуцыянску давяраюць службоўцам, будучыняй напалохаць нельга. Калі прыйдуць рэформы, тады і прыйдуць. Ад лёсу не ўцячэш.

Ды што рэформы!.. Даосаў і рэзкай зменай улады не спалохаеш. Калі заўтра іх нязменны імператар будзе, як Бакіеў ці Януковіч, уцякаць без аглядкі з краіны ці, наадварот, не паспее ўцячы і будзе арыштаваны ці нават пакараны сваімі былымі падпарадкаванцамі, то даосы-беларусы адстаронена скажуць: «Раней усталяваная гармонія патрабуе ахвяр». Нельга ўмешвацца ў натуральны ход рэчаў.

Але чаго ж у такім выпадку іх так расхвалявалі Майдан і Крым? Адкажу: багаццем дзеянняў. Украінцы і расіяне, самі таго не жадаючы, разбурылі гармонію беларускага соцыума. Цікава, што гэтыя падзеі для абедзвюх нацый — украінскай і расійскай — сталі рухавіком іх самаідэнтыфікацыі. Украіна і Расія дзякуючы канфлікту нібы рэанімавалі свае праекты нацыябудаўніцтва.

Мы ж пакуль з усіх сілаў устрымліваемся ад дзеяння. І, можа быць, устрыманне ад актыўнай рэалізацыі нацыянальнага праекта і ёсць чыннік разбурэння гармоніі «беларускасці», бо ўстрыманне — таксама род дзеяння.

Таму не варта блытаць цяжкадасяжны стан у-вэй са звычайным нічоганяробленнем, што абавязкова суправаджаецца рытарычным пытаннем: «А мо так і трэба?».

**naviny.by**

* Назва і пераклад з расійскай мовы Рэдакцыі.

# Саюзнае папаўненне

**На чарговым пасяджэнні Рады ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» адбыўся прыём новых сяброў. Імі сталі Валянцін Дубатоўка, Кацярына Оаро і Алег Наважылаў.**



**Валянцін Яўгенавіч Дубатоўка** — пісьменнік, краязнавец, мецэнат. Нарадзіўся 20 ліпеня 1963 года ў вёсцы Александрыя Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці. У 1981 годзе скончыў Дзярэчынскую сярэднюю школу, у 1982-м — электратэхнічнае вучылішча ў Гродне. У 1982–1984 гадах служыў у Савецкай Арміі, пасля дэмабілізацыі служыў у пажарнай ахове на прадпрыемстве «Азот». У 1990-х стаў заснавальнікам і кіраўніком камерцыйных структур. Фундаваў кнігі: факсімільнае выданне Ларысы Геніюш «Ад родных ніў», Міхася Скоблы «Розгі ў розніцу», Юркі Голуба «Багра» ды інш. У касцёле Дзярэчына намаганнямі В. Дубатоўкі ўсталяваная мемарыяльная дошка ў гонар удзельніка паўстання 1830 года Яўстаха Каятана Сапегі, а ў Зэльвенскай праваслаўнай царкве з'явілася дошка памяці Ларысы Геніюш.

Пісаць пачаў яшчэ ў школьныя гады, друкаваўся ў Зэльвенскай раённай газеце «Праца». Выступаў як аўтар тэкстаў песень для гродзенскіх музычных калектываў. Проза і вершы публікаваліся ў «Гродзенскай праўдзе», «Дзелавой газеце», у часопісах «Роднае Слова», «Дзеяслоў». Выдаў кнігу даследаванняў і вершаў «Архіпелаг Сапегаў» і кнігу прозы «Чорная Воля».



**Кацярына Уладзіміраўна Оаро** (у дзявоцтве Юркевіч) — журналістка, празаік. Нарадзілася 4 верасня 1986 года ў Адэсе (амаль адразу сям'я пераехала ў Ялту, дзе Кацярына пражыла 7 гадоў і пайшла ў школу). У 1993 годзе разам з бацькамі пераехала ў Беларусь, у г. Івацэвічы Брэсцкай вобласці, дзе скончыла школу і ліцэй. Пасля вучылася ў Інстытуце журналістыкі БДУ. Скончыла Беларускі Калегіюм. З 2008 па 2013 вучылася ў Літаратурным інстытуце імя Горкага ў Маскве на аддзяленні прозы. Працавала журналістам у розных выданнях і на радыё, выкладчыкам расійскай мовы і літаратуры.

З 2013 года жыве ў г. Ліль (Францыя).

У 2013 годзе выдала ў серыі «Пункт адліку» СБП дэбютную кнігу «Сарочае радыё», за якую атрымала прэмію «Дэбют» імя Максіма Багдановіча ў галіне прозы.

**Алег Аляксеевіч Наважылаў** — паэт, празаік, драматург.



Нарадзіўся 7 жніўня 1935 года ў Самаркандзе (Узбекістан). Закончыў Ленінградскі электратэхнічны інстытут сувязі, па размеркаванні прыехаў працаваць у Гродна. Некаторы час жыў у Манголіі, пасля ва Узбекістане, цяпер — у Гродне.

Піша на расійскай мове. Першыя публікацыі апавяданняў былі ў «Гродзенскай праўдзе» (пры падтрымцы і рэдагаванні Васіля Быкава). Апавяданні публікаваліся ў часопісах «Маладосць», «Полымя», «Беларуская думка», газеце «Літаратура і мастацтва» ды інш. Аўтар кнігі апавяданняў «Агатовый ручей», зборнікаў вершаў «Берег» і «Серебро луны»; асобнай кнігай была выдадзена п'еса «Железная свадьба».

**Прэсавая служба СБП**

## ТРАВЕНЬСКІЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

04.05.1959 — Тамара Дзмітрыеўна Барадзёнак
06.05.1954 — Алег Аблажэй
06.05.1949 — Яўгенія Яўгенаўна Казлова
13.05.1949 — Мікалай Андрэевіч Захаранка
13.05.1939 — Аляксей Георгіевіч Філатаў
14.05.1959 — Міхась Васільевіч Амялішка
22.05.1959 — Мікалай Адамавіч Яцкоў
23.05.1964 — Ірына Міхайлаўна Дубянецкая
24.05.1949 — Тамара Пятроўна Аўсяннікава
24.05.1979 — Павал Сяргеевіч Касцюкевіч

Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

# «Балтыйскія сустрэчы»

**У шведскім горадзе Вісбю, што на востраве Готланд, у пяты раз прайшлі так званыя «Балтыйскія сустрэчы» (Baltic Meeting), у якіх узялі ўдзел і беларускія літаратары.**



**Дыскусія, прысвечаная множнай ідэнтычнасці літаратурнага перакладчыка: Стэфан Інгварсан, Яніна Арлоў, Яаана Нікула, Казімера Астравайтэ, Мудзітэ Трэйман.** Фота Юлі Цімафеевай

Традыцыйным арганізатарам «Балтыйскіх сустрэчаў» выступае Балтыйская пісьменніцкая Рада, у якую ўваходзіць 21 літаратурная арганізацыя з 12 краінаў Балтыйскага рэгіёна. Саюз беларускіх пісьменнікаў з 2008 года таксама з'яўляецца сябрам Балтыйскай пісьменніцкай Рады.

Сёлетняй тэмай мерапрыемстваў быў абраны канцэпт «ідэнтычнасці», гучала яна «Двайное ядро Еўропы».

У гарадской бібліятэцы Альмедален праходзілі літаратурныя чытанні і публічныя дыскусіі, прысвечаныя моўнай ідэнтычнасці, ідэнтычнасці перакладчыка, нацыянальнай ідэнтычнасці.

Галоўнымі літаратурнымі падзеямі «Балтыйскіх сустрэчаў» былі выступы шведска-беларускага паэта, перакладчыка і драматурга Дзмітрыя Плакса і фінска-эстонскай пісьменніцы Сафі Оксанэн.

**Прэсавая служба СБП**

# «Гумар — найлепшая дапамога»

**2 красавіка адзначаўся Міжнародны дзень дзіцячай кнігі. Саюз беларускіх пісьменнікаў запамінальна адзначыў гэтае свята — падарыўшы дзеткам Беларусі кнігу «Найлепшы спявак у свеце». Гэта казка шведскага пісьменніка Ульфа Нільсана, ілюстраваная мастачкай Эвай Эрыксан. Кніга выйшла ў дзіцячай серыі СБП «Каляровы ровар».**






**Алеся Башарымава.** Фота Алены Казловай

Па-беларуску казка загучала дзякуючы перакладчыцы Алесі Башарымавай, якая, адна з першых атрымаўшы выданне, адказала на нашыя пытанні.

***— Чым прывабіла цябе кніга — як перакладчыка і як чытача? З якімі складанасцямі сутыкнулася ў працэсе перакладу?***

— Пераклад кніжак у малюнках, або так званых «кніжак-карцінак» — новы для мяне досвед, і калі Саюз беларускіх пісьменнікаў прапанаваў мне перакласці спярша «Снежнага чалавека» Эвы Суса, а потым «Найлепшага спевака...», то я ўзялася за гэта з цікаўнасці. Абедзве кнігі напісаныя простаю мовай, з разлікам на зусім маленькіх дзяцей. Пад простай мовай я тут маю на ўвазе і лёгкасць сінтаксічных канструкцый, і тое, што для перадачы сэнсу выкарыстоўваецца досыць мала словаў, калі працуюць асацыяцыі. Перада мной стаяла задача захаваць гэтую прастасць.

«Найлепшы спявак у свеце» — гэта гісторыя хлопчыка, які любіў спяваць, але саромеўся рабіць гэта перад публікай, гісторыя таго, як ён перамог гэты комплекс. Яна апісаная з лагодным гумарам, і я думаю, тыя, хто пазнае сябе ў герою, гэта ацэняць і змогуць па-іншаму паглядзець на свае праблемы (якія цалкам могуць аказацца ўяўнымі). А гумар у такім выпадку можа быць найлепшай дапамогай.

Увогуле, калі чытаеш гэтую кнігу, вельмі добра бачна, што абодва аўтары — аўтар тэксту і аўтарка ілюстрацый — з вялікай пяшчотай ставяцца да героя і апісваюць яго гісторыю.

Калі казаць пра нейкія адметныя складанасці, з якімі я сутыкнулася, то можна згадаць пераклад назваў песенек, якія спявае галоўны герой свайму малодшаму брату. У арыгінале абедзве песні вядомыя, бадай, усім шведскім дзецям. Мне ж хацелася падабраць нейкія больш-менш пазнавальныя беларускія дзіцячыя песні, але зрабіць гэта было нялёгка. У беларускай версіі кнігі галоўны герой спявае «Дзеда Барадзеда» і «Саўку ды Грышку». Падазраю, што сённяшнія дзеці нават не чулі і таго «Дзеда Барадзеда», але ў такім разе, спадзяюся, зацікавяцца ды, скажам, паслухаюць песню ў інтэрнэце.

***— Ці праўда, што каб займацца дзіцячай літаратурай (пісаць або перакладаць яе), даросламу самому трэба ў душы быць дзіцёнкам?***

— Гэтая думка паўтараецца так шмат, што даўно зрабілася банальнасцю. Такая фармулёўка ставіць паняцці «дарослы» і «дзіця» ў пазіцыю канфрантацыі і гэтым выдатна падмацоўвае, напрыклад, стэрэатып аб тым, што дзіцячая літаратура — нешта несур'ёзнае і другараднае.

Пытання наконт таго, кім, якім трэба быць у душы, каб займацца якой бы там ні было літаратурай, стаяць увогуле не мусіць. Проста літаратура, верагодна, будзе ў кожным выпадку рознай. І падабацца будзе рознаму чытачу.

Камусьці здаецца забаўным, вясёлым чытвом тое, у чым іншы бачыць ненатуральнасць. Камусьці падабаецца чытаць тое, што іншаму здаецца нудным і нецікавым. Дзеці ж таксама розныя. Хтосьці, напрыклад, марыць як хутчэй «праскочыць» дзяцінства, бо адчувае сябе не на сваім месцы. І нішто не замінае яму напісаць потым дзіцячую кнігу, нудную да захапляльнасці...

У «Спеваку» мы бачым, як апавядальнік мімікруе пад дзіця — галоўнага героя. Не ведаю, як успрымуць гэта юныя чытачы, але для мяне гэтыя спробы выглядаюць досыць крануальна. Усё ж такі адчуваецца, што апавядальнік тут зусім іншы — не герой-дзіця, а той, хто акуратна вядзе гэтае дзіця праз цяжкасці і ўрэшце прыводзіць да шчаслівай развязкі.

***— Якія шведскія аўтары прывабныя для цябе, каго б яшчэ хацела перакласці?***

— Акурат бліжэйшым часам збіраюся вярнуцца да перакладу кнігі Гунэль Ліндэ «Белы каменьчык» (пачатак друкаваўся ў часопісе «Дзеяслоў»). Гэтую кніжку я купіла амаль выпадкова ў шведскім букіністы, а ў выніку яна настолькі мяне ўразіла, што я адразу вырашыла яе перакласці.

«Найлепшага спевака ў свеце» можна знайсці ў мінскіх крамах «Акадэмкніга», «Кнігарня пісьменніка», «Книги&кнежечки», кнігарнях «ЛогвінаЎ», «Галіяфы» і «Веды».

**Віка Трэнас, lit-bel.org**

# Сябравалі два таленты

Ілля СЛАВІНСКІ

**Ён стаў членам Саюза беларускіх пісьменнікаў у 20 гадоў, ад моманту заснавання арганізацыі ў 1934 годзе. У 11-гадовым узросце была першая крытычная публікацыя, а праз год — першы надрукаваны верш...**

Аднойчы, калі Аркадзь Куляшоў з цяжкасцю акрыяў пасля зацяжной хваробы, Аляксандр Твардоўскі, жартам, сказаў яму: «Эх, Аркадзь, якія вершы збіраўся я напісаць на тваю смерць...».

Цяпер жа мы ведаем, што здарылася ўсё наадварот: вялікі рускі паэт сыйшоў з жыцця раней, а беларускі класік прысвяціў яго памяці паэму «Варшаўскі шлях». Але пагадзіцеся, што так жорстка жартаваць маглі толькі вельмі блізкія людзі.

І яны сапраўды былі блізкія. З той самай першай сустрэчы, пра якую Аркадзь Аляксандравіч успамінаў: «Гэта было ўвесну, хутчэй за ўсё ў 1935 годзе. Я зайшоў у наш менскі Дом літаратара і бачу: сядзіць за столікам Аляксандр Твардоўскі і чытае газету «Літаратура і мастацтва», і бачу, што чытае ўрывак з маёй паэмы «Гарбун». Прачытаў і кажа мне, што ў ім дрэнныя два месцы: тое, дзе я пішу, што Анісіма Шкробу ў першыя гады рэвалюцыі наведвалі эсэры, і другое, што ён, гэта значыць Шкроб, меў «шырокі кулацкі зад». Першае дрэнна таму, што эсэры, маўляў, гэта не купцы, не крамнікі і нават не папы, каб ужываць гэтае слова ў зборным сэнсе, а другое, маўляў, таму, што «шырокі зад» — месца агульнае, і, маўляў, ёсць кулакі і без «шырокага заду». Заўвагі, зробленыя ім па маёй паэме «Гарбун», зрабілі на мяне моцнае ўражанне. Твардоўскі быў для мяне чалавекам малавядомым, а заўвагі яго я прыняў адразу і адчуў, што яны зыходзяць ад спелага майстра».

Цяжка сказаць, якімі былі б іх далейшыя адносіны, калі б гэтыя заўвагі Куляшоў успрыняў інакш... Але ёсць і не меней удзячныя прызнанні. Адказваючы на пытанні анкеты часопіса «Юность», Куляшоў сказаў большае: «...Па сутнасці, да канца я зразумеў, што павінен рабіць у літаратуры, калі прачытаў паэму Твардоўскага «Краіна Муравія»... Як я ўдзячны таму, што сустрэў гэту паэму ў савецкай літаратуры! Захацелася свой назапашаны досвед, назіранні і разважанні над народным жыццём зрабіць прадметам мастацтва». І ён выдатна здолеў ажыццявіць гэтае жаданне. Не без сяброўскай падтрымкі Аляксандра Трыфанавіча.

Невыпадкова менавіта на кватэры апошняга адбылося і першае чытанне знакамітай паэмы Куляшова «Сцяг брыгады». Вось як успамінаў пра гэта Твардоўскі. «Зімой 1942 года ў адной з маскоўскіх кватэр сабраўся сяброўскі кружок пісьменнікаў паслухаць беларускага паэта Аркадзя Куляшова, які прыбыў з фронта з новай паэмай у палявой сумцы. Першапачатковае знаёмства з гэтай рэччу — адно з самых яркіх і дарагіх для мяне літаратурных успамінаў ваеннага часу... З першых жа раздзелаў паэмы, прачытаных аўтарам, стала ясна, што ён проста не мог не напісаць яе. Гэта было слова, якое не чакае асаблівых знешніх умоў, каб з'явіцца з сэрца паэта, а нават хутчэй за ўсё і натуральней можа з'явіцца тады менавіта, калі цяжка. І чым далей чытаў Куляшоў, тым усё часцей мы прасілі паўтарыць асобныя месцы і парываліся зазірнуць у рукапіс сваім вокам, яшчэ раз пераканацца, што яны ёсць насамрэч, гэтыя простыя і поўныя вялікай навізны і сілы словы і радкі, якія бяруць за душу...»



Аркадзь Куляшоў з Максімам Танкам. 1975 г.




Аркадзь Куляшоў і Міхась Лынькоў на Нарачы ў 1973-м



Аркадзь Куляшоў падпісвае кнігу Аляксандру Твардоўскаму. 1949 г.



Давід Кугульцінаў, Аркадзь Куляшоў і Пімен Панчанка. 1973 г.

Пачуць такое ад паэта, які сказаў аднойчы: «А всего иного пуще не прожить наверняка — без чего? — Без правды сущей, правды, прямо в душу бьющей, / Да была б она погуще,/ как бы ни была горька», — мала каму даводзілася. Я прывёў толькі некалькі слоў з легендарнай паэмы пра Васіля Цёркіна. Але ці многія ведаюць, што такі ж вясёлы і вынаходлівы герой жыў на старонках іншай франтавой газеты ў больш за восемдзесят вершах Аркадзя Куляшова. Толькі звалі таго героя — Аляксей Пятроў...

**Нікога з беларускіх паэтаў так ахвотна не публікаваў Аляксандр Трыфанавіч у «Новом мире», як яго. Менавіта там з'явілася ў 1953 годзе паэма «Граніца», рэгулярна публікаваліся вершы і рэцэнзіі на новыя кнігі Куляшова**

Наогул, пра роднасць гэтых паэтаў напісана многа, але далёка не ўсё. Яны рэалізаваліся паэмамі дзесьці на вяршынях паэтычнага ўсведамлення аднаго і таго ж народнага жыцця. «Краіна Муравія», «Васілій Цёркін», «Дом ля дарогі», «За даллю — даль» Твардоўскага — і «Сцяг брыгады», «Простыя людзі», «Далёка да акіяна», «Хамуціус» — у беларускага паэта. Зрэшты, пераклічка адчувальная не толькі ў паэмах, але і ў вершах.

Нікога з беларускіх паэтаў так ахвотна не публікаваў Аляксандр Трыфанавіч у «Новом мире», як яго. Менавіта там з'явілася ў 1953 годзе паэма «Граніца», рэгулярна публікаваліся вершы і рэцэнзіі на новыя кнігі Куляшова. Дарэчы, рэдкалегіяй гэтага выдання ён быў вылучаны на спашуканне Ленінскай прэміі. Дванаццаць гадоў сам уваходзіў у яе склад. Дзве грунтоўныя рэцэнзіі пра творчасць свайго сябра напісаў Твардоўскі. Адна з іх — пра паэму «Сцяг брыгады» — заканчваецца так: «Але непаўторная свежасць упершыню сказанага пра гэтую барацьбу па-сапраўднаму паэтычнага слова не адымаецца ў лепшых твораў, напісаных у гады самой барацьбы. Паэма Куляшова несумнеўна належыць да гэтага шэрагу твораў».

6 лютага споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння Аркадзя Куляшова — народнага паэта Беларусі, двойчы лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (памёр 4 лютага 1978-га). У яго лёсе ўражвае многае. І першым чынам фантастычна ранні пачатак творчага шляху: першы верш апублікаваў у Клімавіцкай акруговай газеце ў 12 гадоў, а потым у рэспубліканскім часопісе «Полымя» з'явіўся верш «Бывай». Так, той самы, які дзякуючы музыцы Ігара Лучанка трывожыць пранікнёнай песеннай пяшчотай кожнага з нас.

*Пайшла, ніколі ўжо не вернешся, Алеся.*
*Бывай, смуглявая, каханая, бывай.*
*Стаю на ростанях былых, а з паднябесся*
*Самотным жаўранкам звініць і плача май.*

Можаце ўявіць, што гэта напісана 14-гадовым хлопцам? Натхніла юнага паэта рэальная прыгажуня Алеся Карыткіна. Гэтае амаль дзіцячае захапленне Куляшоў пранёс скрозь усё сваё паэтычнае жыццё...

У адным з лістоў Твардоўскага, апублікаваным у часопісе «Нёман», чытаем: «Дарагі Аркадзе! Вось што мне прыйшло на думку неяк: ты павінен засесці за аўтабіяграфічную аповесць, — ты мне сёе-тое распавядаў пра сваё дзяцінства, памятаецца, там ёсць выдатнейшыя эскізы, напрыклад, як ты жыў хлапчанём адзін у хаце, і да т.п. Упэўнены, што атрымаецца. Для запалу пачытай «Дзяцінства» Талстога, Горкага, Караленкі, Герцэна, нават Рылянкова...» Так, два шчырых таленты ўмелі шчыра сябраваць.

І зноў у памяці ўсплываюць радкі з «Варшаўскага шляху», напісаныя ў 1972 годзе:

*Вайна ягоны век укараціла?..*
*Хвароба?.. Не!*
*Не падуладна ім*
*Любоў да працы прагнай, што спаліла*
*Звышчалавечым высілкам сваім*
*Яго жыццё, нібы маланка лёс,*
*Які ў агні самазнішчальным згінуў.*
*Не веру я, што Пушкіна Дантэс,*
*Што Лермантава некалі Мартынаў*
*Забіў. Не веру!*
*Волатаў скасіла*
*Паэзія, а ворагі — пасля,*
*Ясеніна — яна, а не пятля.*

*Усім такія словы гаварыла*
*Паэзія, калі вяла ў паход:*
*«Не вер, што свет шырок, ён думкам цесны.*
*Хай ісціны старэюць з году ў год,*
*Хай сэрца разрывае гук жалезны,*
*А ты за ўсё ў адказе, мой балесны,*
*За справу, за дзяржаву, за народ.*
*Далёкае разгледзь арліным вокам,*
*Лаві на слых ледзь чутны крок бяды:*
*Мяне абраўшы, мусіш быць прарокам.*
*Як не прарокам,*
*кім жа быць тады?*
*Не бойся слова гучнага — прарок! –*
*Прарок не бога — праўды слых і зрок.*

Адрасаваныя радкі гэтыя Куляшовым Аляксандру Твардоўскаму і, вядома ж, самому сабе. Бо ім заўсёды наканавана па-сяброўску заставацца побач на абшарах паэтычнай вечнасці.

**«ЛГ». Пераклад з расійскай мовы.**




# Безназоўнае



Сяргей ВЕРАЦІЛА

*Спачатку яно шалясцела*
*Вельмі нясмела...*
*Назаўтра ўзняло галасочак,*
*Нібы званочак...*
*На трэці дзень чуцен быў гоман,*
*Хоць і надломан...*
*А далей яно зашумела*
*Надта ўжо смела...*

***Янка КУПАЛА***

Маўчанне, маўчанне, маўчанне, потым зноў маўчанне. Так, хаця і маўчанне, але не безгалоссе. I ад маўчання — масток — у Мову. Маўчанне не азначае безгалоссе, бязгучча. Гукі паўсюдна і адусюль, яны ў вясновых грымотах, у шалахценні ліпеньскае лістоты, у ашалелым кастрычніцкім дажджы, што бесперапынна шуміць па даху, у патрэскванні абмёрзлага снегу, у рыпенні варотаў і ў бразгаце ключоў, у ранішнім звароце пеўня да сонца і ў начным скавытанні сабакі: адчайным і бязвыйсным. I ўсе гэтыя і яшчэ шмат якія гукі й галасы складаюць разам музыку. Музыка абкружае чалавека, яна жыве разам з ім ад першага ягонага подыху, пачынаючыся як плач, і плачам завяршае ягонае жыццё па адыходзе, і гэты апошні факт якраз паказвае на тое, што нават і калі спыняецца подых, музыка не пакідае чалавека. Праўда, нам уся гэта музыка можа падацца незгарманізаванаю, можа, таму, што мы папросту не здольныя зразумець і ўспрыняць усю ейную гармонію, а таму яна падаецца нам не цэласнаю паліфаніяй, а раздраблёнаю на мноства адрозных фрагментаў. I толькі таму, што мы чуем музыку як перарывістую, мы наогул здатныя яе чуць. Калі б мы не ўспрымалі яе такім чынам, дык пры нашым узроўні развіцця глыбіннага слыху мы б наогул не чулі аніякае музыкі і пачуваліся б глухімі сярод безгалосых. I хаця гукі можна налічваць дзясяткамі, тысячамі, мільярдамі, нашае вуха няздатнае да ўспрыняцця самых нізкіх і самых высокіх сярод іх: рушэнне чарвяка пасярод сырых каранёў і найтанчэйшых мелодыяў нябёсных сфераў. Неарганізаваныя, незгарманізаваныя ў прывычныя нам лады мелодыі ўяўляюцца нашаму ўспрыманню адно толькі Хаосам, суцэльным і першапачатковым. I мы стараемся адгарадзіцца ад яго, выбудоўваючы парадак у выглядзе паслядоўна-лагічнага чаргавання гукаў, і гэты свой парадак мы называем космасам, часам пачуваемся ў гэтым нашым космасе даволі ўтульна ці, лепш сказаць, звыкла. Але гэткі космас не мае амаль нічога супольнага з сапраўдным Космасам, бездані якога палохаюць позіркі нават самых смелых сярод нас, бо судакрануцца з ягонымі глыбінямі азначае дакрануцца да Бога. А Бог палохае нас нават самім фактам свайго існавання, ужо не кажучы пра цалкам незразумелую і невытлумачальную ягоную бясконцую міласэрнасць да нас і як да асобінаў, і так да ўсяго нашага роду, калі нават мы самі часам успрымаем сваё існаванне як недарэчную і фатальную памылку. Каханне даведзенае да абсалюта, каханне, узведзенае ў абсалют, каханне, скіраванае ад абсалюта. Ці не аднолькавае меры Хаос і Космас уяўляюцца нам страшкімі, палохаючымі і няўцямнымі, і таму мы змушаныя, таму мы папросту мусім хавацца ад страху і ўнікаць няўцямнасці з дапамогаю жменькі зацверджаных агульнапрынятых правілаў ды ісцін, каб аберагчыся ўсведамлення бессэнсоўнасці свайго собскага існавання, бо толькі самыя мужныя з нас маюць здольнасць, стоячы на краю магілы, нават ужо адною нагою знаходзячыся ў ёй, успрымаць усю паўнату і радасць кароткага імгнення, якое ёсць наша жыццё, толькі самыя мужныя з нас здольныя, усвядоміўшы фатальную непазбежнасць смерці, дзячыць жыццю за жыццё, можа быць, да гэтага здатныя яшчэ і вар'яты, хаця мужнасць і вар'яцтва падаюцца мне з'явамі калі і не аднаго парадку, дык безумоўна роднаснымі.

Пачатак Хаосу, на маё ўяўленне, палягае ў гуках, і калі гэта так, дык пачатак Космасу альбо Вялікага Парадку палягае ў Слове. Слова распачало Сусвет, і Слова будзе пры ягоным сконе. I Слова не можа быць ні большым, ні меншым, хаця часам мы спрабуем узяць на сябе няўздымнае брэмя: намінатыўную функцыю. Мы імкнемся меркаваць, што калі мы назвалі рэч і калі далі ёй імя, то мы ўжо ведаем гэтую рэч, то мы ўжо, маўляў, праніклі ў самую сутнасць рэчы. З аднаго боку, гэта ёсць радасная ў сваім наіўным энтузіязме думка, а з іншага боку, гук, што ўтварыўся ў выніку ўдыхання і выдыхання паветра, гук, за якім стаялі высілкі разуму, трапятанне нерваў, сардэчная болесць, гэткі гук якраз і можа стацца ісціною — Словам з правам першароdства і вечнасці, той вечнасці, што адмерана таму, хто выдыхнуў у прастору гэтае слова.

Мы не прасіліся ў гэты свет, нас у яго запрасілі, а потым забыліся на нас сваімі міласцямі, мусіць, зыходзячы з меркавання, што галоўную міласць для нас з'яўляецца самы факт жыцця, дарунак не заўсёды патрэбны і заўсёды выпадковы, а мы пры гэтым павінныя да самага скону дзячыць і дзячыць за свой боль, за свой страх, за свае пакуты, за сваё трымценне і трапапятанне: лістота і трыснёг, трыснёг і лістота. Зялёны спачатку трыснёг, а потым зжаўцее, пасохне і ўпадзе. Зялёная спачатку лістота, а потым зжаўцее, пасохне і ўпадзе. I ніхто не ўспомніць, ніхто не пашкадуе, ніхто не ацэніць зацятага змагання на канцах галінаў, на самым акрайчыку гнеістага берага. Люстэрка возера не захавае адбітку, вецер тут жа растрасе памяць пра тужлівае шалахценне. Бязлітасная смерць, але такое ж бязлітаснае і жыццё, і толькі глеба радасна-раўнадушна прыме да сябе тое, што калісьці аддала, і ў таемнай глыбіні Віроў, і ў чорных глыбінях нетраў зноў народзіцца жыццё, пакліканае Словам. I само гэтае слова яшчэ не мае формы і нясе на сабе ўсе радзімкі месцанароджання, але яно ўжо мкнецца выразіць сябе й інстынктыўна шукае таго, хто здольны несці на сабе ўвесь ягоны цяжар, а колькі не вытрымоўваюць і зломваюцца на самых першых кроках, але Яно ўпарта шукае самых моцных, самых здатных, самых трывалых, каб доўжыць сябе ў прасторы і часе. Слова — яшчэ дзіця, ягонае гучанне яшчэ цалкам пазбаўленае знешняга сэнсу, але ў ім ужо чутна моц, што бясстрашна супрацьстаіць распаду і затуханню. У ім яшчэ так шмат супольнага з Хаосам, але яно ўжо паказвае нам на сваю прыналежнасць да Космасу. Яно яшчэ стыхія, але яно ўжо ўсюды: і ўверсе, і ўнізе. Яно яшчэ не мае гармоніі, але яно ўжо гучыць ва ўнісон з нашымі сэрцамі. Яно ўжо сабрала ўсе інструменты ў адзіны аркестр, але ягоная гармонія нам яшчэ непадуладная. Яно жывое, яно дыхае, але мы няздатныя, так, мы яшчэ не гатовыя, каб назваць яго, каб прамовіць, а таму яно пакутуе ад жадання стаць Моваю. I хоць яно яшчэ безназоўнае, непрамоўнае, але яно ўжо абяшчае пра нараджэнне новага свету, яно стаіць на парозе гэтага новага свету, яно настойліва грукаецца ў дзверы гэтага новага свету, яно самое з'яўляецца гэтым новым сусветам. Але яно ўсё яшчэ не можа адліцца ў канчатковую форму. I тут ёсць выкрыццё недахопу чалавечае мовы, тут ёсць неабходнасць мовы боскай...

Але згасае полымя, пакрысе стыне вуголле, мы зазіраем у ціглі і бачым, што замест золата і сталі, якія мы гартавалі ў домнах — толькі попел і прысак. А так усё гарэла, і ўсім было не тое, што цёпла, было горача і радасна, а зараз толькі горыч, такая, што нават палын — макавы мёд. Горыч ад таго, што не спраўдзіліся прароцтвы, што разбіліся ўшчэнт крышталёвыя надзеі, сутыкнуўшыся з адвечнай коснасцю матэрыі, што былі невыкарыстаныя магчымасці. I вось нібыта паўсюдна запанавала маўчанне. I зноў нібыта глухія сярод безгалосых, сляпыя сярод бязногіх. I гэта можа быць падставаю для адчаю. Але...

Але маўчанне, маўкліня не ёсць безгалоссем, бязгуччам. Гукі, галасы, яны — паўсюдна. Яшчэ чутнае вуха здольнае разбіраць гукі аркестра. Няхай яны затухаючыя, няхай яны — толькі рэха былой музыкі, але яны ўжо ёсць. I няхай яны не падстава для новай музыкі, але іхні ўзор можа быць уплецены ў новую тканіну, што ёсць распачатаю на кроснах часу. Безназоўнае, непрамоўленае, неназванае, невымоўленае не можа бясконца заставацца ў такім стане, яно будзе шукаць таго, хто здолее на сабе цягнуць брэмя, і калі зломіцца нехта, дык узнікнуць новыя рукі і плечы, бо Слова хоча быць названым, Слова хоча называць, Слова хоча быць і доўжыць быццё, бы называючы рэч. Слова дае рэчы права на існенне. Там, у цёмных вірах, у цьмяных нетрах з агню, вады, паветра, глебы нараджаецца яно, марудна прапаўзаючы чарвяком сярод сырых каранёў, таемным шляхам каметы асвятляючы нерухомае сёння неба...

Музыка абкружае чалавека, і ён сам ёсць часткаю музыкі, і ён сам адпаведна боскаму дару здольны тварыць музыку. Вось толькі патрэбна адшукаць Слова, тое, што стаяла пры пачатку Сусвету, тое, што будзе пры ягоным сконе.

Спачатку яно шалясцела...

# Пераможцы конкурса Бабарэкі

**Журы конкурса крытыкаў імя Адама Бабарэкі абвесціла пераможцаў.**




Адам Бабарэка (1899–1938) — беларускі пісьменнік і літаратуразнаўца, аўтар кнігі «Апавяданні» (1925), даследчык творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Дубоўкі, Кузьмы Чорнага і інш. Займаўся метадалагічнымі праблемамі літаратуразнаўства і гісторыяй беларускай літаратуры. Памёр у бальніцы Паўночнага чыгуначнага лагера НКУС.

Спіс пераможцаў конкурса выглядае так:

Міхал Бараноўскі
Марына Весялуха
Лілія Верхавенская і Аляксей Карамазаў
Маргарыта Дзяхцяр
Марыя Дуброўская
Андрэй Дудко
Аляксандра Лапіцкая
Яна Ліўшыц
Кацярына Рускевіч
Аляксей Чубат

Арганізатары конкурса (Беларускі ПЭН-цэнтр і сайт bookster, пры падтрымцы Саюза беларускіх пісьменнікаў) прынялі рашэнне не вызначаць пераможцаў у асобных намінацыях.

Пераможцы запрошаныя на семінар, прысвечаны пытанням літаратурнай крытыкі. Майстар-класы семінара будуць праходзіць на пачатку траўня ў Мінску, у праграме — сустрэчы з крытыкамі з Беларусі (Віктар Жыбуль, Ганна Кісліцына, Марыя Мартысевіч, Ціхан Чарнякевіч і інш.), Расіі (Даніла Давыдаў), Украіны (Юры Валадарскі), Чэхіі (Марцін Путна) і Швецыі (Інга-Ліна Ліндквіст), знаёмства з маладымі літаратарамі, паездка на радзіму Адама Бабарэкі. Таксама падчас семінара вырашыцца лёс галоўнага прыза конкурса крытыкаў імя Адама Бабарэкі — двухтыднёвага побыту ў Вільні у межах праграмы «Рэзідэнцыя маладога літаратара».

# Святы Вялікдзень



Зміцер ЗАХАРЭВІЧ

Зміцер Захарэвіч нарадзіўся ў 1980 годзе ў Мінску. Скончыў гістарычны факультэт БДУ. З 2002 да 2012-га праходзіў вайсковую службу ў органах пагранічнай службы Рэспублікі Беларусь. Маёр запасу.

Друкаваўся ў «Нашай Ніве», «Літаратуры і мастацтве», «Белорусской военной газете» і ў «Новым Часе».

### Загінулым у 1831-м і 1863–1864 гадах

*Прымглёны туманом світанак.*
*Бывай, стары бацькоўскі дом!*
*У засень паркаў ды альтанак*
*Ці вернемся мы са шчытом?*

*І развітальны пацалунак*
*На ганку вусны апячэ.*
*Мной падагнаны ўжо рыштунак —*
*Мы вернемся не на шчыце!*

*За шаблі, штуцары і косы*
*Узяцца вымушае годнасць,*
*У бой ісці святы і жорсткі*
*За Нашую і Вашу Вольнасць!*

*Апоўначы атакай дзёрзкай*
*Прарваны карнікаў заслон —*
*Благаславеннем у нябёсах*
*Штандар з Пагоняй і Арлом.*

*Не адыйсці нам у пасцелях*
*І на чужыне не змарнець —*
*Мы гінем пад агнём прыцэльным —*
*Альбо свабода, альбо смерць!*

*Жывыя кветкі на магілах,*
*Дзе спяць героі вечным сном,*
*Хай сведчаць Бацькаўшчыне мілай —*
*Вяртаемся мы са шчытом!*

***

*Сапраўдных хочацца радасцяў —*
*Тварыць, змагацца, кахаць,*
*Пакуль далёка разважлівасць старасці*
*І далакопы мае ў зыбках спяць.*

*Скрываўлены белы пялёстак*
*Па-над краем уладна ўзняць,*
*Каб жоўсцю зайшліся псякосткі*
*Праз нlanguagedатнасць яго садраць.*

*Ад прыведзеных да карных шыбеніц*
*Прыняць удзячна слова-лязо,*
*Каб звінела сталь Мілавідская*
*У міноры дый у басох.*

*Чуць, як Бацькаўшчыны нетры поўныя*
*Не стамляюцца нас сілкаваць,*
*Як крынічка праб'еца апоўначы,*
*Каб умець пра тое сказаць*

*Усім сляпым, дазвання зняверaным,*
*Што фарсуюць бязроддзем сваім,*
*Каб у жэмчуг раскутага неба*
*Прагучаў пераможны гімн!*

### Вярнуўся сакавік

*На двор вярнуўся сакавік*
*Сумётамі падталымі,*
*Загаласілі капяжы —*
*Зіма адгаспадарыла.*

*Не ведаючы таго сам,*
*Я развітаўся з ёю —*
*Не лічбамі ў календарах,*
*А зменаю настрою.*

*На чарках сябрукоў маіх*
*Іскрынкі прамянёвыя,*
*Мы за спачын п'ем першых крыг,*
*Услед бегчы гатовыя.*

*Наўкола неяк неўпрыкмет*
*Халодную напятасць*
*І футра скінулі з сябе*
*Без роздуму дзяўчаты.*

*Іх спробы кволыя яшчэ,*
*Ды хутка прыйдзе смеласць —*
*Якраз, каб даць нам зразумець,*
*Што час ісці на нераст.*

*Хоць не пазбыцца будзе ўжо*
*Шалёнай, хмельнай вольнасці*
*І не ўтрымацца ў абцугох*
*Дазволаў і прыстойнага.*

*Бо набрынялая зямля*
*Жывымі водамі адліг*
*Адчула (разам з ёю й я):*
*На двор вярнуўся сакавік.*

***

*Ад прысадаў, што смугою запарушаныя,*
*У раскутую вятрамі вышыню*
*Растрывожанай начною птушкаю,*
*Ледзь заўважны, мкліва шугану.*

*Пакідаючы правіны незамоленымі*
*І мітрэжных зданяў насланнё,*
*Воляй прагна дыхаю напоўніцу,*
*Між сузор'яў стаўшы на крыло...*

*Будзе час: надвор'е пераменіцца —*
*Кветны травень прыйдзе назаўжды.*
*Верагодна, мы яшчэ сустрэнемся,*
*Толькі ці пазнаю вас тады?*

*Бо на золку студзеньскім, запозненым,*
*Перароджаны, растану ў цішыні,*
*Развітаўшыся засветным позіркам*
*З тымі, хто застаўся на зямлі.*

***

*На сэрцы цемрадзь, золь, слата*
*І тое ж звонку,*
*Але на вуліцах гараць*
*Лятарняў гронкі.*

*І з ног збівае мінакоў*
*Бадзяга вецер.*
*Куды паклікалі яго?*
*Што ён намэціў?*

*Якія ўладныя ключы*
*Яму данесці*
*Тым, хто цяпер пакуль маўчыць,*
*Але ўваскрэсне?*

*Магчыма, гэтаю парой,*
*Дальбог, пагоднай,*
*Скіруе, лёгшы на скрыдло,*
*Госцем найшчодрым.*

*Каму няўтульна на зямлі*
*У час капежны,*
*Каб зразумелі, што не ім*
*Жыццё належыць.*

*Каб адчувалі — ад нягод,*
*Як мае, прыйдзе*
*Праўдзівым лекарам штогод*
*Святы Вялікдзень.*

*І роспачна яшчэ зіма*
*Няхай нявечыць,*
*Ды тыя цемрадзь, золь, слата —*
*Яго прадцечы.*

***

*Дзе галлё бурштынавых хваінаў*
*Плыўка зыбае ў далонях небасхіл,*
*З рытму мернага збіваюцца гадзіны,*
*Компас не знаходзіць палюсы.*

*Ніба ўзяўшы чуйнасць у пазыку,*
*Я ступаю сцежкаю, якой*
*Скрозь стагоддзі насцярожана ласіха*
*З гадаванцам йдзе на вадапой.*

*Шнурам Арыядны павуцінне*
*Абвівае на зваротны шлях крысо.*
*Рву яго, застаючыся ў лабірынце*
*Валадарства станістых лясоў.*

*І, натхнёны пугачовым смехам,*
*Сівы Пан мяне дабраславіць,*
*Каб зрабіўся водгаласам рэха*
*У сакральным нерушы-жыцці.*

# І толькі нас заменіць час...



Альдонія НАЎЧАНКОВА

Ведаю Альдонію Наўчанкову па абласным клубе кампазітараў і паэтаў «Жывіца», які абядноўвае творцаў Міншчыны. Мяне прывабіла асаблівая, ціхмяна-прачулая інтанацыя яе вершаў. Не буду ўтойваць, што рыхтавала да друку аўтарскую кнігу паэткі «Дарогай спавітая доля» (2009 год).

Маладыя гады Альдоніі Міхайлаўны прайшлі ў Карэліі. Там яна набыла прафесію, стварыла сям'ю. Вярнулася ў Беларусь з сынам у 1979 годзе, жыла ў Клецку. Цяпер — у вёсцы сваіх бацькоў на Стаўбцоўшчыне, — Пільніцы, і яе асноўным клопатам стала не выданне вершаў, а падрыхтоўка да зімы. І калі лепшае з напісанага ў апошні час падасца вам не вельмі аптымістычным, то прыпомніце вёску свайго маленства — якой яна стала і які настрой выклікае...

**Галіна Каржанеўская**

### Пільніца

*Патрухнелі платы, пакасіліся хаты...*
*Адмірае у вёсцы жыццё*
*з кожным днём.*
*Час няспынна імчыць*
*нейкім злыднем праклятым.*
*Дзе збавенне? Дзе вечны наш дом?*

*Тут і людзі ад працы цяжкое — калекі.*
*Можа — год, можа — два,*
*можа, болей гадоў —*
*І адыдзе душа з гэтай вёскі навекі,*
*На сцяжынах жыцця*
*не пакіне слядоў.*

*У крыжовыя дні буду шчыра маліцца*
*На магілах, дзе продкі чакаюць ахвяр.*
*Ах, як лёгка ў жыцці памыліцца —*
*І як цяжка знайсці той ліхтар,*

*Што асвеціць дарогу*
*у вечнасць да Бога,*
*Дзе матулі заўсёды чакаюць дзяцей.*
*І туды ўжо не возьмеш з сабой анічога,*
*Толькі памяць жывых,*
*табе блізкіх людзей.*

*Дажывае свой век мая родная вёска,*
*І яе не кранае ніякі прагрэс.*
*Каля хаты ў сястры зелянее бярозка*
*І травой зарастае няходжаны лес.*

### Што пакіну ўнукам

*Каб я была бярозкай —*
*Пакінула б лісты.*
*А каб была я рэчкай —*
*Пакінула б масты.*
*Аднак жа я істота*
*З Адамавай радні.*
*Мне за грахі — галота,*
*Чарнобыльскія дні.*
*Астылая пасцеля,*
*Халодная зіма...*
*Адна душа у целе,*
*Нічога больш няма.*
*Я сэрцам не астыну*
*І пасярод бяды.*
*Хіба любоў пакіну,*
*Якая назаўжды.*

### Сябру

*І ты глядзіш на тыя зоркі,*
*На месяц той, што свеціць мне.*
*І лёс — такі ж палынна-горкі —*
*Не хваліш ты і не клянеш.*

*Хваліць — за што?*
*Канцы з канцамі*
*Звясці не проста. Прывыкай!*
*А праклінаць?*
*Рашайце самі,*
*Ці вам патрэбен гэты край.*

*Калі ж удача усміхнецца,*
*Тут і не ўспомняць мо пра нас.*
*Зямля пад небам застанецца,*
*І толькі нас заменіць час.*

### Дзень памяці

*Пастаўлю свечку на акне —*
*Няхай гарыць.*
*Прыходзяць душы да мяне*
*Пагаварыць.*
*Ад свечкі свечку запалю —*
*Хай згіне цень.*
*Прыходзьце ўсе, каго люблю*
*У гэты дзень.*
*Дзень успамінаў і свята*
*Для ўсіх жывых.*
*Хай на зямлі не будзе зла.*
*Памянем іх.*
*У гэту ноч я бачу сны:*
*Яны прыйшлі*
*З маёй вясны і з той вайны,*
*Дзе палеглі...*
*На іх магілах, курганах*
*Расці траве.*
*Неператоранай у прах —*
*Душа жыве.*

### На мяжы

*Вось і мяжа апошняя,*
*За ёю — небыццё.*
*Яшчэ трава не скошана,*
*Ды меншае жыццё.*

*З маланкамі і ліўнямі*
*Прайшлі мае гады.*
*І з воблакамі сінімі*
*Я паплыву туды,*

*Дзе маладосць шчаслівая*
*Распальвала кастры,*
*Дзяцінства мітуслівае*
*Кацілася з гары...*

*Туды, ў бары сасновыя,*
*Пакрытыя імжой.*
*Туды, дзе сны ружовыя,*
*Што разгаданы ўжо.*

# Кабак



Андрэй ФЕДАРЭНКА

— Ты не Кабак, ты — мярзляк, — казаў камандзір аддзялення сяржант Тыжных свайму падначаленаму, радавому Кабаку. — Няўжо ў вас на радзіме так цёпла? Дзе ты жыў? На хутары? Што такое хутар? Хата? Што такое хата? Ізба? У лесе? Заімка? Ну вось, вырас у лесе, а мярзляк. Ніхто не мерзне — адзін ты.

— Чаму... адзін, — мармыча Кабак, хоць гэта праўда.

Усе навабранцы з іхняга ўзвода вучэбкі даўно асвойталіся, толькі ён, беларус з-пад Барысава, за тры месяцы службы — лістапад, снежань, студзень — ніяк не можа прывыкнуць да тутэйшай халадрыгі, да мясцовай прыволжскай зімы з яе вятрамі, снягамі, завеямі, калючымі рускімі маразамі, — той самай, што некалі ў гэтых вось палях даканала армію Паўлюса. Кабак мерзне, як немец пад Сталінградам. Азяблы, скундзёблены, з уціснутай у плечы галавой — адно, што ад холаду, а другое, яшчэ са школы саромеецца свайго фізічнага недахопу — кадыка, ненатуральна вялікага, з вострым, як дзюба, храшчом. Асабліва храшч выпінаецца, калі трэба задзіраць галаву пры камандзе «смірна». Яшчэ на гэтым храшчы расце пучок валасоў.

— Ты не Кабак — ты вядзьмак, — казаў яму на гэта Тыжных.

— Чаму... вядзьмак...

— Валасы на кадыку толькі ў ведзьмакоў растуць. У ваўкалакаў, вампіраў... І прозвішча тваё чытаецца аднолькава ззаду наперад. У ведзьмакоў заўсёды так.

— Чаму... заўсёды, — па сваёй звычцы мармыча Кабак.

Ранішняе галенне — асаблівая пакута для яго. Цэлая рота набіваецца ў адзін пакой. Справа рукамыйнікі, злева пісуары, далей — туалетныя кабіны, усярэдзіне з высокімі «пастаментамі» і з кароткімі, спецыяльна падрэзанымі знізу дзверкамі, каб чалавек, што прысеў па патрэбе, быў відаць увесь. Умывальнікаў мала, да іх чарга, трэба стаяць, чакаць. Салдаты голыя да пояса, у адных белых споднiках з матузкамі і ў тапках на босую нагу. Холад ад кафельнай падлогі лёгка прабівае тонкія падэшвы, ногі ледзяныя.

Кабак асцярожна водзіць па храшчы лязом. Вада халодная, як ні старайся, а ўсё адно колькі валаскоў прапусціш, так яны потым і тырчаць цэлы дзень, хоць вышчыквай іх пазногцямі. Ён з зайздрасцю паглядвае на сібірака Тыжных, якому тутэйшыя марозы смешныя, на яго мускулісты торс, на тое, з якім спрытам ён голіцца: без люстэрка, навобмацак, у адной руцэ абмылачак, у другой — вастрэннае лязо. Некалькі спрактыкаваных рухаў: зверху ўніз, знізу ўверх, пад носам — толькі лёгкае пастрэкванне чуваць, і вось ужо чысценькі, гладкі, ружовы твар. Мабыць, калі б замест ляза далі яму шыла — пагаліўся б шылам. Усё займае ў яго некалькі хвілін.

— Дай, — прапаноўвае ён, бачачы, як Кабак выкручваецца целам, выварочвае руку, каб самаму сабе падбрыць ззаду. — Бо на цябе глядзець страшна, аж скура гусінай робіцца... Ну і шыя, — дзівіцца ён. — Тонкая, доўгая, як у гусака. А ў вас гусі ёсць?

Кабак асцярожна, каб не цапнула па карку, круціць галавой — няма, якія гусі; у іх ні возера, ні рэчкі, толькі канава з жоўтай тарфяной вадою.

— Нічога, — суцяшае яго Тыжных, абдзьмухваючы лязо. — Затое на вайне табе будзе добра.

— Чаму... добра...

— Ведзьмакоў куля не бярэ. Забіць цябе можна толькі сярэбранай куляю, — задуменна кажа ён. — У саменькі кадык. І абавязкова потым увагнаць у магілу асінавы кол...

Так ідуць дні, падобныя адзін на адзін, усе пад рэфрэн холаду. Стыла, халодна Кабаку паўсюль, нават у цёплых памяшканнях, такіх, як «ленпакой», ці вучэбныя класы, ці сталовая, не кажучы пра муштру на двары, заняткі на палігоне ці на пляцы ў час прыборкі снегу, якога кожную ноч навальвае столькі, што «Уралы» не паспяваюць вывозіць. Нават пасля адбою Кабак доўга варочаецца пад сваёй тоненькай коўдрай, падцягвае ногі да барады, лягае то на жывот, то на спіну, то грэе ногі рукамі. Раней яго койка была на ніжнім ярусе — ад падлогі знізу праз матрац дзьмула, памяняўся на верхнюю — ад вакна цягне... Жоўты месяц, поўны, вялізны, абыякава пазірае ў казарму, і ўсё роўна яму, што сон чалавечы такі кароткі, праляціць імгненна, і раніцай зноў тое ж: пад'ём, галенне-пастраенне, зарадка, сняданак, муштра, абед, прыборка снегу... Яшчэ адзін доўгі, халодны дзень!

Быў, праўда, кавалачак сутак, адразу пасля вячэры — законныя паўтары гадзіны вольнага часу, любімы, чаканы перыяд, калі Кабака крыху адпускала. Тады ён бег у «ленпакой» і прытуляўся да батарэі, як да грубкі. Іншыя бавілі кароткі адпачынак няхітрым чынам, ды і выбар быў небагаты: тэлевізар, шашкі-шахматы, напісаць пісьмо, падшыць каўнерык... Каб не губляць марна часу, выбіралі апошняе. Падшывалі каўнерыкі заходнія і ўсходнія ўкраінцы, два грузіны, тры каракалпакі, узбек з Ташкента... Ротны старшына разам з падначаленымі таксама ўвішна працаваў іголкаю. Худы, пацёрты жыццём, добры, стомлены, заўчасна ссівелы ад алкаголю і няўдач на любоўным фронце — трэцяя жонка яго нядаўна кінула. Казахскі немец Андрэй Фішэр, рыжы, прышчаваты, як падлетак пераходнага ўзросту, расказваў пра змяю: «Ніколі ў жыцці такіх не бачыў: сама чорная, а галава вялікая, белая, круглая! Здалёк падумалі, гэта вялізны грыб-дажджавік. Падышлі бліжэй, а яна падняла галаву над травою, шыпіць, палохае!.. Мы хутчэй камення ў рукі... Ох, і ўцякала яна! Ох, і выкручвалася! Ратавалася так... Ды дзе там уцячэш — стэп кругом... Ох, і білі яе каменнямі па чым папала!..»

З тэлевізара маладая Ратару, ціснучы да грудзей рукі, горача, надрыўна заклікае:

*— Приезжайте в Прикарпаття,*
*Приезжайте, люди добрі,*
*Завжди будуть раді вам!*



*Хлібом-сіллю вас зустрінуть,*
*Файну пісню заспівають,*
*В шану нашим світлим дням!..*

Старшына бакавымі зубамі адкусвае нітку, адводзіць руку з гімнасцёркай, любуючыся сваёй працай і белатой падкаўнерыка. Нацягвае гімнасцёрку.

— Чаму білі так доўга? — пытае ён у Фішэра.

— А каб хвост перастаў круціцца...

— І! У синю даль! — ірве душу сабе і людзям украінская малдаванка. — По-над горами лине пісня ця! Про! Чудовий край!..

Украінец Стэпан, смугла-чарнявенькі, гарбаносы, з выпуклымі паўднёвымі вачамі, падобны на ліцэіста Пушкіна, калі таго падстрыгчы пад нуль і апрануць у форму СА, падпявае:

— Прыязджайце ў Закарпацця — там вас стрінуць кулямёты!..

— Усё так, — пацвярджае старшына, і не ў першы раз пачынае расказваць, як вёз навабранцаў, у Маскве патрапілі ў завіруху, цягнікі не ходзяць, двое сутак на Яраслаўскім вакзале, людна, цесна, прыбіральні не працуюць, скразнякі, паёк скончыўся...

— І вось ужо то там, то сям аратары, бунцікі, маўляў, за што ваявалі? Антысаветчына, — кажа старшына, — паўсюль, адкрытая, пагалоўная. Кожны другі антысаветчык. А цяпер уявіце, што не завіруха, а маленечкі эканамічны збой. Страх што пачнецца! Вайны не трэба...

Кабак грэе то рукі, то плячыма туліцца да батарэі. Вось так бы сядзець у адносным цяпле, адноснай утульнасці, слухаць старшыну і песню пра «чарівны край», марыць пра свой хутар, дзе і мароз не мароз, і снег цёплы, а каля грубкі адагрэўся б за 5 хвілін. Нехта тармусіць яго за плячо.

— На, — сяржант Тыжных працягнуў яму жоўтую круглую бляшаначку памерам з хакейную шайбу. — Гусіны тлушч. Сібірскі. Знарок для цябе заказаў, сёння пасылка прыйшла. Будзеш патрошку мазаць твар, рукі... Ды беражы, тонкім слоем, як вазелін, накладвай. Ніякі мароз не возьме. Бо з такімі тэмпамі ты да вясны не дацягнеш.

— Чаму... не дацягну, — замест «дзякую» мармыча Кабак. Ён круціць у руках, разглядвае бляшаначку...

— Зараз жа ідзі і змажся.

Кабак пайшоў да ложка. Адчыніў бляшаначку — поўная, тлушч густы, белы, і праўда, падобны на вазелін. Прыемна пахне дымком, дзічынаю, і яшчэ — свежым здорам. Кабак ашчадна, самым кончыкам пальца, намазаў лоб, шчокі, рукі, жывот, плечы, не паленаваўся скінуць боты — і ногі таксама намазаў. І раптам упершыню за тры месяцы ў ім нібы нешта пачало адтайваць, адлягаць. Нават як бы яму ўжо стала цяплей: ці то так імгненна падзейнічаў чароўны тлушч, ці проста ад чужой увагі, ад таго, што згадалі пра яго.

Тым часам: «Рота, строіцца!» — і зноў на вуліцу, на мароз і завіруху, памаршыраваць перад сном. Кабак кожную хвіліну прыслухоўваўся да сябе, да свайго цела, і з радасным здзіўленнем адчуваў — ну, не холадна больш. Не адчувае холаду! Ах, як гэта, аказваецца, здорава — не мерзнуць!

Потым, пасля вячэрняй паверкі-пераклічкі і адбою, ужо на койцы, ён таксама прыслухоўваўся да сябе. Месяц заглядваў у казарму. І Кабак усміхнуўся яму, як старому знаёмаму, і падміргнуў: маўляў, а мне ўжо не холадна! Круглая жоўтая бляшаначка ляжала пад падушкай. Кабак з падзякаю пагладзіў яе, адкрыў, не ўтрымаўся і лізнуў. Смачна!..

І вось расслабілася цела, саладка закружыла ў галаве, і паплыў, паплыў ложак у родны хутар... Сніцца Кабаку лес, зіма, снег, які, калі ўзяць яго ў пальцы, аказваецца цёплым гусіным мяккім пухам. Яшчэ сніцца бляшаначка, поўная бліскучых, як ртуць, прыгожых сярэбраных куляў. «Чаму кулі, калі там тлушч?» — праз дрымоту паспявае здзівіцца Кабак, а ўжо крычаць ашалелыя галасы:

— Першая рота, пад'ём!

— Другая рота — пад'ём!

— Баявая трывога!

Гупат ад саскоквання з верхніх ярусаў, заплечнікі, бразгат алюмініевых кубкаў, біклажак, лыжак і спражак рамянёў, якія зашчэпвалі на хаду, каб хутчэй патрапіць у «зброевую», схапіць аўтамат, штык-нож, потым шынель з шапкай — і на двор. Толькі чуўся тупат ног па металічнай лесвіцы. Пляц хутка запаўняўся нявыспанымі людзьмі. Кабак апускаў вушы ў шапцы, калі яго штурхнулі ў спіну.

— Чый штык-нож?! — даўно крычыць старшына, падняўшы руку са штыком у чахле.

— Мой...

— Твой?! Я табе пакажу «твой»! Ты ў мяне да канца вучэбкі з кухні не вылезеш! Тры... пяць нарадаў!

— Чаму... пяць, — перапытвае Кабак замест таго, каб адказаць: «Ёсць пяць нарадаў».

Ноч. Зоры, якія то закрываюцца начнымі аблокамі, то зноў выплываюць, і над усім — вялікі, жоўты, як спелая рэпа, месяц. Салдаты ў шарэнзе хукаюць, прытупваюць нагамі. Вецер носіць снег і шэпат:

«У Афганістан...»

«Афганістан», — пачало перадавацца па шарэнзе.

«Вось там і пагрэемся...»

Кабак, як усе, пераступае нагамі, плячыма пацепвае, удыхае і выдыхае марозную пару. А сам усё прыслухоўваецца да сябе, да рук, ног, шчок... Халаднавата, канечне. Не май месяц. Зімна, сіверна. Але цярпіма! Не холадна! Зусім не тое, што было. Ні ў якае параўнанне! І лёгка яму ад гэтага, нават радасна на душы. «Нічога, — думае ён. — Можа, яшчэ і не заб'юць там, у Афганістане... Сярэбраных куль няма ж у іх...»

Зоры пакрысе бляклі. У тым баку, дзе горад, свяцілася. Вось-вось адтуль павінна было падняцца і брызнуць сляпуча-чырвонымі халоднымі промнямі сонца. Адбой прагучаў у сем раніцы, калі па шарэнгах замест «Афганістана» даўно гуляла іншае слова на «А»:

«Андропаў!»

«Андропаў!»

Генсек Андропаў памёр. У камандзіраў на тварах быў аднолькавы выраз: калі хочацца радавацца, а трэба паказваць засмучанасць, і ад таго ўсе яны былі добрыя, нават як бы ў нечым вінаватыя. У казарме старшына, натыкнуўшыся на Кабака, ні словам не згадаў ні пра злашчасны штык, ні пра нарады. Ад гэтага Кабаку яшчэ больш пацяплела.

Пасля сняданку быў прыемны сюрпрыз: замест муштры іх сабралі ў «ленпакоі», смуткаваць. Тыжных падышоў да Кабака.

— Ну вось! На салдата стаў падобны! Малайчына, герой. Памог тлушч? Што б ты рабіў без мяне, мярзляк? Прапаў бы!

— Чаму... прапаў бы, — па інэрцыі перапытвае Кабак.

— Ты ж глядзі, каб на халады хапіла. Расцягвай да канца зімы. Зразумеў?

Кабак ківае. Патаптаўшыся, пабачыўшы, што нікому не патрэбен, можна рабіць што хочаш, — ён выходзіць з «ленпакоя», ідзе да ложка, выцягвае з-пад падушкі бляшаначку, прысядае каля тумбачкі. Азірнуўшыся, дастае з кішэні дзве лусты чорнага хлеба, прыхопленыя ў сталоўцы, старанна намазвае адну скібку, зверху накрывае другой. Бляшаначку па-гаспадарску хавае назад. Затым, гледзячы ў радыёпрыёмнік на сцяне, няспешна пачынае есці. З радыёпрыёмніка гучыць урачыста-трагічны голас: «Весь советский народ, как и всё прогрессивное человечество, с глубоким прискорбием...» Кабак слухае, есць. Скiвіцы яго марудна варушацца, ходзіць туды-сюды востры кадык з пучком валасоў на канцы, у прымружаных вачах — насалода.

2014 г.

# Ход рэчаў



Фелікс БАТОРЫН

**Строма**

*Вецер здзімае пясчынкі
са стромы жвіровай.
Плынь вымывае пясчынкі
са стромы жвіровай.
Строма пад ветрам
і плынню мяняе абрысы,
Страчвае нешта
і штосьці адкрывае ў сабе.*

*Стромкія людзі
адкрытыя жорсткім стыхіям.
Вецер эпох з іх
штодня выдзімае цяплінкі,
Часу рака
падмывае іх плынню імклівай.
Падаюць стромы.
Балоты спакойна ляжаць.*

* * *

*Калі мігрэнь сціскае скронь,
А ў горле даўкі прысмак чаду,
Ты памакрэлую далонь
Падстаў з даверам лістападу.
Дарадзіць ён тваёй журбе,
Душы знямоглай дасць адкланне
І пакладзе ў руку табе
З адвечнай ісцінай пасланне.*

*Чырвоныя па залатым,
Сплятаюцца пражылкі ў словы.
Так проста ўсё ў пасланні тым,
Што зразумець ты ўжо гатовы…*

**Кніга**

*Чытаю кнігу я.
У ёй часы і лёсы,
І сённяшні заход,
і заўтрашні ўзыход,
І ўсіх зямных істот
жывое шматгалоссе,
Слязы гаючай соль
і пацалунку мёд.*

*Апошнім промнем дня
я закладу старонку
І вокладкаю том,
як векам, зачыню.
І адыду да сну.
І вінаграду гронку,
Нібы ліпнёвы дзень,
бурштынную прысню.*

*І буду чуць праз сон
я гук твайго дыхання.
А заваконны свет
напоўніць наш пакой
Баладай цвыркуноў
і голля калыханнем,
І плёскам цішыні,
народжаным ракой.*

*Каб нас не разбудзіць,
гаворачы на мігі,
Сузор'і паплывуць
у высі, як заўжды.
А раніцай ізноў
вярнуся я да кнігі
І выпушчу прамень,
закладзены туды.*

* * *

*Апошнія словы апошняй сустрэчы.
Наперадзе холад і змрок,
Чужыя абліччы і марныя рэчы,
Слязьмі затуманены зрок.*

*Злучаючы, доля плануе разлуку,
Рыхтуе, лагодзячы, боль.
Мы шчасце сваё спасцігаем
праз муку,
Як слодыч — праз горкую соль.*

**Паэт і кароль**

*Меў паэт пашану рэдкую —
Доля шчодраю была:
Сталаваўся ён аб'едкамі
З каралеўскага стала,
Карыстаўся ён абноскамі
З каралеўскіх ног і плеч,
А пісаў ён адгалоскамі
З Іх Вялікасцю сустрэч.*

*Ды хоць клікалі вялікасцю,
У нікчэмнасці манарх
Слынны быў дрымучай дзікасцю,
Голаў меў ён у штанах.
Як нашчадка вераломнага
Венцаносца яд забіў,
Каралёву дурасць помнілі,
А паэта свет забыў.*

* * *

*У багатай дыядэме галава,
Са смарагдамі каралі, бранзалеты…
Каб не бачыць пышна ўбраныя
шкілеты,
Не раскопвайце магілы хараства.*

* * *

*Адпаўзаюць снягі пад навіслае
голле ялін.
Прабіваюць сатлелае лісце
зялёныя стрэлы.
Над ракою ад рання грымяць
крыгаломныя стрэлы,
І, клякочучы, ўспорвае неба
акрылены клін.*

*Так бывала ўсе вёсны.
Так будзе апошняй вясной.
Калі мецьму навекі
павекі стамлёныя змежыць,
Правязіце мяне непрасохлай
дарогай лясной
На сялянскім вазку, перш чым зробіце
ўсё, што належыць.*

**Гуны**

*Пах магільны, гул чыгунны,
Землятрусны цяжкі крок…
«Вас адкуль прынесла, гуны?» —
«Мы тутэйшыя, браток!»*

**Натоўп**

*Натоўп — гэта тысяча адзінот
І тысяча неразуменняў,
Што мае адзін на ўсю тысячу рот
І цэлую крушню каменя.*

* * *

*На поплаве па ранішняй траве
Распырсканая сонечная радасць,
А з малака, што па рацэ плыве,
Стрыжы разынкі зухавата крадуць.*

*…Разынкамі ў таплёным малацэ
Збівала мама кашаль мой
застудны.
Калі ж збягала кропля па шчацэ,
Яна казала: «Пырснула са студні…»*

*Чым больш я зазнаю
ў сваім жыцці,
Тым большая туга мая па маме.
Схацеў я студню маміну знайсці,
Але яна згубілася ў тумане.*

**Ход рэчаў**

*Калі ідзе смяротны бой
За шчасце, роўнасць
і братэрства,
Геройства плаціць галавой,
А трыумфуе крывавжэрства.*

* * *

*Гуляе бэз, ні вока ані бока
Не гледзячы,
па травеньскіх садах.
Галёкае і блізка, і далёка
І ранішні, і вечаровы птах.*

*Раскоша ў свеце зухам і гарэзам,
Паблыталіся потым і спярша.
Спявае салаўём і пахне бэзам
Між красак ачмялелая душа.*

# Дзве святыні



Васіль ДЭБІШ

**Гандляр**

*Базар. Зіма над горадам.
У твар завея б'е.
Гандляр, маленькі, згорблены,
Прысмакі прадае*

*Жабрак паблізу. Галадна.
Працягнута рука.
Глядзіць звысоку, з гонарам
Гандляр на жабрака.*

*Пагардліва адвернецца,
Не дасць ані граша…
Бы мёд, спакусу велічы
П'е скваппая душа.*

**Русалка**

*У змроку халодным нямотнага дна,
Туманным, дрымучым, глыбінным
Русалка жыла маладая адна.
Адна сярод пусткі і стыні.*

*Над ёю свяціліся зорак агні,
А вечар прасторы разгушкваў.
І сніліся ёй залацістыя сны:
Высокія дрэвы і птушкі.*

*Хацелася ёй цеплыні і святла,
Пяшчоты людской і кахання.
Рукамі ўзмахнула яна, паплыла
З цямрэчы ў блакітнае ранне.*

*– Загінеш, — раўла вадзяная сцяна —
Чакае там смерць, не пяшчота…
«Мне б сонейка ўбачыць, шаптала яна —
А потым — ці важна, што потым!»*

* * *

*У нудзе непрыглядный, адчаі
Захлынуўся б я — выжыць не змог
Без падтрымкі іх: аберагаюць
Дзве святыні — Радзіма і Бог.*

*Калі цемра кладзецца густая
На крыжы непазнаных дарог,
Шлях мой зорна тады асвятляюць
Дзве святыні — Радзіма і Бог.*

*Не сканацьаднаму ў паняверцы.
Ніпачым ні палон, ні астрог,
Бо навек пасяліліся ў сэрцы
Дзве святыні — Радзіма і Бог.*

**Звыроднасць**

*Кубло змеяў у купіне.
Пераплятаюцца,
шыпяць.
Ніяк не могуць
успомніць, хто яны?!.
Кубло змеяў у купіне.*

**Страх**

*Не бачыш нічога,
ды ўсё-ткі ідзі…
Чуеш,
у вецці зялёным
пагойдваецца птушка.
Недзе паблізу
звер прытаіўся.
Не бойся яго.
Гэты звер —
толькі ў нашых галовах.
Заўжды непрыкметнае тое,
што дзеліць святло і цемру.
Неспазнанае палохае нас
і страх нараджае.
Абрастаючы шкарлупіннем,
скажоным робіцца свет:
зоркі ноччу ярчаюць, растуць,
днём раптоўна знікаюць,*



Фота В.Казакова

*як мары людзей,
як нязбытныя мары Айчыны…
Ідзі.
Бачыш:
знаходзячы ў цемры дарогу,
не баючыся ўпасці,
месяц плыве…*

**Маланка**

*Мільгае маланка ў небе,
высвечвае сцежкі-дарожкі…
Ляціць праз ноч
проста ў маё сэрца.
Яна можа параніць,
забіць мяне.
Не хаваюся ад яе:
імклівая, жудасная,
ды вабіць да сябе,
не баіцца цемры.
Узіраюся ў неба.
Над Радзімай
гарыць продкаў агмень.*

**Адрачэнне**

***Прысвячаецца
Васілю Гадульку***

*…Ён быў паэтам.
Ён пакінуў каханку
(век дакарала:
«Што піў?» і «Дзе грошы?),
вяскоўцаў (якія дапытваліся:
«Ці жывеш, ці памёр?..»).
Ён пакінуў свой дом,
які замінаў вольна дыхаць,
стаў служкай блакіту.
Ён пасвіў авечак, звяроў і птушак,
сляды на траве,
а ноччу — зоркі на небе.
Калі яму рабілася невыносна —
пачынаў лічыць
аблокі, васількі, час —
усё, што было вакол.
Ён ведаў мноства моў,
мог свабодна размаўляць
з кветкамі і птушкамі,
хмарамі і дрэвамі,
ветрам і ручаём.
Знудзіўшыся жыць, ён памёр;
пакінуў пасля сябе блакнот
з вершамі:
«Цяпер я, прынамсі, вольны —
ад сябе!»*

**Іранічнае**

*Я па БТ уключаю навіны.
Надта жахлівую бачу карціну:
Крызіс навокал, тайфуны, цунамі,
Мор у Пекіне, сутычкі ў Панаме.
Пухнуць ад голаду бедныя грэкі…
Скрозь парушэнне правоў чалавека.
А ў Беларусі цудоўнае ўсё
(Уравень жызні расцёт і расцёт)!
Гэтак праз год узрасце да нябёсаў.
Дзіўна, чаму ж я і голы, і босы?
Можа, я дурань, мо недарэка!?.
Дапамажыце мне, бедныя грэкі.*

# Песня



Віктар КАЗЬКО

Саспела. Хаця і сумнеўна, бо гэта не тое, пра што можна расказваць адрачона. Сэрца не хапае. А прайшло ж ужо куды больш за паўстагоддзе. Бунтуюць і адмаўляюцца не толькі сэрца — вочы, памяць: не і не. Але было, было…

Ускалыхнулася і абудзілася ўсё ўва мне некалькі гадоў таму. Але тады я не саўладаў з сабой, роспачна адмовіўся прызнаць і паверыць сабе. Бо гэта ўсё ж небяспечная справа — даварацца былому, асабліва на схоне гадоў, як небяспечна хаваць у сабе недавер да таго, хто ці што нябачна і заўсёдна з табой і ў табе — да твайго абаронцы і абярэга: праўды, сумлення і яшчэ нечага, чаму няма і акрэсленасці. Мо свайго прывіда, здані. Нішто так не разбурае, не гнюсіць і не зводзіць нас, як немата і немач, нявыказанасць і недагаворанасць душы — яе акаліна і іржа. Да пары да часу стоеная і без таго ў нашым хісткім існаванні міна.

Міны свайго мінулага ды і сённяшняга трэба, неабходна размініраваць! Толькі ведаць, верыць і гаварыць.

Упершыню сфатаграфаванае маёй існасцю неасэнсаванага і напаўсляпога, а мо і цалкам сляпога дзяцінства я паспрабаваў выказаць у адказ на просьбу майго маскоўскага, не пазбаўленага да сівых гадоў настальгічна-сентыментальнай рамантыкі знаёмца. Наведаўшы канцэрт выбітнога спевака Дзмітрыя Хварастоўскага, паслухаўшы яго ваенныя песні, ён звярнуўся да мяне, каб я напісаў артыкул пра тое, якія песні спявалі мы, дзеці вайны, дзетдомаўцы, бо ў сталічных газетах распачаў дыскусію аб пустаце, нікчэмнасці і нават шкоднасці спеўнага рэпертуару сучасных эстрадных зорак. Рабіць гэта мне не вельмі хацелася. Час змагання з ветракамі даўно мінуў, сканаў. Не выжыў нават і хітрыкаваты вечны Санча Панса з падобным яму ж неўміручым аслом. Двух апошніх у свой час мне было асабліва шкада, бо ў іх мелася нешта ад нашага адвечнага балота, дрыгвы — палешука. Але адмовіць свайму маскоўскаму сябру я не мог. Так ужо заведзена ў нас, таго ж палешука бяруць заўсёды цёпленькім, не сілай, не нахабствам і пагрозай — ласкай, абавязкам, адвечным пачуццём у ім нейкай адказнасці, завінавачанасці ўсім і кожнаму, хто падыходзіць і звяртаецца да яго з паклонам. За паклон, за добрае слова мы заўжды гатовы хоць да чорта на рогі, у пекла. Больш за тое, гатовы да здрады сабе, сваёй хаце, сваёй будучыні, тады ўжо хай і трава не расце.

Я ўпарціўся, прагнуў збавення сваёй травы да таго ўжо часу забыцця. Але цалкам адмовіць у просьбе знаёмцы не здолеў, шмат у чым быў яму абавязаны, хаця б у шчырасці ягоных памкненняў. І таму адгукнуўся, пачаў пісаць. Але чамусьці адразу ж не заладзілася. На самой справе, якія песні былі ў нас, дзетдомаўцаў, адразу пасля вайны: «Вот умру я, умру, похоронят меня…»

Але і гэтага мы не спявалі. Наадварот, пазбягалі нават упамінання пра гэта.

Нібыта на непазбежнасць нашага лёсу была забарона. А мо хутчэй не існавала ведання саміх сябе. Як мне ўжо сёння здаецца, страх наступіць на міну, якую мы некалі абышлі, але на якой падарваліся на вачах у нас нашы бацькі. І страх іншы, не выказаны і глыбока прыхаваны, страх нашых бацькоў, ужо нябожчыкаў, а мо і ўсёй краіны: называць рэчы сваімі імёнамі. Няхай і падсвядома адмаўляць відавочнаму: не памінай ліха, і будзе ціха. Што таксама было мінай. Мінай замаруджанага дзеяння на дзесяцігоддзі і, пэўна, стагоддзі, на пакаленні. Дзеці, ці не ўсе, нават у маўчанні вельмі чуйныя на будучыню, пракоі і папярэднікі яе, асабліва пакрыўджаныя, абойдзеныя на дзяцінства. Дзяцінства краіны задушаных магчымасцяў.

Такім чынам, гэта было зусім не тое.

На ўсе часы, на ўсе эпохі дзяржаўнасці дзіцячай песні наканавана жыццялюбства. Нібыта дзеці ніколі не плачуць і не сумуюць, тым больш мы, казённыя, сталінскія дзеці. Але ж музычнасць неабдымная і ва ўзросце немаўляці. Яна ўжо закладзена ў калысцы, што бацькі падвесілі ў прыцемках печы і палацяў, працяг спрадвечнай уседжанасці катоў і котак з іх пяшчотай і замілаванасцю да жыцця. Толькі мы гэтага не зведалі, і таму нашы песні былі зусім іншыя.

Толькі што скончылася вайна, а мы, яе дзеці, працягвалі ваяваць. І чамусьці не ў апошняй Айчыннай, а ў грамадзянскай яшчэ вайне:

*По долинам и по взгорьям*
*Шла дивизия вперед,*
*Чтобы с боем взять Приморье,*
*Белой армии оплот…*

І гэтак далей, пра орденоносную, непобедимую и легендарную. Часам, праўда, не цураліся і не пазбытай намі ды нашымі бацькамі і недалёкай сучаснасці: «Артиллеристы, Сталин дал приказ…».

Пасля «приказа» перад словамі «зовет Отчизна нас» ішло ўжо наша, выпакутанае: «за наши парты и столы, за наши двойки и колы — огонь,огонь!».

Такія песні былі ў нас, калі мы хадзілі строем: у сталоўку, на памыўку, у лазню, у кіно. А хадзілі мы туды толькі строем, пад наглядам выхавацеляў і дырэктара дзетдома з завучам — былых пехацінцам і матросам-падводнікам. Спявалі шчыра, голасна, але не надаючы словам аніякай увагі, як вераб'і чырыкаюць пад стрэхамі хатаў і хлявоў ці ў пыле сярод вясковай вуліцы. Хаця, не без таго, падабаліся самі сабе: во, маўляў, мы якія.

Але ўсё гэта было ў гурце, не сказаць, каб пад вялікім прымусам, але, але… Самі ж па сабе песень не праглі, хіба толькі іншым разам — каб пацвяліць дзяўчат: «Выйди на крылечко, милая овечка, я тебя подергаю за хвост…».

Спецыяльна варта адзначыць: усе нашы песні былі рускамоўныя. Ні слоўца па-беларуску. Хаця жылі ў беларускай вёсцы, у глыбі Палесся, у самым сэрцы былога Турава-Пінскага княства, і вучыліся ў беларускай школе. Насычаліся адметнай гаворкай тураўцоў, сакавітай, спеўнай, з працяглым «у-у-у» — «карпу-у-у», «маразу-у-у». Няма нічога на белым свеце, каб гэта было толькі часова і не памнажалася і не паўтаралася.

Вось такім, строевым і маршавым, да фабзайства і рамесніцтва было наша жыццё, абмежавана бачнае, у аблямцоўцы строгага раскладу дня. Але мелася яшчэ і нябачнае, патаеннае і сакрытае. Былі ў ім толькі наша музыка і песня — гармонія з водгукам і водарам вайны, эпохі беспрытульніцтва, нязбытага і жорсткага сіроцтва, безбацькоўшчыны. Адпаведна гэтаму — нячутна вуху нашых выхавацеляў вагонна, бяздарна мы спявалі: «По блату, по блату, спалили немцы хату, построили халупу, похожу на залупу…» І далей у такім жа духу: «По блату, по блату, дала сестричка брату, а братик дал сестричке потрогать за яички».

Вядома, дзе мы гэтага набраліся. Не толькі адно ад аднаго. Але і ад безлічы калек, бязногіх і бязрукіх інвалідаў — як іх тады называлі, нібы гавяду: туш, тушаў, недарэзкаў і недабіткаў вайны, што на нізенькіх калясках на шарыкападшыпніках акупавалі ці не ўсе намашчоныя, пылава-прысакавыя вуліцы невялікіх пазаштатных гарадкоў, мястэчак. А больш — чайныя і піўныя, як у свой паўнацелы яшчэ час перадавыя і наступовыя пазіцыі і франты. У піўных і чайных, дзе пілі, канечна, зусім не піва і не чай, прымаючы ўжо мірныя сталінскія стограмоўкі, яны заканчвалі вайну, свой абсечаны, укарочаны век. Бо ім больш не было куды дзецца: якой хаце, якой жонцы патрэбна пушачнае мяса. І было іх у той час, калясачнікаў, думаю, не менш, чым сёння мэрсэдэсаў. Адпаведна яны і спявалі, стваралі сваю субкультуру: «На позицию девушка, а с позиции мать. На позицию девушка, а с позиции …»

Мы ж былі плоць ад плоці іх. Іх нашчадкамі з не менш горкім мінулым і, магчыма, будучым, хаця і не разумелі гэтага. І ў нашым малпаванні не было ні іх горычы, ні пратэсту. Хаця сёння, мне здаецца, гэта і спрэчна. Пратэст, бунт — увогуле вельмі спрэчныя рэчы і не заўсёды вытлумачальныя –патаемныя. Падобны на паслячарнобыльскія лясныя пажары: ніхто па барах не хадзіў, сцераглі іх і вайскоўцы, і пажарнікі, і леснікі. А лясы гарэлі. Гарэлі бары, дубровы і гаі, памнажаючы дымам і па́ламі радыяцыю. Вось і мы па-беларуску ціха тлелі гарэзнасцю дзяцінства. Спеўна, фальклорна і лагерна тлелі, не ўсведамляючы, якая нячыстая сіла водзіць і кіруе намі, пакуль наш радзіміцкі, крывіцкі ці дрыгавіцкі Бог спіць ці плача. Нездарма ж кажуць: у ціхім балоце ўсе чэрці водзяцца…

Вось прыкладна тое, што я напісаў свайму знаёмцу ў адказ на яго зварот да мяне. Мо крыху з'едліва і нават злосна. Не мог напісаць інакш — усю праўду, недзе толькі частку яе. Бо праўду пісаць было горка, і была яна мне вельмі балючай, апякальнай. Гэты свой праўдзівы допіс я адаслаў адрасату. Па настроі і ладзе ён не падышоў ні яму, ні газеце. Не было ў ім, як я сёння разумею, ні настальгічных сантыментаў, ні замілаваных усхліпаў па мінулым. А горыч і боль прарываліся нават паміма маёй волі.

Хаця ў нашым былым казённым жыцці мелася і іншае. Жыццё не бывае аднакаляровым і толькі змрочным. Было яно звычайным, як гэта заведзена — ад чалавека да чалавека. Таму сёння мяне і раздражняюць не толькі ўхваленні нашага светлага мінулага, але і праклёны яго: няварта на люстэрка злаваць, калі рожа крывая. Хто быў крывы, той ім і застаўся. Як гаворыцца, гарбатага толькі магіла выправіць. А наша беларуская доля адна, нязменная на ўсе эпохі і стагоддзі. Доля чалавека, які жыў, жыве і будзе жыць. І была ў ёй песня, бо мы ўсё ж не сугнеі. І, галоўнае, выжылі. Нема мыкалі, нема стагналі і плакалі, але захаваліся. Нехта ці нешта нас выцягнула з забыцця на паказ і пагляд часу. І ці не спевам, ці не песняй было наша абвяшчэнне свету сябе — наш першы крык, стогн і енк з заплюшчанымі яшчэ вачыма — пачатку ўзыходу на нашу галгофу, пакутнага, але і радаснага з'яўлення ў зямной юдолі.

Хораша спявалі нашы дзетдомаўскія дзяўчаты. Гэта ў іх абудзілася неяк вельмі нечакана — для нас, падлеткаў, хлапчукоў. Мо нечакана і для іх. Толькі ледзь-ледзь нешта праблiснула напярэдзе, пасвятлеў дзень. Дзяўчаты пачалі апранацца не ў аднастайна шэрае, рудое і чорнае, старэчае, а ў дзявочае. Белыя кашулькі, каляровыя — васільковыя і рамонкавыя — спаднічкі ды сарамліва накінулі замест чырвоных гальштукаў зноў жа каляровыя касынкі, як у іх прарэзаўся голас, нібы гаманлівы ручаёк з-пад мінулагодняга снегу.

Мы былі настолькі агаломшаны, што спачатку і не пачулі іх голасу, іх спеваў, як вясковыя людзі з надыходам вясны не заўсёды чуюць першую песню жаваронка над скаванымі яшчэ халадамі лесам і полем, таму што зрокам і слыхам ужо скіраваныя на будучае: вываз гною, узорванне нівы. Сяўбу. А птушыная песня ў іх у душы. Бо яна і ёсць іх душа.

І мы, упэўнены, спачатку пачулі не словы, не спеўныя галасы нашых дзяўчат, а нешта большае, што не выгаворваецца і не перадаецца ўслых, галасамі і словам. Ці не душу іх, што прагла песні. І ці не сваю душу адчулі, яшчэ кволае яе шавяленне ў кайданах, латах і кіпцюрах нашага мінулага. І праз гэта, як не дзіўна пра гэта сёння гаварыць, адчулі прагу дзейнасці, у нашых умовах, прагу азірацца навокал сябе і нешта рабіць. А найбольш тое, што было звыкла для нашых



бацькоў, у пераважнай большасці сялянаў.

Было гэта само сабой не асэнсавана падсвядома, іншым разам, і часцей за ўсё, нават прымусова. Але было, было, і прымус гэты ці не быў салодкі. Бо побач з намі займаліся той жа працай і нашы дзяўчаты. Садзілі бульбу і гародніну, садзілі дрэвы — свой дзетдомаўскі сад, кукурузу-кіяхі. І палолі іх, не толькі сваё, але і калгаснае.

Выязджалі на палеткі на франтавой дзетдомаўскай лайбе-палундры — палутарцы, падараванай нам вайскоўцамі. Дзяўчаты ехалі на працу, як на свята, у лепшых сваіх уборах, чысценькія і звонкія, таксама як і ў дзетдоме няспынна па дарозе спявалі, чыста, звонка і ненадакучліва, у нейкім родзе не заўсёды нават словамі, нячутна і нябачна, як прыродным і прыродным вясковым дзецям цвітуць палявыя кветкі, як кувае на першы зялёны ліст  пад зноў жа першай травеньскай навальніцай абуджаная птушыным граем, яго руплівасцю і жаданнем свайго і чужога кубла зязюля.

Толькі песні нашых дзяўчат чамусьці былі сумнымі. Мо ў іх таксама было нейкае прадчуванне. Не ў прыклад нашым бадзёрым, баявым і блазнаватым — надта сумныя і зусім не наскія:

*Скакал казак через долину,*
*через кавказские поля,*
*Скакал он, всадник одинокий,*
*блестит колечко на руке.*
*Кольцо казачка подарила, как*
*уходил казак в поход.*
*Она дарила, говорила: «Твоя я*
*буду через год».*
*Вот год прошел, казак стрелою*
*в село родное поскакал...*

Вядома, не абыходзілася без распаўсюджанай на той час «Катюши» — своеасаблівага дзявочага гімна. Але тут ужо не ўтрымліваліся і мы, гарэзліва зацягвалі назнарок і наперахоп: «Расцветали веники в парилке, поплыли туманы по реке, выходили на берег ботинки на высоком дамском каблуке...»

Дзявочую песню мы забівалі дзікасцю, весялосцю дарогі, прастораў неба і сонца, што заманьвалі і ўгравалі нас. Але дзяўчаты, як нічога не чулі,  як нічога не чуе салавей пад час сваёй песні кахання. На хвіліну-другую толькі па-зморшчыцку замаўкалі — і пачыналі зноў спяваць. Падштурхоўвала і правакавала іх самая маленькая і неглядная. Аня Лягун, жабянё, у якога, апроч вачэй і вялікага роту, нічога яшчэ дзявочага ці жаночага і не было. Толькі сум, сум, глыбока стоены недзе ў яе птушыных, заўсёды здзіўлена выразных і запытальных вачах. І спявала яна — як некаму малілася, невядома за што прасіла ў некага прабачэння. І дзякавала, дзякавала таксама невядома каму, недасягальнаму нікому з нас, з будучага ці мінулага:

*Дан приказ ему на запад,*
*Ей в другую сторону,*
*Уходили комсомольцы*
*На гражданскую войну...*

Цяпер маўчалі мы. Песня была відавочна не наша, але яна зачароўвала нас, бо мы былі ці мусілі ў хуткім часе быць камсамольцамі. І ў нашай крыві жыла вайна, параджэннем якой мы самі былі і да якой, няхай падсвядома, рыхтаваліся сёння ці заўтра і загадзя вызначалі ў ёй сваю долю. Долю новых Матросавых, Гастэлаў — герояў, зразумела. І гэта ўжо нас аплаквалі дзявочыя галасы, галасок нашай салоўкі Ані Лягун.

Між тым чуткі пра дзетдомаўскіх галасістых дзяўчат пайшлі па ўсім наваколлі. Іх пачалі запрашаць у раённы і вясковыя клубы. Ездзілі з натхненнем і радасцю. Да ўсяго дзетдом атрымаў замест сваёй франтавой лайбы-палундры новую машыну. Толькі з заводу, з невыветраным яшчэ пахам фарбы газік. Не ведалі няшчасця, ды шчасце дапамагло.

У чарговую паездку на канцэрт напакавалася столькі дзетдомаўцаў, што аж барты трашчалі — каму трэба і не трэба. Ехалі, зразумела, з вецярком і з песнямі. Мо таму і не пачулі, як адваліўся задні борт. Чаму такое адбылося — ці то нехта недакруціў нейкую гайку, паставіў надламаны борт, спарахнелыя дошкі. Толькі дзетдомаўкі пасыпаліся на машчоную чырвоным булыжнікам, з'езджаную да мазалёў і бляску крыві дарогу, як гарох. Падалі з даволі высокага кузава на пляскаты крывавы камень.... Сыпаліся на жорсткі дол і мкнулі зноў у кузаў. Як здавалася ім, выратавальнае кубло.

Заднія падалі, а пярэднія, яшчэ не цямячы, што адбываецца, чаму ім вальней і прасторней стаяць, працягвалі спяваць патрыятычную песню, не здагадваючыся, што гэта ўжо рэквіем:

*Уходили, расставаясь,*
*Покидая тихий край:*
*«Ты мне что-нибудь, родная,*
*На прощанье пожелай».*
*И родная отвечала:*
*«Я желаю всей душой,*
*Если смерти, то мгновенной,*
*Если раны — небольшой».*

Смерць большасці са спявачак была імгненнай. Толькі Аня Лягун пакутавала доўга, такая ў ёй была прага жыцця. Яна ўчапілася з аднаго канца за не зусім адарваны борт машыны і цягнулася за ім да схону. І да схону гучала з машыны песня. А машына працягвала бегчы наперад. А за ёю каменна і крывава доўжыўся, як выдзерты з пашчы хіжага звера, чырвоны язык. У вышыні саспелага ўжо дня гучала песня. Унізе — паядала яе дарога. Дарога бязлітасна і бяссэнсава пажырала сваіх дзяцей, пазбаўляла сама сябе іх голасу і мовы, якой яны тады яшчэ нават і не набылі...

Не думаю, што тут трэба некаму хоць што-небудзь тлумачыць. Не магу і няздольны. Мае словы скамянелі яшчэ больш за паўстагоддзя таму, калі каменна была размазана крывёю паміж небам і зямлёй наша дзетдомаўская падлеткавая песня. Таму я столькі часу і маўчаў, і таму не атрымалася ў мяне допісу ні свайму маскоўскаму знаёмцу, ні ў маскоўскую газету.  Нават на настальгію Хварастоўскаму, на яго выдатны голас і не менш выдатныя песні  нічога не маю сказаць.

# Труба



Лявон ВАЛАСЮК

З крана на кухні нудна капала вада. Яе гукі былі падобныя на ўдары малатка па галаве...

Цётка Паліна пакутліва глядзела на брудна-іржавыя кроплі і думала пра тое, як хацца б перад смерцю папіць чыстай вады.

Калодзеж у двары быў, але ж калі пусцілі ваду па трубах, дык суседзі амаль перасталі ім карыстацца, і вада застойвалася, карыстацца ёю можна было хіба што для паліву градак. Але ўсё ж бывалі часы, калі рамантаваліся вадаправодныя трубы і суседзі выбіралі ваду з калодзежа да жоўтага пясочка. Такім момантам карысталіся, каб і пагаварыць, як некалі, каля калодзежа. Калі тое было?..

Цётку Паліну даўно ўжо цяжкая хвароба моцна трымала за рэбры, ды, нягледзячы на тое, жанчына вымушана была рухацца, бо муж яе, Зміцер, увогуле не меў сілаў падняцца з канапы. Жанчына найперш думала пра мужа, з якім пражылі ўжо больш за паўвеку, вырасцілі дваіх дзетак. Зося, старэйшая, і сын Васіль няблага ўладкаваліся ў жыцці, хаця ліха хапіла.

І вось цяпер гэтая іржавая вада з крана. Яе стук па эмалі ракавіны па кроплі выбіваў з хворай жанчыны апошняе здароўе...

У «маладой» пенсіянеркі Зосі і яе брата Васіля памерла маці Паліна: не верылася, што яшчэ жвавая, рухавая жанчына можа так рана сыйсці ў лепшы свет, хоць і было ёй на той час амаль восемдзесят гадоў. Даканала невылечная хвароба, што нечакана прыстала да яе і ўжо не адчапілася. Застаўся ў хаце ляжаць бездапаможны Зміцер, які апошнім часам і размаўляць ужо не мог. Пакуль бацьку даглядала маці, то нібыта ўсё было ў парадку, а цяпер...

Зося з мужам Аляксандрам пераехала ў бацькоўскую кватэру, калі ўжо не стала маці. Брат Васіль жыў у сталіцы, займаў высокую пасаду. Ён часцяком прыязджаў да старых, калі знаходзіўся па справах у вобласці. Ды і Васілёвы дзеці пакуль заставаліся ў родным горадзе: у кожнага была свая сям'я, свая праца...

Тая невялічкая бацькоўская кватэра знаходзілася ў старым «чыгуначным» цагляным аднапавярховым доме. За гародам са сціплаю лазняй пралегла чыгунка, адкуль заўсёды ішоў спецыфічны пах, асабліва летам, калі сонца добра награвала шпалы і рэйкі. Абапал палатна былі глыбокія равы, якія з вясны напаўняліся вадою — і адтуль чуліся вясёлыя галасы птушак і жабак...

Да кватэры гадоў дзесяць таму сын Васіль зрабіў прыбудову, у якой знайшлося месца ўсім неабходным для бацькоў выгодам: з'явілася вада, каналізацыя, прыродны газ. Але праблемы ўсё роўна заставаліся.

Праблемай была і вада, падобная па колеры на гарбату трохдзённай вытрымкі. Менавіта з гэтага і пачаліся ў Зосі клопаты і прыгоды ў бацькоўскай кватэры.

Найперш яна пайшла ў чыгуначны «Водаканал». Маладая жанчына-інжынер, да якой звярнулася наведвальніца, адказала, што яны да той вады не маюць ніякага дачынення:

— Мы падпарадкоўваемся зусім іншым структурам, а вашыя праблемы трэба вырашаць з новым начальствам. Прыходзьце зранку, сустракайцеся і вырашайце...

За тыдзень Зося так і не змагла сустрэцца з начальнікам арганізацыі ў непрыкметным будынку за высокай бетоннай агароджай...

Махнуўшы рукой на тое ведамства, Зося вырашыла ісці да кіраўніцтва абласной чыгункі, дзе раней працавалі бацькі. Тут яна нарэшце трапіла да галоўнага інжынера, які ветліва сустрэў Зосю і запрасіў прысесці...

— Мае бацькі ўсё сваё працоўнае жыццё аддалі чыгунцы, — сказала жанчына. — Дзякуй за кватэру, у якой мы жылі, пажаніліся. Але цяпер іншы час — XXI стагоддзе. Таму ад вас патрэбна толькі адна дапамога: вырашыць праблему з іржаваю вадою ў іржавай трубе...

— Усё, што ад нас спатрэбіцца, зробім, — запэўніў інжынер. — Вы не хвалюйцеся толькі. Але на ўсялякі выпадак схадзіце і да галоўнага інжынера вашай ЖКГ. Я пазваню яму: мы аб'яднаем нашыя намаганні.

На тым і разышліся. Галоўны інжынер чыгункі абяцаў дамагчы з праблемай да зімы. Развітаўся за руку, што вельмі здзівіла і абнадзеіла Зосю.

Пасля шматлікіх званкоў і паходаў па кабінетах да Зосі прыехалі рабочыя. Яны прадзімалі трубы, нешта раскручвалі і закручвалі, ды толькі вада ад гэтага не стала чыстай... Так працягвалася доўгія дні і тыдні.

Непрыкметна надышла чарговая восень. Калі-нікалі пачыналі лётаць і белыя мухі. Двое мужчын капалі траншэі ля плота Зосінага суседа: шукалі трубу, што давала ў кватэру «фарбаваную» ваду. Зося нават гатавала для «сваіх» работнікаў гарбату, каб грэліся гарачым у холад: шкадавала мужыкоў.

Неяк у размове адзін з рабацяг, які назваўся Міхасём, па-сакрэцэ паведаміў, што яны ведаюць, дзе тая труба: даўно яе намацалі, але толькі іх галоўны інжынер даў загад «пратрымацца» ў траншэі да маразоў...

...Зранку, якраз у пятніцу, Зося пазваніла ў сталіцу брату Васілю, паведаміла пра хамства і ашуканства галоўнага інжынера мясцовай ЖКГ.

У панядзелак, яшчэ не развіднела, ля дома сабралася агромністая грамада тэхнікі і людзей. Усе мітусіліся, нешта спрабавалі рабіць, шмат крычалі і мацюкаліся.

На наступны дзень раскапалі шырокую вуліцу-дарогу. Пачалі класці новую трубу.

У абед прыехаў Зосін брат Васіль, які па дзяржаўных справах якраз апынуўся ў родным горадзе.

— Як ідуць справы? — спытаў з сур'ёзным выглядам толькі ў сястры.

— Тваё слова зрабіла сваё, — усміхнулася Зося.

...Ваду падвялі нанова да ўсіх кватэр у доме. Ды толькі галоўны інжынер ЖКГ Віталь Іванавіч, лысаваты мужчына няпэўнага ўзросту, вырашыў усё роўна пад канец напаскудзіць жанчыне, праз якую меў непрыемнасці. Трубу з яе санвузла кінулі недавездзенай да галоўнага калектара. Такі быў загад галоўнага інжынера.

Калі на наступны дзень ён прыехаў паглядзець на вынік сваёй працы, Зося выйшла на падворак, дзе яшчэ не была засыпаная траншэя, каб выказаць гэтаму непрыемнаму для яе чалавеку ўсё, што пра яго думае. Здарылася так, што ратуючыся ад колкага слова жанчыны, Віталь Іванавіч аступіўся і зваліўся нечакана ў незасыпаную траншэю.

— Вось бл...а! — толькі і паспеў крыкнуць, апынуўшыся ў пастцы, у якой і паварухнуцца не было як яго агрузламу целу.

— Труба табе тут будзе, інжынер савецкі! — злосна крыкнула Зося. — І ўсёй тваёй старой сістэме! Не вылезеш адсюль, пакуль не дазволю! Закапаю, і ніякая «Белая Русь» табе не дапаможа! Колькі ты маёй крыві папіў?!. — Жанчына схапіла рыдлёўку, што знаходзілася сіратліва ля сцяны прыбудовы, стала на краі траншэі, гатовая кідаць туды зямлю... Твар галоўнага інжынера перакасіла ад страху і сораму. Мужчына як анямеў: не могу ў адказ нават нешта вымавіць гаспадыні двара.

Рабочыя, як нічога не здарылася, ціха разышліся, пасміхаючыся ў ватоўкі.

З крана на кухні нудна капала вада. Для Зосі пачаўся новы адлік часу, толькі вось сівых валасоў дабавілася на скронях заклапочанай жанчыны і тонкіх стрэлак ля вачэй...



# Бабскі бунт

«Прайшоўшы праз неймаверны колазварот людзей і падзей, стаўся годным на шостым дзясятку гадоў пахуліганіць у літаратуры,— адзначыў пра сябе аўтар.— Лепшым пісьменнікам было, ёсць і будзе само жыццё. Глядзець на дзікасць і дзіўнасць рэальнага свету стараюся пад нечаканым ракурсам, вачыма, у якіх скачуць чорцікі. Хачу, каб мая проза была падобнай да жыцця, а жыццё, нават у самых неверагодных праявах, было падобным да таго, што змагу напісаць».

Прапануем увазе чытачоў апавяданне з другой кнігі пісьменніка-сатырыка «Варажбітка», якая ў хуткім часе выйдзе ў выдавецтве «Логвінаў». Кніга працягвае аўтарскую серыю «Легенды гарадскіх ускраін», першую з якой — «Глухмень» — яшчэ можна набыць у кнігарні «Ў».



Віктар АСІПЕНКА

Вечар выдаўся празрысты і ціхі. Працоўны дзень кацІўся да свайго афігею. Начальнік Казляеўскага райаддзела міліцыі маёр Палажняк Ігнат Васільевіч смаркануў пад стол і вывеў на аркушы паперы: «Акт пра патананне». Пасля закрэсліў і напісаў: «Акт пра ўтапленне».

— Суха. Не бачны размах праведзенай працы. А калі напісаць: «Акт пра ўваход цела ў ваду і нявыхад яго з вады»? Не, так увогуле падобна на задачу са школьнага падручніка. Пісака! Ваўчыную хватку опера забівае ўва мне канцыляршчына!

Маёр наліў з мельхіёравага чайніка паўшклянкі выратавальнага чыфіру. Як некалі, у маладыя гады, яму захацелася, сціскаючы пецсік у руцэ, паганяць урак, пашчоўкаць сталёвымі бранзалетамі на запясцях у бандзюганаў. Нуднае сядзенне ў райаддзеле прызнавалася карысным толькі ў дні бязвоблачнага пекла, калі любое жывое стварэнне шукае выратавальны цянёк.

Хтосьці з павагай пастукаў у дзверы. Твар Палажняка прыняў заклапочана-дзелавы выраз. Увайшоў старшы лейтэнант Канарэйкін. Выглядаў старлей горш за тапельца.

— ЧП, таварыш маёр! Бунт! Затрымана паўтара дзясятка чалавек.

Бровы Палажняка сурова сышліся на пераноссі.

— Завадатараў у казамат! Дапытаць як след! Выпісаць кожнай істоце па мордзе! Калі пытанні застануцца без адказаў — па нырках! Кру-гом! Аб выкананні далажыць!

— Якія ныркі, таварыш маёр, бабы бунтуюць!

— Якога хрэна бабам трэба?!

— Чорт іх ведае! На ўгаворы растлумачыць сутнасць свайго бунту не паддаюцца. Начальніка патрабуюць!

— Якія ўгаворы?! Яны, што, на пляжы ў шэзлонгах ляжаць, а ты разносчык халоднага піва?! Галава ў цябе нашто?

— Ем галавою!

— Думаць галавою трэба, а карміць па заслугах.

— Так точна! — і Канарэйкін ліха шчоўкнуў абцасамі.

— Пайшлі. Пакажаш бунтарак.

Палажняка ў райаддзеле паважліва звалі «рэнтген». Калі маёр неміргаючым позіркам дзіравіў злачынцу, прамаўляючы легендарнае: «Я цябе, падла, наскрозь бачу», нікому не ўдавалася адмаўчацца.

У цеснай дзяжурцы дванаццаць жанчын ціха аб нечым шапталіся. Хутчэй за ўсё, аб сваім бабскім гаротным лёсе. Крыху ўбаку моўчкі сядзелі трое мужчын з каменнымі тварамі. Каларытная цётка ў вясёленькай кофтачцы дзелавіта грызла яблык.

«Каларыцціца, зараза!» — без злосці падумаў маёр і ўпіўся слаўтум уедлівым позіркам у шустранькую з выгляду жанчынку. Жанчына здрыганулася і ледзь не папярхнулася кавалкам яблыка.

— Вы мяне вачыма так не страшчэ! Па вашай міласці ледзьве яблыкам не падавілася.

— Кофтачка на вас пухнатая, — знайшоў што адказаць Палажняк. — Вачэй не адарваць.

— Сапраўдная шэрсць ебіпцянскіх вярблюдаў.

— Тое, што шэрсць вярблюджая, я адразу зразумеў па двух горбіках на вашых грудзях.

— Рэнтген! — падумаў з павагай Канарэйкін і зашаптаў шэфу на вуха. — У пратаколе адзначаны факт групавога парушэння грамадскага парадку. Жанчыны на плошчы, нецэнзурна выражаючыся, заміналі людзям культурна адпачываць. Завадатар — Муратава Вольга Пятроўна, тая, што з яблыкам. Дзвццаці васьмі гадоў, швачка. Па словах відавочцаў, так крыла матам, што заслухацца можна. Хвацкую лаянку выдавала! Крыніца натхнення пакуль не выяўлена.

— З дазнаннем валаводзіш, старлей! — нахмурыўся Палажняк і пераключыўся на аматарку яблыкаў і моцнага слова. — Давай, Вольга Пятроўна, выкладвай, як табе сабла ў хуліганкі запісацца! Бач ты, надумала мацюкамі крыць у грамадскім месцы! Табе што, кутоў у кватэры бракуе?! Уткніся носам у кут і мацюкайся колькі заўгодна — пазбаўляйся нечысці.

Муратава паклала абгрызак яблыка ў пакецік, выцерла даланёй сакавітыя вусны і залапатала:

— Грамадзянін начальнік, на плошчы праходзіў марш пратэсту непрыгожых жанчын супраць усталяванага мэрыяй сухога закону пад час святкавання «Дня горада». Матывацыя пратэсту змяшчаецца ў некалькіх словах: «Непрыгожая баба цвярозаму мужыку па абуху».

— Пачакай, пачакай! Твае словы з партрэтам твайго твару не стыкуюцца. З твару ты сімпатычная, ды і фігурай не пакрыўджана. Не магу зразумець, як ты патрапіла ў кампанію непадобных да сябе?

— Каб мяне зразумець, вялікага розуму не трэба. Душа бунтуе, бо стамілася чакаць нармальнага мужыка. Маньяк і той бесхрыбетны пайшоў! Згвалтаваць толкам не можа. Уздумала неяк бесхрыбетнае чмо абразіць мяне апоўначы на паркавай алеі. Плашч на сабе расхінула, а там замест мужчынскай годнасці нейкая ерунда лядашчая вісіць. Без бінокля цяжка разгледзець. «Што ж ты, паразіт, з пузам кавуновым да мяне сунешся! — накінулася на маньяка. — Хвосцік твайго кавуна дзе?! Усох хвосцік?!» Так напалохала маньячыну, што праклятый драпака даў, ажно толькі пяткі блішчэлі ў месяцовым святле. Чахарда ў мяне з мужыкамі пачалася, як ярмо замужжа на сябе павесіла. Але пакуль сілы ёсць і на здароўе не скарджуся, хачу жыць паўнавартасным жыццём, каб потым не праклінаць сябе за дарма пражытыя гады. «Конь» майго мужыка скача заўзята толькі час ад часу. Шукаю мужыка з правільным «канём». Кожная жанчына хоча аднаго…

— Потым другога! — не стрымаўся маёр, якому надакучыла пустая балбатня. — Запомні, Муратава! Усе мужыкі добрыя, нават нізкааплатныя. Ты па справе кажы. Тут не тэатральныя падмосткі і апладыраваць тваім байкам ніхто не будзе.

— Дык я па справе кажу! Калі мужык бабе даспадобы, хай сабе на ёй пацее. Але калі яго азадак ад крэсла нельга адарваць, то такі самазваны намеснік Бога бабе ў хаце не патрэбны.

— Бытавуха! — спакойна ацаніў Палажняк сітуацыю. — А ты, чудзіла, — маёр нядобра пакасіўся на Канарэйкіна, — кіпеш падняў: «Бунт! Бунт!».

— Мой муж — сапраўдны злыдзень, — не суцішвалася Муратава. — Куды не пакладзі, усюды замінае. Колькі жанатыя, столькі мірымся. То ён крычыць: «Ты кроў маю п'еш». То я крычу: «Не п'ю я ўсякую дрэнь». «Ты ідыётка!» — лезе ён да мяне біцца. «Так, ідыётка!» — згаджаюся. — «Жыла б з генералам, была б генеральшай». Для жанчыны галоўнае, каб

**Мой лозунг: кожная маці — бацька сямейства. Грудзі свае з годнасцю хачу несці, а не перацягваць з хаты на працу і з працы дахаты**

мужык талковы побач быў. Я ў вас спытаць хачу, грамадзянін начальнік, па якім такім праве мужчынам дазволена здраджваць, а жанчынам ані-ні. Адразу шлюхай абзавуць і пакрыюць нязмыўнай ганьбай.

— Тваё пустаслоўе, Вольга Пятроўна, прыходзіцца на мой службовы час. І тлуміць сабе галаву глупствам не дазволю. Але, паколькі бачу памылковасць тваіх меркаванняў, змаўчаць не магу. Па прыродзе сваёй мужчына — паляўнічы. І патрабаваць ад яго, каб ён быў верным адной жанчыне, тое самае, што ў лазню пайсці і венік забыцца. На гэтым дэмагогію спыняю. Адказвай на пытанне: чаму на плошчы мацюкі гарадзіла?

— Адказваю. У кожнай, што мацюкалася, ёсць свая сумная гісторыя. Пра чужыя гісторыі казаць не буду, распавяду сваю. З мужам жыву добра, калі мерскаваць па мэблі. За паўтара года, якія пражылі разам, нажылі тры аборты і выпадковае дзіця.

— Лепш адзін раз нарадзіць, чым кожны дзень галіцца! — не стрымаўся маёр, цярпенне якога амаль скончылася.

— Можа яно і так, грамадзянін начальнік. Мне гэтую праўду праверыць цяжка. Але ў паўсядзённым побыце мой мужанёк сябе не праяўляе. У хаце з'яўляецца толькі калі жэрці захоча. І пайшло-паехала: то супец яму разагрэй, то тэфтэлю распаруй. І няма гаду ніякай справы да таго, што я ўся ўзмыленая ад працы, што з языком на плячы замест каўняра, што дахаты ледзьве ногі прывалакла. Дык я яму ў адплату дулю пад наздрулю, а не піражок з какавай.

— Дарма па дробязях сітуацыю дома нагнятаеш. Табе ў кватэры прыбрацца і абед прыгатаваць, што мужыку раз плюнуць.

— Пляваць ён мастак.

— Апошні раз пытаюся, чаго буяніла?

— Дык я ж вам тлумачу справядлівасць свайго буянства. Мой лозунг: кожная маці — бацька сямейства. Грудзі свае з годнасцю хачу несці, а не перацягваць з хаты на працу і з працы дахаты. Вось пра гэта і казала на плошчы. Казала шчыра і на зразумелай мужыкам мове.

— Згодны, што баба таксама чалавек, і ваду на ёй трэба вазіць хоць бы праз раз. Але мудрасць народную не правядзеш. Нездарма кажуць: калі здарылася нешта, адразу шукай вінаватую ў гэтым жанчыну. І што б яна там ні казала ў сваё апраўданне, мацюкацца ёй дазволена толькі сярод такіх, як сама, зачыніўшыся ў жаночай прыбіральні. Там яна можа адначасова гучна выпускаць газы, пляваць на падлогу, калупаць пальцам у носе, гучна адрыгваць, распавядаць, як і каму нядаўна дала, і чухаць тое месца, дзе маглі быць яйцы, калі б яна была мужыком.

— Але ж мацюкаліся мы, каб мужыкам было зразумела, чаго мы ад іх хочам і як часта гэтага хочам.

— Калі б ты, душа мая, жыла ў пампасах, я б слова табе не сказаў. Мацюкайся, крыўляйся, хоць голая хадзі. Там клімат для гэтых штук спрыяльны. Але на плошчы з нятленным помнікам, ды яшчэ на вачах у людзей і міліцыі, такое вытвараць недазволена. Як вартавы закона, я абавязаны накласці штраф і выказаць грамадскае ганьбаванне. Сутачкамі ўзнагароджваць гэтым разам не буду. Але калі паўторыцца нешта падобнае, прыму меры па законе, якім бы строгім ні быў яго артыкул.

Палажняк яшчэ раз прагледзеў рапарт аб здарэнні. Мацюкі, згаданыя ў дакладной, былі сапраўды сакавітымі. З цяжкасцю верылася, што прыстойна апранутыя жанчыны мелі такія глыбокія пазнанні ў мацюках. Сумненні грызлі маёра і не давалі паставіць тлустую кропку ў гэтай дзіўнай справе. Ківаючы ў задуменні галавой, ён злавіў на сабе погляд аднаго з затрыманых мужчын.

— Канарэйкін! А мужыкі за што сядзяць?

— За падказкі, таварыш маёр. Яны на плошчы дзеля пацехі навучалі жанчын майстэрству мацюкацца…

# Начныя нататкі

Уладзімір СІЎЧЫКАЎ



## Новая дзяржава

Гэта цалкам верагодна праз год ці крыху болей.

Запланаваны рэферэндум у Каталоніі (Catalunya), у выніку якога аўтаномная вобласць можа стацца незалежнай і выйсці са складу Іспаніі.

Трагічным для каталонцаў стаў 1714 год, калі Каталона-Арагонская Карона страціла палітычную і юрыдычную незалежнасць, а іспанскі пасад заняў кароль Філіп V.

За незалежнасць каталонцы, якія здавён лічаць сябе нацыяй, асобнай ад іспанцаў, змагаюцца амаль трыста гадоў – і маюць на гэта ўсе падставы. Каталонія – самы эканамічна развіты рэгіён Іспаніі, у ім самая высокая шчыльнасць насельніцтва. Сем з паловаю мільёнаў яе жыхароў складаюць шаснаццаць адсоткаў насельніцтва краіны, ды выпрацоўваюць яны дваццаць тры адсоткі валавога нацыянальнага прадукту, а валавы ўнутраны прадукт на душу насельніцтва там амаль такі самы, як у Нямеччыне! У сельскай гаспадарцы занятыя ўсяго два адсоткі працоўных, затое шэсцьдзясят чатыры (!) маюць занятак у сферы абслугоўвання пераважна на пяцістах васьмідзесяці кіламетрах міжземнаморскага ўзбярэжжа з выдатнымі пляжамі! Ганарацца каталонцы сваёй каталонскай моваю, якая пры каўдзільё Франсіска Франка Баамондэ ледзь не знікла з ужытку, але пасля таго, як дыктатуру зрынулі, імкліва адрадзілася. Ганарацца сваёй культурнай адметнасцю і такімі сусветна вядомымі асобамі, як дойлід Антоніа Гаўдзі, мастакі Сальвадор Далі і Жаан Міро, оперныя спевакі Мантсерат Кабальє і Жазэп Карэрас, футбалісты легендарнай «Барсы» Віктор Вальдэс, Эрнандэс Хаві, Франсэск Фабрэгас...

У апошнія гады ў Барселоне на маніфестацыі пад лозунгамі «Каталонія – не Іспанія!», «Каталонія – новая дзяржава Еўропы!» выходзяць па паўтары мільёны чалавек, што нават уявіць цяжка!

Сёлета каталонцы перанялі акцыю прыбалтаў, якія калісьці валі напрыканцы васьмідзясятых за выхад з Савецкага Саюза, – чатырыста тысяч чалавек выцягнуліся ў жывы ланцуг праз усю аўтаномію, праз восемдзесят шэсць гарадоў і мястэчак, ад Валенсіі да Францыі! Акцыя пачалася ў 17.14, і такім чынам нацыя згадала трагічны ёй год.

«Independencia!», «Adéu, Espanya!», «Goodbye, Spain!» – такія надпісы-графіці на сваё вочы не раз бачыў я на платах і будынках у Барселоне, у Січэзе і ў Фігерасе.

Урэшце, чым Каталонія горшая за Партугалію, якая была падуладнай Іспаніі ў XVI–XVII стагоддзях?

Вольналюбівая нацыя не проста жадае, яна неўтаймоўна прагне незалежнасці. І, несумненна, вырвецца з хцівых імперскіх абдымкаў, мірным і цывілізаваным шляхам дамажацца свайго!

Еўракамісары цвердзяць, што незалежнай Барселоне не будзе месца ў Еўразвязе і яна мусіць стаць у доўгую чаргу, каб патрапіць у гэтае міждзяржаўнае аб'яднанне. Але прэм'ер-міністр Каталоніі Артур Мас парыруе: «Ад гэтага сем з паловаю мільёнаў каталонцаў не перастануць быць еўрапейцамі!»

**11 верасня 2013 года.**

## Гэтае салодкае слова – свабода!

Прынеслі мне з крамы «Белсаюздруку» паўтузіна паштовак са сталічнымі краявідамі. Панаклейваў маркі ці, як кажуць паштавікі сваім груваcткім канцылярытам, знакі паштовай аплаты.

Адну з іх, з відарысам пляца Волі, сфатаграфаваным Сяргеем Плыткевічам з вышыні птушынага палёту, закарцела падпісаць і адправіць Алесю Бяляцкаму да дня нараджэння наўздагон той, што нырцанула ў сінюю скрынку заўчора. У Велікодны сонечны кадр спрактыкаванага майстра патрапілі і менская ратуша, і галоўныя беларускія хрысціянскія храмы, і касцёл святога Язэпа, і кансерваторыя, і гатэль «Еўропа», і грузінская амбасада пад бела-чырвоным сцягам з пяцццю крыжамі...

Падумалася, што, мабыць, у папраўчай калоніі №2 у Бабруйску цэнзару, які ўдзельнічае ў нібыта выпраўленні і выхаванні пісьменніка, праваабаронцы, намінанта Нобелеўскай прэміі міру, таксама спадабаецца гэтая прыгожая еўрапейская плошча. Ці, можа, ненавісныя перлюстратару нават самі словы «свабода» і «птушыны палёт»?! І хто ён сам – інтэлігент ці вайсковец, гадаванец Львоўскай вышэйшай вайскова-палітычнай вучэльні ці выпускнік аддзялення рускай філалогіі педуніверсітэта? І ці салодкае гэтае слова на смак яму? Ці, можа, горшае за чорную рэдзьку? А можа, заядае ён кожнае дзяжурства заварнымі піроднымі ці бланманжэ? Або наадварот, запівае «хрушчовікам» пярцоўкі?

Спрактыкаваная ў ліставанні Тамара М. раіла пісаць у месцы зняволення простыя словы пра самыя простыя рэчы, бо калі толькі хаця б што-небудзь насцярожыць цэнзара, дык паштоўка неадменна паляціць у сметніцу.

Апошнім часам, як Алесь быў на волі, дык нярэдка сустракаўся з ім на плошчы Перамогі, бо непадалёк ад яе ён жыў, а я працаваў. Ці наадварот, перакрыжоўваліся пры «Акадэмкнізе», бо ягоны офіс мясціўся ў двары, дзе жыву я.

На адной з ранейшых паштовак з выявою плошчы Перамогі развітваўся словамі «Да сустрэчы на плошчы Перамогі!», а таму сумняваюся, што патрапіла яна да бабруйскага нявольніка, бо не атрымаў на яе адказу.

Яшчэ больш балюча было пісаць яму ў калонію №8 (нібыта ў маім родным горадзе з дзясятак тых калоній!), бо зусім не гасцінна прымаў яго Жодзіна.

Чамусьці згадаўся даўні палітычны дэтэктыў – кінафільм Вітаўтаса Жалакявічуса «Гэтае салодкае слова – свабода!». Вязні ў ім патрапілі на свабоду, а таму верыцца, што хутка мінецца патрэба ліставацца, што зноў увачавідкі будзем бачыцца на пляцы Волі, на плошчы Перамогі, на іншых вольных пляцах, бульварах, вуліцах і праспектах!

**23 верасня 2013 года.**

## Цмокі поруч з намі

Лепельшчыну здавён любім і вяльбуем усёй сям'ёю.

Амаль васямнаццаць гадоў сябруем з сям'ёю фізікаў Сяргея і Тамары Мацкевічаў, а Томіна мама Вера Ільінічна жыла ў азёрным краі ў вёсцы Чарэйшчына. Праз тое не раз выязджалі туды ў грыбы, а дачка Хрысціна нават заставалася ўлетку на некалькі тыдняў з сяброўкай-аднакласніцай Верачкай на вакацыях у бабы Веры. Адтуль, ад коткі Машкі, прывезла яна і папаўненне ў нашу сям'ю – трохтыднёвае кацянятка, якое назвалі Тайгаю.

Часта праязджаў праз Лепельшчыну ў сваіх вандроўках на Браслаўшчыну, на канферэнцыі, імпрэзы і выставы ў Полацак, у адведзіны да дзядзькі Рыгора ў Вушачу, на літаратурна-мастацкія пленэры на радзіму Васіля Быкава ў Бычкі. Колькі разоў удалося выбірацца з сябрамі і на рыбу на тамтэйшае возера Нéгразa, якое нагадвала і сугучнай назваю возера Нéшчарда з ягонымі дзівоснымі паданнямі і помнікам Яну Баршчэўскаму.

Прыемна было дазнацца, што ў Лепелі ўсталявалі помнік канцлеру Вялікага княства Літоўскага Льву Сапегу. Аказалася, што канцлераў цёзка скульптар Леў Аганаў вырабіў і выяву Цмока Лепельскага паводле апісання Уладзіміра Караткевіча ў рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

Кампанія «Будзьма беларусамі!» намагаецца вярнуць Цмока з народнай памяці, давесці, што і ён, як легендарная Нэсі шатландцаў, робіць беларусаў адметнымі і ўнікальнымі. Больш за тое, запрашае яна карыстальнікаў «цмачынага» сайта выпраўляцца ў падарожжы, каб шукаць свайго Цмока. Як вядома, на Старажытным Усходзе Цмок быў добрым баством, а вось у хрысціянскай традыцыі стаўся нячысцікавым сімвалам. У некаторых беларускіх казках зло, з якім барукаліся асілкі, увасабляў Цуда-Юда – вырадак у цмачынай радзіне, у пэўных паданнях цмок аказваўся пярэваратнем, але найчасцей беларускі Цмок – лагодны і добразычлівы. Нездарма азначэнне дракона ў нашай мове супадае не толькі з гукапераймальным «цмок», адрывістым гукам, які атрымліваецца, калі рэзка раскрыць сціснутыя вусны. Зацеміў я і тое, што ў размоўнай мове «цмок» азначае і пацалунак! Гэта вельмі сур'ёзна, гэта не які-небудзь там англамоўны кашэчы «kiss»!

Пагаджаюся я і з тым, што быць за Цмока – зусім не значыць адрыньваць бусла ці зубра, як традыцыйныя сімвалы Беларусі.

У складзе экспедыцыі шукальнікаў беларускага Цмока пад парасонам кампаніі «Будзьма беларусамі!» журналіст і блогер Глеб Лабадзенка аб'ехаў ці не ўсю краіну ад Браслава да Турава. Як кажуць, здымаю капялюш на знак павагі і падзякі за ягоныя рэпартажы. Вось толькі са сцверджаннем, што сёлета ў Лепелі паставілі першы і адзіны ў Беларусі помнік Цмоку, пагадзіцца аніяк не магу. Ага, знайшоў люльку ў зубах!

А калі падгаворваў я Тамару Мацкевіч, якая, дарэчы, Дракон з года нараджэння паводле ўсходняга календара, паехаць са мною, дык зусім не шукаць, а толькі адведаць Цмока, які чвэрць стагоддзя някепска пачуваецца ў двары нашых колішніх дамоў у сталічным мікраёне Уручча-1...

Каб ізноў пабачыць Цмока Уручанскага, трэба было і праўда выехаць за кальцавую аўтадарогу. Крыху хваляваўся, бо даўно не бачыў яго, — ці ацалеў, ці стаіць на сваім месцы?! Падумваў, што лацініцаю трэба было б пісаць пра яго праз вялікую літару О, бо ў слове cmOk утрымлівалася б і пазітыўнае спалучэнне Ok! (all correct – усё хораша!), якое мацуе надзею.

Уздыхнуў з палёгкаю, калі нарэшце згледзеў знаёмы сілуэт сярод сасёнак на натуральным пагорку перад дзіцячай пляцоўкаю ў двары дома №32, што па вуліцы Русіянава. (Часам навят і не падазраем, што мы маем! Зусім не выключаю, што стаяць гэткія сімпатычныя Цмокі і ў іншых беларускіх мясцінах!)

Прывітаўся з трохгаловым бамбізаю, пацёр «на шчасце» шурпатую і крыху замшэлую «скуру», абыйшоў з усіх бакоў з фотаапаратам. Цікавых і выйгрышных ракурсаў было багата, але трэба было і адысціся як след, каб дабрадушная істота цалкам патрапіла ў кадр, бо адно толькі ўвышкі яна адвочна сягае пад чатыры метры. А каб тое давесці, даваўся і самому папазіраваць пры ім, стаць замест маштабнай лінейкі!

На сваім спрадвечным пагорку Цмок Уручанскі атабарыўся напрыканцы васьмідзясятых гадоў, і не адно пакаленне мінчукоў-малалетак коўзалася на ягонай спіне, гадавалася пад лагоднымі і дабрахотлівымі позіркамі. Не аднаму пакаленню быў ён за старэйшага сябра і дабразычлівага выхавацеля, а калі ўзяць пад увагу час ягонага з'яўлення, дык можна залічваць яго і ў змагары-адраджэнцы. Ад пачатку быў ён не самотны, але адзіны здолеў выстаяць у тамтэйшай міфічна-казачнай сябрыне. Двух масянжовых буслоў даволі хутка спілавалі пад корань вандалы. Выстаяла, а дакладней, выседзела Царэўна-жабоцька – яшчэ адна прэтэндэнтка на агульнанацыянальны брэнд, – аднак не здолела захаваць, зберагчы свае пярэднія лапы. Не пашкадавалі вылюдкі і Жар-Птушку – адпілавалі ёй лапкі разам з рамкаю, што намякала на залатую клетку!

Уручанскі парк скульптур – гэта найхутчэй вынік мастакоўскага пленэра ці конкурса студэнцкіх дыпломных работ. Але містыку тут адрынуць аніяк не выпадае, бо ні аўтараў ідэі, ні скульптараў-выканаўцаў знайсці аніяк не ўдаецца. Не могуць даць рады ні Міністэрства культуры, ні аддзел будаўніцтва і добраўпарадкавання Мінгарвыканкама, ні аддзел культуры Першамайскага райвыканкама (які казачным чынам перакінуўся ў аддзел ідэалогіі), ні жыллёва-эксплуатацыйны ўчастак №96, на чыёй тэрыторыі на ўскрайку хваёвага лесу безпрапісачна пасяліўся Цмок, ахутаны таямніцамі. Ці не ад Нямігі або Свіслачы прыпупаў ён у зацішны лясок?

Як толькі ні называюць значак у электронных адрэсах – хто малпачкаю, хто сабачкам, хто слімачком, а хто і казяўкам! А вось мой даўні прыяцель, графік Рыгор Сітніца надыктоўваў быў каардынаты Саюза мастакоў і ўжыў у гэтым значэнні слова «цмочак» – маленькі цмок! Але і ў кіраванай ім пашанотнай творчай суполцы анічога не ведаюць пра цмокатворцаў. Але гэта і лагічна – Цмок мусіць заставацца міфічным і легендарным.

...Добра было б, каб ужо сёння пралёг турыстычны маршрут паўз уручанскія цікавосткі!

**13 лістапада 2013 года**

# «Шчасьця Вам, дарагія,

## Калядныя вершы Ларысы Геніюш

**Вітаўт Тумаш, рэдактар пражскага зборніка Ларысы Геніюш, доўгі час у Амерыцы быў захоплены ідэяй апублікаваць вершы паэткі. Што зашкодзіла? Не адсутнасць матэрыялаў і не фінансавыя цяжкасці (дырэктар БІНіМа ўмеў знайсці неабходныя грошы). Хутчэй за ўсё, працу над укладаннем кнігі спыніла думка, што заакіянскае выданне зможа толькі ўскладніць падсавецкае жыццё паэткі.**

**Ад неажыццёўленага праекту засталася нізка лістоў Ніны Абрамчык (архіў БІНіМ) — галоўнай паплечніцы Вітаўта Тумаша ў гэтай справе, ды некалькі вершаў Ларысы Геніюш, дасланых у розны час з лістамі ў сям'ю Тумашаў (дзе, разам з усёй карэспандэнцыяй паэткі і захоўваюцца сёння). Гэтыя лісты ды вершы і прапануюцца ўвазе чытачоў.**



Ніна Абрамчык



Ларыса Геніюш




5.11.53.
Дарагі Вітаўт,
«Раніцу» маю, пачынаючы з 35 нумару. Вершы ёсьць — больш за 40. Зраблю так, як было сказана ў лісьце, але: 1. якім шрыфтам перапісваць? кірыліцай ці лацінкай? (маю абедзьве машынкі); 2. справа ь (мяккага знаку): ці як там друкавалася, ці як цяпер «Бацькаўшчына» піша (напр., бязь, празь, зь — дзе трэба, зразумела). Гэтае апошняе, безумоўна, правілдова (хоць «Божым Шляхам» — не прызнае). 3. Можа, трэба фота Ларысы Г[еніюш]? Тое «вясёлае» маю, што «спознілася» ў першы зборнік.

Чакаю на хуткі адказ, а пакуль усяго найлепшага і прывітаньні Сямейцы.
Ніна.

19.11.53.
Дарагі Вітаўт,
высылаю І-ы экзэмпляр вершаў Л. Г. [Ларысы Геніюш. — Рэд.] з «Раніцы» і «Беларускага Работніка», якія не ўвайшлі ў зборнік «Ад Родных Ніў».

Лісту з «паясьненьнямі» не дачакалася, а паколькі мела час, дык перапісала. Калі штосьь невыразна — пішы, спраўджу з арыгіналам. Зазнач толькі старонку, загаловак верша і мейсца (верша ня трэба пасылаць, бо 1 экз. пакідаю сабе). ІІ-гі экз. вышлю на днях, каб ня разам (каб не загінулі).

Затым усяго найлепшага і прывітаньні.
Ніна.
П. С. Ці выслаць фота Л. Г.?

21.11.53.
Дарагі Вітаўт,
толькі што атрымала Твой ліст з «паясьненьнямі», але паколькі ўжо перапісала раней і І экз. ужо выслала 18.11.53, дык так ужо і будзе. Мяккі знак дастаўляла (мо дзе толькі забылася). 1. Сягоньня высылаю 2-гі экз. «Ад родных ніў» маю 1 экз., але калі ў Вас там ні ў кога ня знойдзецца — прышлю, пазычу (але толькі пазычу). 2. Фота высылаю, але тако-ж толькі пазычаю, па выкарыстаньні, ці калі непатрэбна — зьвярнуць.

Затым усяго найлепшага. Прывітаньні ўсім.
Ніна.

25.11.53.
Дарагі Вітаўт,
вось што значыць пачаць з жанчынай перапісвацца, дык супакою ня будзе, закідае лістамі. Але мне на лісты адпішаш, як будзеш мець час і спакой — гэта нясьпешна. 1. Маю спадзею, што вершы (2 экз.) і фота Л. Г. [Ларысы Геніюш. — Рэд.] — атрымаў. 2. У Міколкі [Абрамчыка. — Рэд.] ёсьць у архіве вельмі прыгожае фота Л. Г. Хай мне ён напіша, дзе яго знайсьці — прышлю. 3. Ці ёсьць там у Вас «Ад родных ніў» — ці прыслаць, пазычыць? 4. Маю перапісану на машынцы «Нарач» Максіма Танка, 2 экз., мо прыслаць? (трэці экз. хтось «пазычыў»).

Усё!

Усяго найлепшага й прывітаньні Сямейцы!
Ніна.

5.12.53.
Дарагі Вітаўт,
пакет зь лістамі і вершамі атрымала — дзякую.

Сяньня Табе высылаю: 1. «Ад родных ніў» — на ўласнасьць, а не на пазыку, але глядзі, беражы, не згубі, бо больш не дастанеш. 2. Ліст з а) датамі вершаў Л. Г. [Ларысы Геніюш. — Рэд.] у «Раніцы»; б) аўтабіяграфію Л. Г.; в) верш, які апусьціла раней. 3. Мікракопіі каштуюць каля 30 фр[анкаў] за старонку. У расейскіх прыватных фірмах на 4 фр[анкі] таньней, але — могуць згубіць кнігу. Ужо так было. Тады лепей адбіць у салідных бібліятэках. Мо ў Вас таньней, лепей мо пераслаць (пазычыць), бо ці я спраўлюся з гэтымі рэчамі. Маю толькі «На этапах» і «Журавінавы цьвет» [зборнікі Максіма Танка. — Рэд.]. 4. «Нарач» [паэма Максіма Танка. — Рэд.] машынапіс — прышлю, чакаю, бо пазычала людзям «перапісаць». 5. Фота Л. Г., што я прыслала — зрабіць копію, а тое выслаць мне назад, баюся, каб не згубілася. 6. Пра Каліноўскага «Мужыцкую Праўду» рапарт — не магу знайсьці гэтай кніжкі, бо бібліятэку нашу парадквалі студэнты, дык ня толькі чорт, але й жанчына толку ня дойдзе.

Жыве Беларусь!
Прывітаньні!
Ніна.

21.12.53
Дарагі Вітаўт,
атрымала ліст з падзякай за цэнны падарунак (кніга Л. Г. [Ларысы Геніюш. — Рэд.]) і сьвяточнымі прывітаньнямі. Наўзаем жадаю Вясёлых Каляд і Шчасьлівага Новага Году!

Ад Міколкі [Абрамчыка. — Рэд.] тако-ж атрымала сягоньня ліст, н'ат з «сьвяточнымі пажаданьнямі» — гэта дык рэдкасьць!!!! Ясна — «ня меў часу» пісаць.

Кнігі Танка перашлю, калі напішаш, трэба будуць, каб зрабіць мікрафільм.

Пра Купалу ў бібліятэках пашукаю.

Аб Каліноўскім дагэтуль нічога не знайшла ў нашай «бібліятэцы».

Прывітаньні ўсёй сямейцы.
Ніна.

П. С. Калі спаткаеш дзе-колечы якісь беларускі ўзорык, выстрыжы яго ножнічкамі і перашлі мне, я зьбіраю калекцыю, раблю альбом, маю ўжо больш за сто. Н.

[Ліст недатаваны]
А чый гэта верш? Мо' Ларысе [Геніюш. — Рэд.] у зборнік бракуе?

*Ткала, ткала дзяўчына паясы,*
*Узор брала з жытнае паласы,*
*Белацьвет і гібкія каласы,*
*Рамонкі і сінія васількі*
*Усьміхаліся дзяўчыне з-пад рукі.*
*Пра малінаў пах і сок брусьніц,*
*Пра захады сонца, усход зарніц,*
*Пра стан гібкі жнеяў-маладзіц*
*Думала дзяўчына, паясы ткучы,*
*Пра месяц і зоры думала ўначы.*
*Сьніла дзяўчына пра мілага сны.*
*Сьніла дзяўчына бярозы вясны.*
*Сьніла дзяўчына шум-гоман лясны.*
*Жнеяў сьніла галасы —*
*Гэта ўсё ўткала ў паясы.*

Парыж, 16.1.54.
Дарагі Вітаўт,
пакуль што пра Купалы кнігу нічога не даведалася, былі сьвяты, загультаілася, ды мо' шчэ напалохалася, што Ты амаль мяне за «секлятарку на Эўропу» ангажуеш.

Затым — набралася сьмеласьці, ваяўнічасьці і — выразала сьляпую кішку. Вось ужо 4-ы дзень. Усё-ж часамі людзі кажуць праўду, а я прывыкла ня верыць, і думала, што гэта нешта-нейкае. А вось ніякага болю, трошкі першыя дні перамучыла тэмпэратура нармальна — ужо 3 дні хаджу.

Пішу аб гэтым і Міколку, але вытлумач яму «фахова» — па-лекарску, што гэта драбніца, каб ён не пераймаўся, бо мае і так шмат клопату. Не было сэнсу далей трымаць яе, бо запраўды яна мне дакучала.

Затым прывітаньні Твяим усім пацехам і знаёмым. Тут буду яшчэ некалькі дзён.
Ніна.

4.2.54
Дарагі Вітаўт,
вельмі дзякую за прывітаньні і пажаданьні здароўя. У мяне ўсё добра. Фактычна ўжо здарова, але па старой звычцы не адходжу ад хаты, ды яшчэ й таму, што тут «зіма». У Эўропе «мароз» (у Гішпаніі — 31⁰С, у Парыжы — 18⁰С, у нас на вёсцы —20⁰С, у Даніі — 11⁰С, у Штокгольме —2⁰С), як бачыш, шыварат-на выварат. Тут сьмяюцца, што сьвяты Ільля слухае загадаў Малянкова «рабіць усё навыварат, як дагэтуль было».

Што да справаў, каб Табе заладзіць, як бачыш, усё замарозіла. Гэтак і з гэтай апошняй просьбай. Наша «бібліятэка» ў Парыжы, а ня тут, а я туды цяпер ня еду, ды такой кніжкі я й ня бачыла ў нас. Ёсьць толькі «Адбітае жыццё» — Луцкевіча (Навіны А.).

Падтрымоўвай як-колечы Міколку на духу. Цяпер няма чаго пераймацца, небясьпечна было тады, калі апэндыцыт у баку калоўся.

Прывітаньні ўсім, усім і ўсяго найлепшага.
Вашая Ніна.

14.6.60
Дарагі Вітаўт,
як маешся, што чуваць?

Даўно, даўно ўжо я выслала Табе фота Ларысы Геніюш, калісь, як выслала яе вершы. Гэтае фота з архіўнага альбому. Маю надзею, што Ты яго маеш, і таму вельмі прашу, так, як Ты калісь прасіў, прышлі мне яго назад, і то як магчыма хутчэй, назад у гэты архіўны альбом. (Фота, дзе Ларыса сьмяецца, на адвароце напісала яна сама нам).

Што-ж чуваць у Цябе і сярод нашых там за морам? Ці помняць шчэ Эўропу і ці тужаць за ёй, галоўна маладыя?

Тут у мяне глухая цішыня, як у глыбі Палесься, шумяць толькі бярозы ды стрыкочуць конікі ў траве. Калі Ты чуў апошні раз шум бярозаў?

А там, яшчэ далей, за Прыпяцьцю, за Сожам, Танк начапіў на нос акуляры, надзеў цёплыя калошы і пачаў пісаць яшчэ горш, як раней. Нават сам, бедны, аб гэтым прызнаецца.

# далёкія»

Маю весткі ад Бацькоў — жывуць… Якое жыццё! У Міколкі якраз апошні ад іх ліст. Часьценька заглядае да іх Піліп, каб пачытаць мае лісты. Нам усім перасылае свой далёкі гарачы прывет! Ён аграномам у Кобрыні. Шурка Засім — там недалёка лекарам. Люсьцібэр, Жодзік — загінулі. Нічога не ўспамінаюць пра Яромку. Жэня Волас — дырэктарша сіраціндца ў Берасьці. Валя Засім — там настаўніцай (у Берасьці). Пра Стаўбунікаў не ўспамінаюць. Кліма Валодзю — немцы замардавалі (расстралялі) у Баранавічах. Ці спатыкаецца з Вамі ўсімі Дарафейчук Сашка — ён каля Нью Ёрку?

Калі маеш час і настрой — напішы мне пару слоў. Я зьбіраюся Ксені [жонка В. Тумаша. — Рэд.] напісаць даўжэзны ліст, але ў мяне так туга ідзе пісаньне. Як-жа твае дочкі, «брацік» — ужо мусіць ростам Цябе даганяюць? Мой Алік маленькі.

Прывітаньні знаёмым, пішы, усяго найлепшага. Жыве Беларусь.

Ніна.

***

*Каляда, ноч плыве ў задуменьні,*
*Ў небе зорка ўрачыста гарыць.*
*На стале сьнежна-белым, на сене*
*Куцьця зь мёдам і з макам стаіць.*
*Калядуе вятрыска па сёлах,*
*Расплываецца ў небе дымок,*
*Ў гэты вечар харошы да болю*
*Дамоў людзі сьпяшаюць здалёк.*
*Для усіх адчыняюцца дзьверы,*
*Хопіць месца за шчодрым сталом,*
*Сяньня ў хатах Сьвятая Вячэра,*
*Ноч Сьвятая плыве за вакном.*
*Шлем Вам сёньня, Браты у чужыне,*
*Пачуцьці, што ад сонца цяплей,*
*Пажаданьні, тугу, успаміны*
*І любоў, і сьлязіну з вачэй.*
*Шлем Вам пасма надзеяў-вясёлкаў*
*У Калядны густы сьнегапад,*
*Каб сустрэцца на радасным золку*
*Ля прыветлівых бацькаўскіх хат!*
*Не забыліся мы, не забудзем*
*Тых, што доля забрала ад нас,*
*Мацярынскай тугі не астудзіць*
*Ні далёкая ростань, ні час.*
*А пакуль пажадаем ня многа*
*Ўсім, хто ў роскашы з Вас ці ў бядзе,*
*Не забудзьце да сёлаў дарогі,*
*Не зрачэцеся Маці нідзе!*

**10.XII.73 г.**

***

*Сьнег кладзецца на сьцежкі, на пожні,*
*Сьнежань шэранем дрэвы пакрыў,*
*Неапаўшае лісьце апошняе*
*На галінах мароз захапіў.*
*Каляда будзе сёлета белая*
*Пад марозны пад ботамі хруст.*
*Страпянецца душой набалелаю*
*Ў гэты вечар мая Беларусь!*
*І адкінуўшы справы штодзённыя,*
*Засумуе сардэчна па тых,*
*Хто здалёк гэтай ноччу сьцюдзёнаю*
*Рвецца сэрцам да сёлаў сваіх.*
*Дачакацца-б хвіліны прыветлівай,*
*Ўбачыць радасьць у братніх вачах.*
*Хаты родныя вокнамі сьветлымі*
*Пaглядаюць ў задуме на шлях.*
*А пакуль прывітаньні Вам, братнія,*
*Пажаданьні здароўя для Вас,*
*З сэрцаў, з дум, зь цеплыні нашай хатняе*
*Шлем Вам ў гэты засьнежаны час!*
*Каляда, Каляда над зямелькаю,*
*Сыпле сьнег на дарогі зіма,*
*На стале сяньня ўсякага-ўселькага,*
*Толькі госьцейкаў родных няма.*
*Шчасьця Вам, дарагія, далёкія,*
*З намі Вы ў кожны радасны час,*
*Няхай мачыха-доля нялёгкая*
*Будзе радаснай, лёгкай для Вас!*
*Хай ў здароўі Вам добра жывецца,*
*Вы ёсьць косьць наша, нашая кроў.*
*Няхай грэе Вам шчырыя сэрцы*
*Беларуская наша любоў.*

*З Новым Годам! У казачны вечар*
*Сэрца-чаркі за Вас мы ўзьнялі.*
*Да сустрэчы, Браты, да сустрэчы*
*Ў добры час на радзімай Зямлі!*

**10.XII.1973 г.**

***

*Каляда ўрачыста крочыць сьвята,*
*Наўпрасткі празь белы сьнег і лёд.*
*Калядуе вецер каля хатаў,*
*Запыняецца каля варот.*
*Нарадзіўся Бог Спрадвечны ў ясьлях,*
*Сьвеціць зорка, зіхаціцьназьдзіў,*
*Яна болей у небе не пагасьне,*
*Каб ніхто з дарогі не зьмыліў.*
*Над убогім хлевушком ірдзіцца,*
*Ворагам яе не пагасіць,*
*Йдуць Цары Дзіцятку пакланіцца,*
*Што ў быдлячых ясельках ляжыць.*
*І ня знаючы людзкое мовы,*
*Толькі веліч здольныя адчуць,*
*Паглядаюць з ласкаю каровы,*
*І ягняткі радасна бляюць.*
*Пахіліла галаву Марыя,*
*Пастушкі спыніліся ў дзьвярох,*
*Пяюць ў небе ангелы сьвятыя.*
*Нарадзіўся ў ціхіх ясьлях Бог!*
*Сьпіць Дзіця ля Непарочнай Маці.*
*Божы Сын, пачатак новых дзён.*
*Пастушкі стаяць каля Дзіцяці.*
*Мудрацы яго вартуюць сон.*
*Сьвет няземскі ля галоўкі зьзяе,*
*Рука Маці ля маленькіх ног.*
*Урачыста ноч плыве сьвятая.*
*Нарадзіўся ў Бэтлееме Бог!*

**11.XII.1973 г.**

***

*Каляда, сее вецер сьнягі па загонах,*
*У сумёты згартае бясконцую бель,*
*Каляда-Сьвяты Вечар па хатах сягодня,*
*Калядуе пад вокнамі сумна мяцель.*
*Але сьцішыцца, стоміцца недзе пад горкай,*
*Ці прыпадзе ў зьнямозе да белай зямлі,*
*Каб на небе жаданую, першую зорку*
*Нашы людзі ўрачыста пабачыць змаглі.*
*Можа хто заблудзіўся ў жыцьці, як у лесе,*
*Шлях да праўды загублены цяжка знайсьці,*
*Дык асьвеціць прасторы зара*
*з паднябесься*
*І пакажа дарогу, якою ісьці.*
*Каляда — сяньня ў хатах сыноў*
*ўспамінаюць,*
*І здалёк на Куцьцю іх чакаюць дамоў.*
*Ў нас-жа ўсюды па сьвеце радня дарагая,*
*І ў сэрцах, як раны, туга і любоў.*
*Дык са Сьвятам, Браты,*
*каб шчасьліва жылося,*
*Былі добрыя людзі братамі для Вас,*
*З Новым Годам, Браты,*
*каб усё Вам збылося,*
*Чаго зьдзейсьніць ня здолеў суровы*
*наш час.*
*Цэняць людзкасьць заўсёды*
*дастойныя людзі,*
*Дабрыню і сумленьня, адвагу, ня страх,*
*Дык былі мы заўсёды, мы ёсьць*
*і мы будзем,*
*Сяньня нашая доля ў нашых руках!*
*З Новым Годам, Браты,*
*няхай розум заўсёды,*
*Чалавечнасьць у Вашым жыцьці, як маяк,*
*Хай адвага у сэрцах ды сіла ў нягодах,*
*Хай калядная зорка Вам сьвеціць на шлях!*
*Калі ўціхацца, зьмірацца людзі нарэшце,*
*І дабро пераможа у сьвеце над злом,*
*Кожны знойдзе сваё ў нас, пачэснае месца*
*За сямейным, за нашым народным*
*сталом.*
*У жыцьці ўсё бывае, складаецца розна,*
*І спаўняюцца часам матуліны сны,*
*Прыляцяць што, зьбяруцца,*
*як птушкі да гнёздаў,*
*Да зямелькі, да роднае маці сыны!*
*Людзям нашай зямлі сьнег і сьцюжа*
*ня шкодзяць,*
*Ў нас насуперак сьцюжаў у сэрцах агні,*
*Ад халодных вятроў не ўцякаем*
*на поўдзень,*



*А вартуем парог свой у нялёгкія дні.*
*Кружыць сьнег густым роям*
*над нашымі хатамі,*
*У белым кужалі дрэвы стаяць і кусты.*
*З Новым Годам, з Каляднымі*
*нашымі Сьвятамі,*
*Дарагія Суродзічы: Сёстры, Браты!*
*Пажаданьняў у сэрцы сабралася многа,*
*Іх ня выказаць сяньня Вам, не пераслаць.*
*Заставайцеся, Брацьця, Шчасьліва і з Богам!*
*Жыць Вам доўга й ніякага гора ня знаць!*

**5.XII.1976 г.**

***

*Ідзе ў белым зіма, Каляда на парозе,*
*Сее вецер па грудзе замерзлай сьнягі,*
*Чырванеюць абліччы дзяўчат на марозе,*
*І шчыльней зашпіляюць дзядзькі кажухі.*
*Сяньня неба бяз хмар, чысьціня ледзяная,*
*Кроны дрэваў бязьлістых, як тканы узор.*
*Вецер гольлі, бы ніці, усё пераплятае,*
*І па сіні нябёсаў снуе ў перабор.*
*Цёткі посьцяць яшчэ, дзеці ў хаце*
*шчабечуць,*
*Праз падаркі, ялінку ды цацкі пад ёй.*
*А здалёк ўжо Сьвяты набліжаецца Вечар,*
*Калі зноў прагучыць Каляда над зямлёй.*
*Ужо зорка ўзышла, ды вятры калядуюць,*
*Ўсе чакаюць, што нехта надыдзе здалёк,*
*І у бацькавай хаце Вячэру Сьвятую,*
*Як калісьці, супольна разьдзеліць Сынок.*
*Гэтак ў нас ўжо вякі род зьбіраецца ў хату,*
*Ў гэты Вечар Сьвяты ўсе да Маці ідуць,*
*Ўспамінаюць праз тых, хто ня з намі*
*на сьвята,*
*І старыя калядкі запоўнач пяюць.*
*Ўсіх Вас шчыра вітаем са Сьвятам*
*Калядным,*
*Недзе й Вы за сталом, і на сене Куцьця,*
*Мы жадаем Вам шчасьця, ад лёсу спагады*
*І павагі людзкой на дарогах жыцьця!*
*З Новым Годам вітаем, хто з нашага роду,*
*З Новым Годам ўсіх добрых людзей.*
*Няхай будзе шчасьлівы, бязхмарны, пагодны*
*Гэты год, што насустрач нам сяньня ідзе!*

**17.XII.78 г.**

***

*Па Беларусі сьнег трусіць, трусіць —*
*Памол пшанічны на каравай,*
*Палі пакрыла льняным абрусам,*
*Ў сьвяточнай белі наш родны край.*
*Белаю сьнежань йдзе пуцявінай,*
*Белую пражу вятры прадуць.*
*Ў белых сьвітках стаяць яліны,*
*Белыя стрэхі, бель у саду.*
*Гэтак ўрачыста, бела-сьвяточна,*
*Чаруе сэрца спакой краса.*
*Новаму Году хтосьць відавочна*
*Пасьцілкі нашы ля ног разаслаў.*
*Чакаем госьця паважна, моўчкі,*
*Яшчэ ня ўсе з нас каля стала.*
*Зазвоняць чаркі сьвяточнай ноччу –*
*Сьлёзы зазвоняць па дарагіх.*
*Кажуць, багата, добра на сьвеце.*
*Усё-ж роднай Маці гэта няўцям.*
*Яна хацела-б бачыць ля сэрца*
*Кожная сяньня сваё дзіця.*
*На Беларусі сьнег трусіць, трусіць,*
*Сьняжынкі пухам да ног ляцяць.*
*Браця далёкія — шэрыя гусі,*
*Зноў ў нашых хатах бяз Вас Куцьця.*
*Мак і грыбы, сена пах пад абрусам,*
*Пахне ялінка, рамонак, чабор.*
*Ўспомнім усіх, хто дамоў не вярнуўся,*
*Вынясем й продкам вячэру на двор.*
*Шчодра сягоньня падкінем у жолаб,*
*Клікнем суседа, калі без сям'і.*
*Вечар Сьвяты для людзей, для жывёлы.*
*Божая міласьць для ўсіх на зямлі.*
*Са сьвятам, Браты, Вас, яшчэ*
*з адным годам.*
*Хай вера у сэрцах і сіла ў грудзёх.*
*Любоў паміж намі, сяброўства і згода.*
*Хай ступіць надзея на родны парог.*
*Стаўляйце вячэру на сена, сястронкі,*
*Хай з макам і з мёдам усюды Куцьця.*
*Хай словы вітаньня з радзімай старонкі*
*Ад матчыных сэрцаў да Вас даляцяць!*

**[197?]**

**Падрыхтоўка да друку**
**Лявона Юрэвіча.**

# Экскурсія па гомельскім «Палацы»

Сяржук СЫС

**Выйшаў першы нумар літаратурнага альманаха Гомельскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў «Палац».**

На яго старонках — проза, паэзія, творчая спадчына, гістарычныя і літаратуразнаўчыя матэрыялы, прысвечаныя мінуламу і сучаснасці Гомельскага краю.

Па праўдзе, на Гомельшчыне гэта не першая спроба сабраць пад адной вокладкай разнастайныя па жанрах і мастацкіх вартасцях творы мясцовых аўтараў, ды, так бы мовіць, зверыць тамтэйшы літаратурны пульс. Аглядаючы мінулае, назаву некалькіх папярэднікаў «Палаца»: гэта, найперш, выхад у свет у 1934-м, а затым, пасля доўгага перапынку, у 1958 годзе альманаха «Літаратурны Гомель». У 90-х выйшлі тры нумары альманаха «Магістраль», выдання няроўнага як у мастацкіх, так і паліграфічных адносінах. Нечаканым і цікавым стала з'яўленне паэтычнага альманаха «Святло шчымлівай памяці», які выйшаў у 2006 годзе накладам 700 асобнікаў. У зборніку былі прадстаўленыя каля 80 імёнаў як досыць вядомых сярод аматараў паэтычнага слова, так і пачаткоўцаў. Да выдання самых разнастайных літаратурных анталогій і альманахаў спрычыніўся вялікі руплівец літаратуразнаўства, прафесар ГДУ імя Ф. Скарыны Іван Штэйнер. Прыгадаю толькі некалькі грунтоўных зборнікаў, якія выйшлі дзякуючы ягоным намаганням: анталогіі лірыкі выпускнікоў ГДУ «Крыніцы», «Універсітэт літаратурны», «Рэчыца літаратурная, «Дняпроўскія матывы».

Тое, што новы альманах узнік не на творчай няўдобіцы, а на трывалым падмурку, узведзеным папярэднікамі, дазволіла ўкладальнікам смела шыбаваць далей, пазбягаючы ранейшых недахопаў.

Аднак пачнем абяцаную экскурсію: разам зойдзем у «Палац», нетаропка агледзім светлую залю «Паэзіі», ганаровую галерэю «Прозы» ды па лесвіцы «Літаратуразнаўства» падымемся на гаўбец «Спадчыны»...

Паэтычны раздзел атрымаўся багаты як на змест, так і на імёны. Тон тут задае Віктар Ярац. Здаецца, няма на яго творчае стомы: з уласцівай яму гукавой чысцінёй радка, навізной метафар, дакладнасцю паэтычнага параўнання ён падыходзіць да філасофскага асэнсавання лірычным героем ягонай Радзімы, дзе:

*...у жніўны дзень,*
*праменнямі спавіты,*
*іду пачуць спрадвечны сказ вякоў:*
*там каласы —*
*праўдзівым шэптам жыта,*
*там шчырасцю — сінеча валількоў.*

Не здае творчых пазіцый і «славянская» — у добрым сэнсе гэтага слова — паэтэса Таіса Мельчанка, якая нястомна шукае свае «вытокі» ў мінулым ды ўдала прасвечвае іх праз прызму сучаснасці. Сярод перлін рубрыкі — творы тонкага знаўцы патаемнага сэнсу слоў Генадзя Лапаціна. А ў веткаўскай паэтэсы Ларысы Раманавай добрая палова вершаў прысвечаная блізкаму ёй па духу Анатолю Сысу. Дарэчы, яшчэ некалькі аўтараў паэтычнага раздзелу «Палаца» прысвяцілі свае творы выбітнаму гарошкаўскаму паэту. Верш Алеся Бардоўскага, напрыклад:

*Час пераблытаў колеры і стылі*
*І сам змяніўся — нават не пазнаць.*
*А сёння дык Сыса у школу*
*не пусцілі,*
*Дзе ён вучыўся думаць і пісаць...*

Паэт са Светлагорску Вадзім Болбас узгадвае яго нават у Празе, дзе, цалкам у беларускай традыцыі, адчуў настальгію па радзіме.

Для Ганны Новік у вершы «Тут» горад над Сожам наўпрост атаясамліваецца з Анатолем Сысом («...Тут Сыс Анатоль атумечыў па парку...»). Вось толькі слова «атумечыў» не дае мне спакою — аніяк не магу дайсці да яго сэнсу.

Застаецца шкадаваць, што для вершаў аднаго з найлепшых паэтаў нашага часу Анатоля Сыса не знайшлося ў альманаху ні лапіка месца, нават у раздзеле «Спадчына». Шчыра спадзяюся, што выдаўцы выправяць такую недарэчнасць у наступным нумары альманаха.

Адметныя сваім гучаннем творы маладзейшых паэтаў, прадстаўленыя ў альманаху: постмадэрністкі Ганны Новік, выхаванкі «Бум-Бам-Літу» Арыі-Ульрыкі Гатальскай, у якой прачнулася другое дыханне, пачаткоўца Аляксея Дужага.

Вылучаюцца непадобным стылем мае даўнія творчыя сябрукі, якія пішуць збольшага на расійскай мове — Сяргей Краснабарод і паэт унікальнага лёсу, пустэльнік Уладзімер Агафонаў, вершы якога мне давялося перастварыць па-беларуску.

Прыемная нечаканка паэтычнага раздзела — творы вядомага барда Андрэя Мельнікава. На маю думку, найбольш натхнёны Мельнікаў у вершах, якія прысвечаныя роднаму гораду — «Дарога на Гомель» і «Гомель».

Цікава зазірнуць і ў галерэю «Прозы». Раздзел адкрывае лоеўскі даўнар Міхась Даніленка. Ягоныя, у традыцыйным рэчышчы, апавяданні — лірычныя споведзі пра знітаванасць аўтара з прыродай роднага краю (цыкл «Дрэвы і людзі»). Грунтоўна прадстаўлены ў альманаху празаік Анатоль Бароўскі. Падступы да рамана «Туман» — пацвярджэнне трываласці творчага крэда аўтара: асабіста перажытае, лёсы землякоў, пошукі жыццёвага шляху.

Яркай бліскавіцай увараўся на старонкі «Палаца» няўрымслівы і крыху загадкавы Сяргей Балахонаў, які даўно выпрацаваў свой адметны і пазнавальны стыль. У альманаху ён публікуе фрагмент рамана «Інфанта і аднарог» (пад назвай «У горадзе лоўчых сноў»). У сучаснае жыццё з волі аўтара ўплятаецца старадаўняя гісторыя і прымушае герояў твора на сабе адчуць ейны подых... аж да мурашак па скуры.

Кранае шчырасцю апавяданне Алеся Брагінца «Надзечка»; па-свойму прыцягальная проза Уладзіміра Лякіна ды Язэпа Крупы.

Раздзел «Спадчына» прадстаўлены годнымі і, на жаль, крыху призабытымі імёнамі, чыя проза і паэзія тым не меней узбагачае творчы набытак Гомельшчыны: празаік Іван Сяркоў, празаік і гумарыст Леанід Гаўрылкін, паэты Іван Кірэйчык і Уладзімір Верамейчык.

Неблагое, аднак супярэчлівае, уражанне пакідае літаратуразнаўчы раздзел. Дацэнт ГДУ імя Скарыны Дзмітрый Паўлавец знаёміць чытача з «Вандроўкай па Палессі з Іванам Мележам»; Ірына Бароўская шукае новае ў беларускай песеннай лірыцы (даследаванне «Слова паэта песняй адгукнецца...»); асэнсоўвае феномен кахання ў творах сучасных беларускіх пісьменніц Таццяна Фітцнер. Аднак ад гэтага раздзела чакалася большага...

Вядома, няўдзячная справа даваць парады, няхай сабе і землякам, але не магу не адзначыць, што незаслужана пакінуты па-за ўвагай укладальнікаў раздзел «Драматургія». Апроч драматургіі, у зборнік варта было б улучыць і літаратурныя пераклады. Увогуле, калі казаць пра жанравую разнастайнасць такіх выданняў, выдаўцам «Палаца» варта было б скарыстацца з досведу берасцейскай «Жырандолі», якая выдаецца пяць гадоў запар, ды змясціць раздзел публіцыстыкі, а таксама штосьці з хронікі літаратурнага жыцця. Вось тады завірye на старонках «Палаца» жывы, рэальна-асязальны складнік літаратурнага працэсу...

Больш грунтоўнае асэнсаванне мастацкіх вартасцяў новага альманаха будзе зроблена чытачамі і крытыкамі. Пакуль жа зазначу відавочнае: гомельскі літаратурны альманах «Палац» выглядае больш цэласным і ўдалым на фоне ранейшых спробаў. З'яўленне яго — падзея значная не толькі для літаратурнай Гомельшчыны, але і для ўсёй «правінцыйнай» літаратуры ўвогуле. Хаця і з яе «правінцыйнасцю» трэба даўно развітацца.

# Ён ратаваўся беларускасцю

Сяргей ЧЫГРЫН

**Цудоўную кнігу трымаю ў руках. Яна прысвечана памяці выдатнага беларускага празаіка, паэта, публіцыста, перакладчыка, фалькларыста, журналіста з Беласточчыны Міколы Гайдука (1931-1998). Таго самага Гайдука, які ведаў увесь беларускі свет Польшчы, якога ведала Беларусь. А кніга гэта мае назву «У беларускасці наш паратунак».**

Кніга ўспамінаў пра Міколу Гайдука пабачыла свет у Беластоку — дзякуючы руплівіцы Лене Глагоўскай, паэту Віктару Шведу і апантанай беларускасцю і нашай роднасцю Валянціне Швед.

Пра Міколу Гайдука і Падляшша напісалі Дарафей Фіёнік, Анджэліка Масальская, Славамір Іванюк ды іншыя аўтары. Яўген Вапа распавёў пра яго як журналіста тыднёвіка «Ніва», а Юрка Хмялеўскі — пра творчую сувязь Міколы




Гайдука з «Czasopisam», Яўген Чыквін — пра супрацоўніцтва яго з асяроддзем «Przegląd Prawosławny»...

Другі раздзел кнігі «У беларускасці наш паратунак» прысвечаны ўласна ўспамінам. Віктар Швед распавядае пра апошні дзень жыцця Міколы: калі ён памёр у лесе з поўным кошыкам грыбоў. А Янка Целушэцкі ўспамінае, як стукнуўся вечарам Мікола на сваім самаходзе ў паліцэйскую машыну (у той час, калі паліцыянты мяняліі ў ёй колы). Васіль Петручук прыгадаў, як з Міколам пасваруўся ў «Ніве». А Міра Лукша прызналася, што «з яго падручнікаў вучыліся мы, якія сталі яго калегамі, хоць крышачку набраўшыся ў яго імпэту і пільнасці». Мікалай Панфілюк успомніў буквар Міколы і Лідзіі Гайдукоў, які «пахне роднай Беласточчынай, мовай, зямелькай, нівамі і праўдай». А Надзя Заруднік успомніла той час, калі яна была ў Беластоку і гасцявала ў доме Гайдукоў, а Мікола ёй падараваў клубок нітак «на свэтар ад сваіх авечак»...

Трэці раздзел — раздзел прысвячэнняў Міколу Гайдуку. Ён, на жаль, самы слабы ў кнізе. Творы даволі кволыя — за выключэннем хіба двух вершаў Віктара Шведа і верша Сяргея Панізніка.

Раздзел «З эпісталярнай спадчыны» пачынаецца лістамі Валянціны Трыгубовіч і Валянціны Пашкевіч. Валянціна Трыгубовіч (ліст ад 30 лістапада 1980 года) распавядае пра юбілейную вечарыну Уладзіміра Караткевіча ў мінскім Доме літаратара. Валянціна Пашкевіч паведамляе з Мінска Міколу пра прыезд напрыканцы 1980-х гадоў у Мінск спевака Данчыка, пра выхад часопіса «Спадчына», пра сварку Міколы Шэляговіча з Іванам Чыгрынавым, пра Чарнобыльскі шлях, калона якога была ад Палаца прафсаюзаў да плошчы Перамогі.

У 1983 годзе з Нямеччыны Юрый Попка (1912–1990) паведамляў пра тое, як збірае экспанаты для свайго Беларускага музея Інстытута беларусаведы ў Ляймане. Ён радаваўся кожнаму беларускаму экспанату. Але ў яго лістах прысутнічаў і адчай: «На вялікі жаль, з беларусаў і беларусак, што жывуць у Нямеччыне, яшчэ ніхто не адведаў ані музею, ані памятніка, хоць я іх запрашаў. Адзін толькі прафесар Барыс Кіт наведвае і дапамагае мне».

24 лістапада 1985 года Мікола Гайдук адказвае Юрыю Попку, дзе з вялікай горыччу паведамляе пра смерць Юркі Геніюша і адначасова выказвае свае думкі-расследаванні наконт яго смерці: «...Некалькімі днямі перад смерцю ён зайшоў у «Ніву» і падчас звычайнай сяброўскай размовы таямніча мне шапнуў: «У мяне былі госці. Узламалі дзверы. Атруцілі сабаку. Пераварушылі ўсё ў хаце, грэбліся ў паперах. Шукалі невядома чаго. На шчасце, я застаў. Яны ўцяклі...». Калі гэта звычайныя госці, то не мусілі доўга капацца, бо ў кватэры Геніюшаў каштоўнасці ўсе на сценах: зборы старажытных іконаў, якім вартасці няма, ды іншыя каштоўныя старажытнасці ўвершэ. Чаму смерць Юркі наступіла ў некалькі дзён пасля гэтага рабунковага нападу?..».

У кнізе апублікаваны і пісьмы Юркі Рапецкага, Міхася Раецкага, Янкі Мойсіка, Надзі Кудасавай, Пётры Кажуры, Мацея Канапацкага, Уладзіміра Гайдука, Зоські Верас, Лявона Луцкевіча. Эпісталярная спадчына Міколы Гайдука — гэта сапраўдныя, гістарычныя дакументы.

Пяты раздзел кнігі «З рукапіснай і машынапіснай спадчыны» складаецца з чатырох твораў Міколы Гайдука. Найбольш цікавыя — тэкст пра мітрапаліта Васіля Дарашкевіча (мітрапаліт Васіль заснаваў Варшаўскую праваслаўную семінарыю і вучыў у ёй на беларускай мове, захапляўся беларускай паэзіяй, а «Новую зямлю» Якуба Коласа ведаў на памяць, ён аднаўляў і адбудоўваў праваслаўныя храмы ў Польшчы), а таксама прамова Міколы Гайдука на Першым з'ездзе беларускіх студэнтаў у Польшчы ў 1987 годзе.

У апошні раздзел кнігі «У беларускасці наш паратунак» («Альбом») увайшлі здымкі Міколы Гайдука ад маленства да апошніх дзён.

Некалі амерыканскі прадпрымальнік Стыў Джобс сказаў: «Мая праца — не палягчаць жыццё людзям. Мая праца — рабіць людзей лепшымі». Лепшымі людзьмі стараўся рабіць усіх нас і шчыры земляк наш, руплівы даследчык беларускасці Падляшша Мікола Гайдук. У вянок ягонай памяці — і новае выданне.

# Жывая чарга

Іван МЕЛЬНІЧУК

### За костачку

*Шчанюк, што пільнаваў*
*старанна дом,*
*Сабачыя засвоіўшы навукі,*
*Знаў, гаўкнуць дзе,*
*а дзе вільнуць хвастом,*
*Каму лізнуць працягнутыя рукі.*
*Глядзеў шчанюк на справу*
*досыць проста:*
*Якая служба — гэткай*
*будзе костка.*

### Перасцярога

*Зачараваўшы зайчыка, удаў*
*І піскнуць нават беднаму не даў.*
*Ці змей перад табою,*
*ці драпежны звер —*
*У дабрату ягоную не вер.*

### Жывая чарга

*«Адно акно» — і зноўку па чарзе.*
*Чарга «жывая» тая ледзь паўзе,*
*Бо без чаргі абслужаць брата, свата,*
*Знаёмых — іх у кожнага багата.*
*Не дзіва, што чарга «жывая» тая*
*Чамусьці аніяк не аджывае.*

### Плачу

*Хачу таго, ці не хачу —*
*За ўсё па цэнніку плачу:*
*За хлеб плачу,*
*За соль плачу,*
*За яблыкі, за алычу*
*Плачу,*
*Плачу за бульбу*
*І гарох,*
*Што даў сам*
*Літасцівы Бог.*
*Свідруюць зуб —*
*Ледзь не вішчу,*
*За экзекуцыі плачу.*
*Шалеюць цэны —*
*Зноў бурчу,*
*Хоць ледзь не пла́чу,*
*А плачу.*
*І толькі цешуся*
*Адным —*
*Без пла́ты дыхаць*
*Можна ўсім.*

### Ваяка

*«Я ветэран — Кузьма дэкламаваў —*
*Усё жыццё я ваяваў...»*
*— А з кім? — спытаў Сымонка.*
*— Са сном. З начальствам. З жонкай.*

### Асцярожны

*Тлумачыў шэф, што на рабоце*
*Ён нібы той цыркач на дроце:*
*Баіцца ў лічбах памыліцца,*
*Болей за ўсё — дарэшты спіцца.*

### Дыялог

*Пеця радаваў Святлану:*
*«Хочаш, зорачку дастану?!..»*
*А яна: «Хай зоркі свецяць.*
*Лепш дастань мне футра, Пеця.»*

### Многавектарны

*Каханак многа меў Пятроў —*
*Ад маладух і бабак без зубоў.*
*Тлумачыў: «Я не ветраны.*
*Я проста многавектарны.»*

### Асілак

*Дзед Яфрэм набраўся духу, —*
*Клікнуў танчыць маладуху.*
*З танцаў жа таго «асілка»*
*Адпраўлялі на насілках.*

### Прадпрымальнік

*Прадаваў дзядуля хрэн.*
*Думаў, будзе бізнэсмэн.*
*Бабка «ка́су» адшукала —*
*Цалкам прыхватызавала.*

### Хвалько

*Хваліўся шпак: «Да ураджаю*
*Я дачыненне першы маю, —*
*Вясну вітаю».*

### Воўчая філасофія

*Даказваў воўк: пагана жыць,*
*Калі няма каго душыць.*

### Не той разлік

*Прасіў, каб Бог памог,*
*А сам у цянёк прылёг.*

### Першапраходзец

*Дзед, прыехаўшы з курорта,*
*Па сяле бадзяўся ў шортах.*
*Бабы кпілі: «Пэўна, кра́лі*
*Калашыны адарвалі...»*

### Памылковы намер

*Марыў аб шчасці,*
*А намерыўся красці.*

### Не тая апора

*Як галава «кульгае»,*
*І кульба не памагае.*

### Знаходлівы

*Капаў дзівак глыбокі роў,*
*Хавацца каб... ад камароў.*

### Без разбору

*Галоднаму не цікава:*
*Смачней гарбата ці кава.*

### Успамін

*І пень помніў, што па сасне помнік.*

### Інфарматары

*І плёткі часам маюць рацыю —*
*Хутчэй даводзяць інфармацыю.*

# Уцякач

Сяргей БЕЛАЯР

***Свабода пачынаецца з іроніі.***
***Віктор Гюго***




— Гэта што такое? — адарвалася ад сняданку майстар цэха па вытворчасці лямп агульнага прызначэння. На наладчыка яна глядзела як злачынца на міністра ўнутраных спраў.

— Гэта — заява на звальненне, Марына Мікалаеўна! — патлумачыў Мікіта Лугавін.

— Якое яшчэ звальненне?

— Мяне не задавальняюць пяць даляраў заробку, дваццацігадзінны працоўны дзень пры адным выхадным у год, плата ў пяцьдзясят еўра за права працаваць на заводзе! Мяне ванітуе ад прафнепрыдатнасці кіраўніцтва! А яшчэ я не хачу жыць у інтэрнаце на тэрыторыі завода!

— Што? — Марына Мікалаеўна павольна ўзнялася над сталом. Тварам яна стала падобная на індуісцкую багіню Калі. Мікіта Лугавін інстынктыўна адхіснуўся. — Ты не разумнічай!.. І наогул — ідзі да старшага майстра!

Барана Мікіта Лугавін пасля трохгадзінных пошукаў знайшоў у слясарнай майстэрні.

— Павел Бухалавіч, падпішыце заяву!

Баран з цяжкасцю ўзняў галаву і пасля тузіна спробаў сфакусаваў погляд на наладчыку.

— Не падпішу! У цябе кантрафакт... кантрабас... кантракт на дваццаць пяць гадоў! — амбрэ ад сівушных масел літаральна валіла з ног. — А ты адпрацаваў усяго адзін год!

— Але я хачу звольніцца!

— Да канца к-а-н-т-р-а-к-т-а не маеш права! — сказаў Баран і, абсмаліўшы вейкі і бровы, падпаліў цыгару «Cohiba Behike» ад запальніцы з васямнаццацікаратнага белага золата, інкруставанай пяцюстамі брыльянтамі.

— Гэта феадалізм! — закрычаў Мікіта Лугавін, абудзіўшы гномаў-слесараў. Тыя неадкладна пачалі скручваць стартар з мэтай абмену яго на спіртазмяшчальную вадкасць.

— Завалі хлябала і бегам марш працаваць! — Баран зрабіў зацяжку і выдыхнуў у твар Мікіце Лугавіну. Наладчык ледзь стрымаўся ад таго, каб не даць старшаму майстру ў твар, што тры месяцы не ведаў брытвы.

— Я ўсё роўна звольнюся!

— Толькі па артыкуле!..

Мікіта Лугавін плюнуў і накіраваўся да намесніка начальніка цэха.

Цэх нагадваў Даліну смерці. Лініі, атрыманыя па рэпарацыях з Германіі па Версальскай мірнай дамове, вывяргалі змрочны агонь, з трубаў біў круты кіпень, цеплавыя гарматы нагняталі распаленае паветра — з завода збеглі ўсе спецыялісты, якія маглі іх адключыць, з дзір у падлозе раз-пораз выплюхвалася лава.

У цэху смярдзела алейнай фарбай — грэмліны-наладчыкі фарбавалі лініі проста па брудзе і пыле, спяшаючыся навесці глянец да прыезду чарговай камісіі з міністэрства. Пахла і газай — ёй націралі падлогу для надання бляску і 5D-эфекту.

Спроба абудзіць Таўсталобіка, які атрымаў сінекуру дзякуючы знаёмству з сынам дырэктара, пацярпела фіяска. Спаў намеснік начальніка цэха моцна па-за залежнасцю ад часу сутак, а тоўстыя дубовыя дзверы адсякалі любыя гукі...

Мікіта Лугавін прыгнечана паківаў галавой і падняўся ў пентхаўс да дырэктара. Ля дзвярэй у апартаменты кіраўніка ААТ наладчыка спынілі ахоўнікі.

— Ходу няма! — папярэдзіў узброены шматствольнай аркебузай, шастапёрам, бензапілой «Дружба» і ручнымі ядзернымі гранатамі тэрмінатар Т-1.

— Мне вельмі трэба!

— Дырэктар заняты — ён трэція суткі лічыць сваю зарплату! Заходзьце праз два дні!

— Але...

Віскнула бензапіла, і Мікіта Лугавін паспяшаўся рэціравацца.

Наведванне дырэктара было апошнім легальным спосабам звольніцца з заводу. І Мікіта Лугавін прыняў рашэнне збегчы. Шлях да свабоды перакрывала бетонная сцяна дзесяці метраў вышынёй. Паверсе была нацягнута спіраль Бруна і праз кожныя пяць метраў высілася будка ахоўніка. Ні ствалы буйнакаліберных кулямётаў, ні чалавечыя шкілеты на «калючцы», ні вышыня плоту Мікіту Лугавіна не спалохалі...

План быў выдатны, аднак наладчык пераацаніў свае сілы — паваліўся як падкошаны, не адолеўшы нават і траціны шляху.

— Жывы? — голас Марыны Мікалаеўны пазбавіў наладчыка ўсялякіх надзей на тое, што ён трапіў у рай. З-за брэху заводтэр'ераў майстру давялося крычаць.

— Жывы! — запэўніў начальнік аховы Кашчэй Бессмяротны. — У кіназалу яго!

Ахоўнікі прышпілілі Мікіту Лугавіна тоўстымі скуранымі рамянямі да крэсла і ўключылі відэамагнітафон. Пакаранне за спробу ўцёкаў майстар цэха прыдумала жорсткае: глядзець «Дом-2».

Калі катаванне скончылася, Мікіта Лугавін адчуваў сябе выціснутай анучай. Але надзею вырвацца на волю не страціў. Спаслаўшыся на хваробу, наладчык накіраваўся ў медыцынскі пункт, якім загадваў фельчар-практолаг Таблеткін.

— Доктар, тэрмінова накіруйце мяне ў бальніцу! Паміраю!

— Спакой, толькі спакой! Які орган канкрэтна ў вас баліць?

— Усё!

— У такім выпадку вам трэба выпіць аналгін! Тры таблеткі, і зможаце вярнуцца да працы!..

— Што ж рабіць? — Мікіта Лугавін быў блізкі да істэрыкі. І тут погляд наладчыка спыніўся на калоне з трыццаці бартавых БелАЗаў, якія вывозілі смецце, што засталося пасля ўчорашняй змены. Нядоўга думаючы, ён залез у кузаў і закапаўся ў ракавінах вустрыц, з'едзеных за сняданкам васьмідзесяццю трыма намеснікамі кіраўніка прадпрыемства.

Вартавыя таксы-ваўкадавы аказаліся на вышыні — яны ўчулі наладчыка ўжо за дванаццаць кіламетраў ад прахадной.

— Збор твораў Дар'і Данцовай яму! — загадала Марына Мікалаеўна, даядаючы халву з пачкі вагой у пяцьдзясят кілаграмаў. — Хай чытае і канспектуе!

Ахоўнікі накінуліся на наладчыка і звязалі яго танкавымі трасамі, пасля чаго пацягнулі ў кабінет майстроў. У куце ў абдымку са скрадзеным, але пакуль не прададзеным мяшком цэменту спаў Баран. Ад п'янага храпу майстра дрыжалі зваранья з тытанавых лістоў сцены.

Чакаць, пакуль Мікіта Лугавін прачытае ўсе кнігі, ахоўнікі не сталі. Што не магло не радаваць наладчыка.

У наступныя чатыры гадзіны Мікіта Лугавін здзейсніў шэраг парушэнняў унутранага распарадку: курыў, гуляў у карты, катаўся па цэху на бульдозеры, нецэнзурна лаяўся, піў гарэлку з улюбёнцам завода парасём Сан Санычам, абарваў гіганцкую расцяжку «2+2=5», накідаў смецця на працоўным месцы, ігнараваў правілы дарожнага руху, паліў вогнішчы, не мыў рукі, чытаў Салжаніцына, абедаў даўжэй за тры хвіліны, гучна пляскаў дзвярыма, думаў і шмат чаго яшчэ.

— За ўсе парушэнні мы пазбавім цябе заробку! — сказала Марына Мікалаеўна, даядаючы слановы кумпяк.

— Лепш звольніце мяне!

— Хрэн табе!

На лінію, якая сілкавалася ад дзвюх АЭС, Мікіта Лугавін не вярнуўся. Ногі самі прывялі ў курылку.

— Ты чаго нос павесіў? — спагадліва спытаў дамавік Скршытэк, які развозіў па цэхах гафраманжэту і кардонныя скрыні.

— Не звальняюць! — наладчык сцісла распавёў пра свае нягоды.

— Невялікая бяда!.. Вось табе цвік! Сіні «Ікс пяты» ведаеш?

— «БМВ» Таўсталобіка?

— Ён самы! Падрапай, і ты вольны! Вылеціш з завода як корак!

— Дзякуй! — І Мікіта Лугавін панёсся да службовай стаянкі...

## ПРЭМІІ

### Прэмія памяці Астрыд Ліндгрэн

**Міжнародная літаратурная прэмія памяці знакамітай шведскай дзіцячай пісьменніцы Астрыд Ліндгрэн прысуджана шведскай пісьменніцы Барбру Ліндгрэн.**

Кнігі Барбру Ліндгрэн перакладзены на 30 моў. Як прызналіся члены журы, шведская пісьменніца «з'яўляецца літаратурным наватарам», якая «з лінгвістычнай дзёрзкасцю і псіхалагічнымі нюансамі абнавіла не толькі кнігі для самых маленькіх, але і для падлеткаў».

Барбру Ліндгрэн нарадзілася ў 1937 годзе каля Стакгольма. Дэбютавала ў 1965-м з кнігай для дзяцей «Лета Маціаса». За сваю творчую біяграфію апублікавала каля 100 кніг, сярод якіх ілюстраваныя выданні для малых, дзіцячая паэзія і п'есы, апавяданні для дзяцей і дарослых.

Міжнародную літаратурную прэмію памяці Астрыд Ліндгрэн шведскі ўрад заснаваў у 2002 годзе (пасля смерці пісьменніцы), каб садзейнічаць развіццю дзіцячай і юначай літаратуры. Прэмія стала таксама знакам прызнання Астрыд Ліндгрэн, якая застаецца адной з самых любімых пісьменніц як у Швецыі, так і за яе межамі. Гісторыі, напісаныя Астрыд Ліндгрэн, перакладзены на больш за 90 моў свету.

Прэмія лічыцца адной з найбуйнейшых у галіне літаратуры. Сума грашовай узнагароды складае 5 мільёнаў шведскіх крон (770 тысячаў даляраў ЗША). Цырымонія ўзнагароджання пройдзе ў Стакгольме 2 чэрвеня.

### «Folio»

**Амерыканскі празаік Джордж Сондэрс стаў уладальнікам літаратурнай прэміі «Folio», якая была заснаваная летась як альтэрнатыва папулярнаму «Букеру».**

Узнагарода пісьменніку ўручана за кнігу «Дзясятае снежня». Выданне было адзіным зборнікам апавяданняў, якія ўвайшлі ў шорт-ліст прэміі. Выбар журы, на думку сайта «Новости литературы», сведчыць пра тое, што ў свеце вяртаецца цікавасць да фармату кароткага аповеду (Нобелеўская прэмія па літаратуры, уручаная Эліс Манро – яшчэ адно пацверджанне гэтага факту).

Па словах заснавальніка ўзнагароды Эндру Кідда, новая літаратурная прэмія для англамоўных аўтараў – акадэмічная альтэрнатыва «Man Booker Prize», прэстыжнай, але не занадта папулярнай, і «Букеру», лонг-лісты якога з кожным годам становяцца ўсё больш «папсовымі». Адзначаецца, што ў шорт-ліст першага сезона «Folio» ўвайшлі пяць аўтараў з ЗША, два брытанскіх і адзін канадскі пісьменнік. Джордж Сондэрс – амерыканец.

Паэтка Лавінія Грынлоў, старшыня журы, каментуючы выбар «Folio», заявіла: «Гэтыя апавяданні – адначасова па-майстэрску напісаныя і глыбокія. Мы не сумняваемся, што з гадамі іх значэнне будзе толькі ўзмацняцца». Апроч дыплома, Сондэрс атрымаў фінансавую ўзнагароду ў памеры 40 000 фунтаў стэрлінгаў (каля 70 000 даляраў ЗША).

### «Руская прэмія»

**Кароткі спіс прэтэндэнтаў на званне лаўрэатаў міжнароднага літаратурнага конкурса «Руская прэмія» за 2013 год абвешчаны ў Маскве. Гэта творчае спаборніцтва арганізаванае пры падтрымцы Прэзідэнцкага цэнтра Барыса Ельцына і праходзіць ужо ў дзявяты раз.**

Старшыня журы конкурса Сяргей Чупрынін адзначыў, што праца па вызначэнні прэтэндэнтаў праходзіць у дыстанцыйным рэжыме: кожны выстаўляе адзнакі намінантам па сваім меркаванні, а затым балы сумуюцца.

Па рашэнні журы сёлета ў кароткі спіс конкурса ўвайшлі творы дзевяці расійскамоўных пісьменнікаў і паэтаў з шасці краін свету.

У намінацыі «Паэзія» ў спіс увайшлі Шамшад Абдулаеў з Узбекістана, Ніджат Мамедаў з Азербайджана і Андрэй Палякоў з Украіны. Спашукальнікамі на галоўны прыз у намінацыі «Малая проза» сталі Ілля Одзегаў з Казахстана за зборнік апавяданняў «Цімур і яго лета», Аляксандр Сцесін з ЗША за кнігу «Вярніся і вазьмі», а таксама Алена Сцяжкіна з Украіны за аповесці з цыклу «Адзін талент». У кароткі спіс прэміі ў намінацыі «Вялікая проза» ўвайшлі Валерый Бачкоў з ЗША («На поўдзень ад Вірджыніі»), Аляксей Нікіцін з Украіны («Victory park»), Саша Філіпенка з Беларусі («Былы сын»).

Такім чынам, больш за ўсё намінантаў на прэмію – з Украіны.

Адмысловым прызам аргкамітэта і журы конкурса «За ўнёсак у развіццё і захаванне традыцый рускай культуры за межамі Расійскай Федэрацыі» быў узнагароджаны Жорж Ніва. Ён адзначаны за перакладніцкую дзейнасць.

## На што жывуць нямецкія паэты?

**«Не прадаецца натхненне, але можна рукапіс прадаць», – пісаў паэт. А што рабіць, калі за рукапіс плацяць сімвалічныя грошы або наогул – нічога? На што жывуць, напрыклад, паэты ў Нямеччыне? Штогод там прысуджаюцца і ўручаюцца каля ста літаратурных прэмій і стыпендый.**

У Нямеччыне кожны год выходзіць каля паўтысячы паэтычных зборнікаў. Статыстыка ахоплівае, зразумела, толькі камерцыйныя выданні, якія паступаюць у продаж. Лічыцца, што яшчэ столькі ж вершаваных кніг іх аўтары выдаюць самі, за свой кошт (магчымасцяў у Нямеччыне для гэтага вельмі шмат, а каштуе такі «самвыдат» для немцаў літаральна капейкі).

Значная частка вершаваных томікаў, якія з'яўляюцца на прылаўках нямецкіх кнігарняў, – гэта, вядома ж, кнігі паэтаў-класікаў, якіх ужо няма на нашай грэшнай зямлі. Але іншыя паэты, якія яшчэ жывуць, атрымліваюць ад выдавецтваў ганарары. Аднак жыць на іх немагчыма. Паэтычныя зборнікі прадаюцца слаба, ды і кошт у іх нізкі, так што за зборнік, выдадзены накладам 1000 асобнікаў, аўтар атрымлівае звычайна ад выдавецтва ад 500 да 1000 еўра. І калі нават шчаслівычык будзе выдаваць вершаваныя зборнікі кожныя 3–4 месяцы, яго ганарар ледзь перавысіць пражытковы мінімум у Нямеччыне...

Многія нямецкія паэты з задавальненнем выступаюць перад чытачамі: большасць – бясплатна, але самыя папулярныя атрымліваюць ад кнігарняў, бібліятэк ганарары за выступы. Звычайна плацяць 100–200 еўра за вечар. Калі выступ арганізоўвае які-небудзь багаты культурны фонд ці музей, могуць заплаціць і 500 еўра. Але такія выступы здараюцца не часта, ды і канкурэнцыя высокая.

Дык на што ж жывуць нямецкія паэты?

Хто як. Даўно прайшлі тыя часы, калі літаратараў утрымоўвалі мецэнаты (як, напрыклад, Рыльке ці Клопштока, якому прызначыў пажыццёвую рэнту дацкі кароль). Праўда, сёння ў Нямеччыне існуюць разнастайныя стыпендыі для дзеячаў мастацтва, але іх не так шмат і плацяць іх абмежаваны час – максімум год.

Хтосьці з паэтаў жыве на сацыяльную дапамогу. Гэта 300–400 еўра ў месяц плюс, сама меней, частка квартплаты, бясплатная медыцынская страхоўка. Не густа, затое не трэба хадзіць на працу, можна з раніцы да вечара рыфмаваць, рыфмаваць, рыфмаваць...

Дарэчы, літаратурныя прэміі, якіх у Нямеччыне многа, дапамагаюць маладым і масцітым літаратарам – некаторыя з іх складаюць у грашовым эквіваленце некалькі дзясяткаў тысяч еўра...

## Суперкніга XVI стагоддзя



**У XVI стагоддзі існавала кніга, якую можна было чытаць шасцю рознымі спосабамі.**

Метад змацавання лістоў dos-a-dos (у перакладзе з французскага — «спіна да спіны») у Сярэднявеччы выкарыстоўваўся, звычайна, толькі для дзвюх кніг, якія неабходна было аб'яднаць пад адной вокладкай. У нацыянальнай бібліятэцы Швецыі захоўваецца кніга, якая злучае адразу шэсць выданняў: чытаць яе, адпаведна, можна шасцю рознымі спосабамі.

Выданне змацавана металічнымі сашчэпамі: адкрыўшы любую пару суседніх замкоў, можна прачытаць тую ці іншую публікацыю.

Выявіў кнігу і заняўся яе вывучэннем Эрык Квакел, супрацоўнік Лейдэнскага ўніверсітэта. Навуковец быў здзіўлены ўнікальнасцю, узростам і ступенню захаванасці выдання, якое стваралася ў 1550–1570-х гадах.

У наш час доступ да кнігі абмежаваны.

## ЦРУ і «Доктар Жывага»

**У гады «халоднай вайны» ЦРУ выдавала раман «Доктар Жывага», які быў забаронены ў СССР. ЦРУ выкарыстоўвала кнігу для ідэалагічнай барацьбы з Савецкім Саюзам.**

Літаратары Пітэр Фін і Петры Коўві напісалі аб тым кнігу, дзе распавялі пра 130 нядаўна рассакрэчаных дакументаў ЦРУ. У іх апісваюцца асаблівасці публікацыі і распаўсюду «Доктара Жывага» ў мэтах антысавецкай прапаганды.

«Мы можам прымусіць савецкіх грамадзянаў СССР задумацца над дзеяннямі савецкіх уладаў, калі выдатная кніга, напісаная найвялікім з расійскіх літаратараў, не можа быць апублікавана ў яго ўласнай краіне, на яго мове і для яго народа», — гаворыцца ў адным з рассакрэчаных дакументаў. ЦРУ аддрукавала наклад кнігі ў Галандыі, каб «рука ЗША не была заўважана ў гэтай справе».

З 1958 года кніга распаўсюджвалася ў еўрапейскіх краінах, у прыватнасці — у кішэннай версіі.

## Перадгісторыя «Знесеных ветрам»

**Спадчыннікі Маргарэт Мітчэл ухвалілі выпуск прыквела (перадгісторыі) да «Знесеных ветрам». Аўтарам новай кнігі стаў Дональд Маккейг (пісьменнік, які раней ужо выдаў два працягі культавага рамана: «Рэт Батлер» і «Людзі Батлера»).**

Кніга Маккейга, выдавецкая назва якой — «Вандраванне Рут», распавядзе пра падзеі, якія папярэднічаюць сюжэту рамана «Знесеныя ветрам». Галоўнай гераіняй рамана стане Мамка, чарнаскурая рабыня, гісторыя якой у арыгінальнай кнізе Мітчэл, выдадзенай у 1936 годзе, не раскрывалася. Дональд Маккейг апісаў біяграфію Рут ад нараджэння да з'яўлення ў доме О'Хара. Кніга выйдзе ў канцы 2014 года.

## 15-мятровая кніга-вышыванка

**Ва Украіне стварылі 15-мятровую вышытую кнігу.**

Да 200-годдзя Тараса Шаўчэнкі ў горадзе Арэхаў Запарожскай вобласці прэзентавалі кнігу-буклет з 24 старонак. Яе даўжыня перавышае 15 метраў, а вага — 8 кг. На кожнай старонцы кнігі — вышытыя ўручную вершы Кабзара і ілюстрацыі да іх.

Па словах Лідзіі Млынар, галоўнага метадыста Палаца культуры Арэхава, да 200-годдзя з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі гэтую кнігу вышывалі ўсёй грамадою.

Кніга стала самым доўгім ва Украіне ілюстраваным выданнем вершаў Тараса Шаўчэнкі. Неўзабаве яна адправіцца ў Кіеў.

## Памяць пра Івана Шмялёва

**Ва Уладзіміры (Расія) на доме, дзе каля васьмі гадоў жыў Іван Шмялёў, усталявана мемарыяльная шыльда.**

Пісьменнік (аўтар «Сонца мёртвых» і іншых вядомых кніг) быў службоўцам па адмысловых даручэннях Уладзімірскай казённай палаты. Акцыя, якая прайшла ў межах Года культуры, — вынік сумесных высілкаў Асацыяцыі юрыстаў Уладзімірскай вобласці, Грамадскай палаты пры абласной адміністрацыі і Расійскага фонду культуры.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў www.novostiliterature.ru, Washington Post, www.vsiknygy.net, www.dw.de, prostokniga.com, lenta.ru, ІТАР-ТАСС, РІА «Новости».**

Літаратурная Беларусь

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

TV

## 4 МАЯ, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.30** Камедыя «8 першых спатканняў» (Расія).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Сваты 3» (Украіна).
**10.50** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.25** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.15** Каробка перадач.
**13.50** Таямніцы следства.
**14.30** БеларусьLIFE.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Мірны тур.
**15.50** Eurovision. Вынікі тыдня.
**16.10** Дак.цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**17.20** Меладрама «Час кахаць» (Расія). 1-я - 4-я серыі.
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Псіхалагічная драма «У кампаніі мужчын» (Вялікабрытанія - ЗША).
**00.10** Камедыйны серыял «Сваты 3» (Украіна).

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.45** «Фазэнда».
**11.20** Прэм'ера. «Таццяна Самойлава. «Маіх слёз ніхто не бачыў».
**12.20** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**13.25** Фільм «Той самы Мюнхгаўзен».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Піліп Кіркораў. «Іншы».
**18.00** АНТ прадстаўляе: «Рассмяшы коміка».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.45** Рамантычная камедыя «Каханне жыве тры гады».
**00.35** Фантастычная камедыя «Кокан: Вяртанне».

### СТВ

**06.05** «Студэнты». Серыял.
**07.45** Фільм «Тры метры над узроўнем неба. Я цябе жадаю». Іспанія, 2012 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Заўтра была вайна». СССР, 1987 г.
**14.30** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Прэм'ера! «Чатыры вяселлі».
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** Фільм «Сфера». ЗША, 1998 г.
**23.05** Фільм «У пошуках Эрыка». Вялікабрытанія-Францыя-Італія-Бельгія-Іспанія, 2009 г.
**01.05** «Вялікія таямніцы старажытных скарбаў».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.45** Камедыйны серыял «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**08.40** Тэлебарометр.
**08.45** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**10.00** Заўтра - гэта мы!
**10.35** «Два з паловай кухары. Адкрытая кухня». Кулінарны майстар-клас (Расія).
**11.05** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**13.10** Забаўляльная шоў-праграма «СуперІнтуіцыя. Каханне».
**14.15** Аўтабатл.
**14.50** Стыль-бюро.
**15.25** Пад грыфам «Вядомыя».
**16.00** Фантастычны баявік «Тэрмінатар 3: Паўстанне машын» (ЗША).
**18.05** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў.
**19.15** Суперлато.
**20.05** «Кіпень». Гумарыстычная праграма.
**20.25** Тэлебарометр.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Цела чалавека.
**21.40** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія).
**23.30** Палітычная драма «Уся каралеўская раць» (ЗША).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Некалькі дзён з жыцця І.І.Абломава». Мастацкі фільм паводле рамана І.А.Ганчарова «Абломаў». 1-я і 2-я серыі.
**10.30** «Беларускі балет. Гісторыя». Дак. фільм пра гісторыю беларускага балета ад першых прыватных тэатраў да сучаных пастановак.
**11.20** «Калейдаскоп».
**11.30** «Цуды прыроды». Лаос. Ісландыя.
**11.55** «Кругі надзеі». Дакументальны фільм пра паэта Сяргея Грахоўскага.
**12.20** «Размаўляем па-беларуску».
**12.25** «Карані». Драўляныя пабудовы Сяргея Нічыпарука.
**12.55** «Калейдаскоп».
**13.00** Ігар Стравінскі. «Вясна свяшчэнная». Спектакль Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.
**13.40** «Пейзажы скрозь час». Дом Фрэдэрыка Чэрджа ў Алана.
**14.10** «Палескі пачастунак». Салёнае сала.
**14.25** «Размаўляем па-беларуску».
**14.30** «Замкі Беларусі». Дак. фільм пра гісторыю самых знакамітых замкаў Беларусі.
**14.50** «Калейдаскоп».
**15.00** «Актрыса». Дак. фільм пра жыццё і творчасць заслужанай артысткі Беларусі Святланы Сухавей.
**15.30** «Наперад у мінулае».
**15.55** «Наперад у мінулае». Спецыяльны выпуск, прымеркаваны да «Еўрабачання».
**16.25** Дзіцячы фільм. «Прыгоды Бураціна». Па матывах казкі Аляксея Талстога «Залаты ключык, ці Прыгоды Бураціна». 1-я і 2-я серыі.
**18.35** «Культпрасвет».
**19.00** Сусветнае кіно. «Мужы і жонкі».
**20.45** Калыханка.
**21.05** «Калейдаскоп».
**21.10** Шлягеры на ўсе часы. «Джаз і класіка». Канцэрт Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга.
**22.30** «Культпрасвет».
**22.55** «Макбет». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М.Горкага па п'есе У.Шэкспіра.
**01.05** «Калейдаскоп».

### НТВ

**06.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**08.00, 10.00, 13.00, 19.00** Сёння.
**08.20** «Дзікі свет».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.20** «Першая перадача».
**10.50** «Ежа жывая і мёртвая». Навуковае расследаванне.
**11.55** «Дачны адказ».
**13.15** «Таямнічая Расія».
**14.10** Фільм «Дзень роспачы».
**16.00** «І зноў добры дзень!».
**16.25** «Следства вялі...».
**18.05** «Вочная стаўка».
**19.20** Фільм «Дуброўскі».
**23.10** «Школа зласлоўя».
**23.55** «Авіятары».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак.
**07.50** «Таямніца Сагалі», серыял: 1 серыя.
**08.15** Зона «Свабоды».
**08.55** «Апантаныя-2», дак. цыкл.
**09.05** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Беларуская дзіцячая літаратура – каму яна патрэбная?.
**09.30** Без рэтушы: «Зямля памерлых», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**09.45** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.10** Невядомая Беларусь: «Людвіка», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**10.50** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Прыгоды і паходы».
**11.25** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 10 серыя.
**11.55** «Таямніца Сагалі», серыял: 1 серыя.
**12.20** «U455, таямніца загінулай субмарыны», дак. фільм, 2013 г., Францыя.
**13.15** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2014», канцэрт: выступ гурта «Kozak System».
**13.45** Фітнес-шмітнес.
**14.05** «Дэфект», тэлесерыял: 4 серыя.
**15.00** «Побач з раем», маст. фільм, 2002 г., Францыя–Іспанія–Канада.
**16.35** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 13 серыя.
**17.25** «Сага старадаўняй пушчы», дак. серыял.
**18.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Вынаходлівы Дабрамір».
**19.00** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.10** «Людскія справы».
**19.40** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.15** Дакументальная гадзіна: «Гулаг», дак. фільм, 2000 г., Францыя–Расія.
**21.10** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2014», канцэрт: выступ гурта «Maleo Reggae Rockers».
**21.40** Фільматэка майстроў: «Адважныя», драма, 1997 г., ЗША.
**23.15** Зоры не спяць (культурніцкая праграма).
**23.45** «Людскія справы» (аўтарская праграма Алеся Залеўскага).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234 .**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. **Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________
Всего ________

Кассир

# Марыупаль: баязлівы і безыдэйны сепаратызм



Зміцер ГАЛКО

**Прарасійскія актывісты ў Марыупалі не ведаюць імёнаў сваіх загінулых аднадумцаў і не спяшаюцца іх гераізаваць. Бо ніхто, падобна, не спяшаецца паўтарыць іх лёс.**




Стомленыя прапагандай




Народ супраць сам не ведае чаго

Зусім не сакрэт, што я сімпатызаваў Майдану і сімпатызую зараз тым, хто выступае за адзіную Украіну. Пры гэтым я добра засвоіў, што журналісту пажадана заставацца бестаронным, і стараюся датрымлівацца гэтага правіла. Але яно, натуральна, не азначае, быццам пра ўсіх трэба пісаць аднолькава добра.

Калі б я пабачыў на прарасійскіх мітынгах у паўднёва-ўсходніх гарадах Украіны годных, разумных і смелых людзей са сваёй праўдай, як бы я да той праўды ні ставіўся, я б напісаў, што за сваю праўду там стаяць годныя, разумныя і смелыя людзі.

Не тое, каб такіх людзей там зусім не было. Падчас першага прыезду ў Данецк, ужо больш за месяц таму, я іх сустракаў. Але яны якраз выходзілі не за федэралізацыю, пагатоў не за далучэнне да Расіі, а за тое ж, за што выходзіў Майдан, — за справядлівасць і грамадзянскія правы. Супраць бяспраўя і разрабавання краіны.

Неаднойчы я чуў, што Майдан насамрэч пачаўся ў паўднёва-ўсходнім рэгіёне — на Мікалаеўшчыне, у райцэнтры Урадзіеўка. Потым, дзякуючы масіраванай прапагандзе, удалося пераканаць вялікую колькасць жыхароў украінскага паўднёвага ўсходу, што ў Кіеве стаяць за чужыя і нават варожыя ім мэты, таму выступленні ў яго падтрымку былі тут досыць кволымі. Аднак падзенне Януковіча і кампаніі ўзарвала сітуацыю — хваля майданнага настрою накрыла і гэты рэгіён.

На вялікі жаль, не знайшлося сілы, якая магла б выкарыстаць гэтую пратэстную хвалю на карысць агульнай з Майданам мэты — дзеля пабудовы новай краіны. Знайшлася іншая, якая завязала пратэстоўцам георгіеўскія стужкі, сунула ў рукі трыкалоры і патлумачыла, што іх адзінае выратаванне — у Расіі. З гэтага моманту пратэст на паўднёвым усходзе Украіны перастаў быць адэкватным.

Бо праблемы, ад якіх яны стаміліся ва Украіне, а менавіта — страшэнная карупцыя, чыноўніцкае і паліцэйскае самавольства, празмерная адміністратыўная цэнтралізацыя, развал сацыяльнай сферы, прамысловасці і сельскай гаспадаркі — у самой Расіі не вырашаныя, і вырашаць іх, падобна, ніхто не думае. Не кажучы ўжо пра тое, што ў Расіі за падобнае выказванне ўласнай грамадзянскай пазіцыі яны даўно хлябталі б турэмную баланду.

Разумным гэты пратэст ніяк не назавеш. Яшчэ меней яго можна назваць годным і смелым.

Для тых, хто не чытаў майго артыкулу аб падзеях у Харкаве на мінулых выходных, сцісла перакажу, у чым там была справа. Усе страшна баяліся суботняга шэсця футбольных фанатаў (т.зв. «ультрас») супраць Пуціна. Баяліся абывацелі, баяліся кардынатары Майдану, баяліся прарасійскія актывісты, баялася міліцыя і міліцэйскі міністр Авакаў. На плошчы Свабоды, пад помнікам Леніна, дзе стаіць прарасійскі мітынг, панавала сапраўдная паніка.

І што адбылося? Ды нічога, шэсце прайшло без інцыдэнтаў.

А вось назаўтра, у нядзелю, здарылася жудаснае пабоішча — азвярэлы натоўп пад расійскімі трыкалорамі накінуўся на сход рамантычнай інтэлігенцыі каля помніка Шаўчэнкі. Дзе было вельмі многа жанчын, дзяцей, старых.

Калі антымайданаўцы хацелі памерацца сіламі з «баевікамі», у іх быў такі шанец. Як распавёў мне адзін з фанатаў, яны ў суботу меркавалі ўсё зрабіць па сваёй фанацкай завядзёнцы — дамовіцца, каб «каларадасы» не нападалі на мірныя мітынгі, што яны неаднаразова рабілі, прызначыць ім сустрэчу ў аддаленым месцы, без тэлекамераў, і «зарубіцца». Тыя на сустрэчу ў такім фармаце не пагадзіліся. Замест чаго вырашылі адыграцца на слабейшых...

Я не магу назваць гэтыя паводзіны інача, чым баязлівай подласцю.

У баязлівасці прарасійскіх пратэстоўцаў я пераканаўся і ў Марыупалі, дзе быў 19 красавіка, у суботу. Тут мелася прайсці пахаванне аднаго з трох забітых падчас штурму вайсковай часткі Нацгвардыі ў ноч з 16 на 17 красавіка. Дарэмна я чакаў убачыць масавую маніфестацыю з клятвамі не забыць і не дараваць смерць героя, падхапіць сцяг, які выпаў з ягоных рук, падвоіць барацьбу супраць ворагаў і г.д.

Прысутныя на мітынгу былі заклапочаныя тым, што іх мала паказваюць па тэлевізары, а калі паказваюць, дык «усё перакручваюць». Уедліва распытвалі журналістаў, хто яны і адкуль. «Бандэраўцам інтэрв'ю не дадаваць, толькі расіянам!» — камандавала нейкая бабулька. Да здымачнай групы CNN падскочыў дзядок і спрабаваў уцягнуць іх у канфлікт: «Гэта вы ўчора ў шпіталь прыходзілі, каб пасмяяцца з нашых параненых, га? Я вас запомніў, гэта вы, вы з раненых нашых пасмяяцца прыходзілі!» Іншы, пачуўшы англійскую мову, гучна прамовіў: «Гэта немцы! Як не немцы? Чуеш, яму перакладаюць з рускай, ён сам не разумее!.. Няма сэнсу ім расказваць, немцам гэтым, што ўлады пазбавілі нас 8 сакавіка. Яны самі не святкуюць яго і не ведаюць, хто такая Клара Цэткін!». Больш пашанцавала «карэйскаму ці кітайскаму», а насамрэч японскаму журналісту — яго ўпрошвалі перадаць у сябе дома «наверх», каб там прызналі Данецкую Рэспубліку.

Мы тут былі разам з вядомым беларускім фатаграфам Сяргеем Грыцам, і нас таксама ўедліва распыталі. Мужчына, які нас распытваў, быў шакаваны, калі даведаўся, што мы не рускія: «А хто ж тады?!» Адказ выклікаў у яго дваістыя пачуцці. З аднаго боку, «беларусы — гэта нават лепей», а з іншага, неяк падазрона, што мы тады адмовіліся назвацца рускімі.




Абавязковы атрыбут сепаратысцкіх мітынгаў — афіцыйны беларускі сцяг. Яны не ў курсе, што Лукашэнка выказаўся за адзіную і непадзельную Украіну



Купка прарасійскіх мітынгоўцаў

Пад сценамі захопленай гарадской рады апоўдні знаходзілася каля ста пяцідзесяці чалавек. І ніхто не мог нічога ўцямнага сказаць пра пахаванне. Хтосьці казаў, што «на Вялікдзень увогуле хаваць нельга» ці «яшчэ праводзіцца судмедэкспертыза». Ані імя загінулага, ані кантактаў яго сваякоў тут не ведалі. Мемарыяла загінулым таксама нідзе не было бачна. Хаця б фотаздымак з жалобнай палоскай і парай свечак. Нічога.

Урэшце дзелавітая жанчына, падобная да якой-небудзь гарвыканкамаўскай супрацоўніцы, дала наводку — адрас невялікай піўной, уладальнікам якой нібыта быў загінулы, хаця называецца яна «Піва ў Лены». Магчыма, у гонар дачкі або жонкі. У піўной сказалі, што пахаванне ўжо скончылася, сваякі і знаёмыя збіраюцца на памінкі.

Памінкі спраўлялі на ўскраіне горада ў кавярні пад назвай «Інтрыга» з выявай агіднага грыфа на шыльдзе. Расказаць пра тое, якім чалавекам быў нябожчык, ніхто з тых, хто стаяў на ганку кавярні, не захацеў. Пра іншых загінулых тут таксама нічога не ведалі.

Вярнуўшыся да захопленага будынку гарадской рады, я пачуў выступы са скаргамі на «ганебную баязлівасць марыупальцаў» і на «недапушчальнае прытармажванне справы Данецкай Рэспублікі». Загінулых узгадалі ў абязлічанай форме — маўляў, марыупальцы, якія «сядзяць на канапах каля тэлевізару», не вартыя такіх ахвяраў. Ні імёнаў, ні «славы героям» не прагучала.

Абмеркаваўшы з калегамі гэтую дзіўную акалічнасць, мы прыйшлі да высновы, што сепаратысты ўяўляюць сабой «разрозненыя безыдэйныя натоўп». Які заканамерна разбегся пры першай сапраўднай небяспецы.

І гераізаваць загінулых яны не спяшаюцца, бо ніхто не хоча паўтарыць іхны лёс. Таму што зусім не жыццёва важнае для іх далучэнне да Расіі (гаворка ідзе менавіта пра далучэнне, «федэралізацыя — гэта проста першы крок», як патлумачыў адзін з актывістаў), яны і самі, мабыць, добра разумеюць тое ў глыбіні душы.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### МАЛДОВА. Трэба адключыць расійскія каналы

Урад Малдовы ўхваліў законапраект, які дазваляе забараніць вяшчанне расійскіх тэлеканалаў. Нагодай сталі асаблівасці асвятлення расійскімі тэлеканаламі падзей на Украіне і ў Прыднястроўі.

Вынікам прыняцця адпаведнага законапраекта можа стаць спыненне трансляцыі ў Малдове праграм «Першага канала» «Расіі–1», «Расіі–24», «НТВ» і «РЕН–ТВ». «Мы заўважылі з лета 2013 года незвычайную актыўнасць расійскай прэсы ў Малдове па прасоўванні альтэрнатыўнай інтэграцыі Малдовы. І гэта ў час, калі мы ставім сабе мэтай еўраінтэграцыю як абсалютны прыярытэт знешняй і ўнутранай палітыкі… Мы апынуліся нечаканым чынам ва ўмовах гіганцкай інфармацыйнай кампаніі. Мы вывучылі рэсурсы, і аказалася, што ў той час, як урад тлумачыў элементы і этапы еўрапейскай інтэграцыі і карыстанне яе дабротамі, — гэтага было недастаткова, каб пераважыць мэсідж, які прыйшоў ад расійскага боку. І гэта было папярэджанне нам», — сказала кіраўнік малдаўскага МЗС у эфіры радыёстанцыі «Europa Libera».

Пільную ўвагу на тэлебачанне з Масквы афіцыйны Кішынёў звярнуў яшчэ ў 2013 годзе пасля паказу дакументальнага фільма «НТВ» «Прыднястроўе: рускі фарпост». Пасля гэтага Каардынацыйны савет па тэлебачанні і радыёвяшчанні (КСТР) стаў маніторыць усе расійскія каналы, якія транслююцца ў краіне.

Украінскія падзеі далі новую нагоду для ўвагі ўладаў да маскоўскага кантэнту. Чальцы КСТР вырашылі правесці маніторынг расійскіх тэлеперадач, якія рэтрансляваліся ў Малдове з 10 красавіка, а таксама папрасілі выказаць меркаванне з гэтай нагоды прадстаўнікоў місій АБСЕ, ЗША і ЕС у Кішынёве. Маскоўскае тэлевяшчанне даследуюць на прадмет адпаведнасці мясцовым законам аб інфармаванні грамадства.

**Паводле малдаўскай прэсы**

### КІПР. Да канца года краіна аб'яднаецца

Прэзідэнт Турэцкай Рэспублікі Паўночнага Кіпра Дэрвіш Эраглу выступіў з сенсацыйнай заявай. Ён спадзяецца, што ўрэгуляванне кіпрскага канфлікту стане магчымым ужо да канца гэтага года.

Па словах Эраглу, галоўнае — здолець вынесці на рэферэндум праект дамовы, які падтрымае як грэчаская, так і турэцкая часткі жыхароў выспы. Выспа Кіпр, як вядома, раскалолася на турэцкую і грэчаскую часткі з 1974 года, калі Турцыя аказала ваенную дапамогу мясцовай турэцкай абшчыне, якая апынулася ў цяжкіх умовах пасля захопу ў краіне ўлады грэчаскімі нацыяналістамі, што марылі далучыць выспу да Грэцыі. З таго часу напружанасць паступова змяншалася, і цяпер нарэшце пачаліся перамовы пра рэінтэграцыю. Праўда, пакуль палітолагі крытычна ацэньваюць перспектывы аб'яднання. На поўдні востраву ўзровень жыцця больш высокі, і грэкі-кіпрыёты не вельмі жадаюць фінансаваць больш бедную паўночную частку. У сваю чаргу, туркі-кіпрыёты адмаўляюцца ад аб'яднання, пакуль ім не будзе гарантаваны роўны ўдзел у кіраванні будучай дзяржавай. Менавіта спрэчкі па пытанні балансу прадстаўніцтва туркаў і грэкаў у адміністрацыі ў свой час былі адной з прычын падзелу вострава. Варта ўзгадаць, што ў 2004 годзе грэкі-кіпрыёты прагаласавалі супраць плану ААН па аб'яднанні вострава, у той час як жыхары паўночнай часткі яго падтрымалі.

**Паводле турэцкай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Кракаў адмаўляецца прымаць зімовую алімпіяду




25 мая еўрапейцы будуць абіраць Еўрапарламент. А вось жыхарам Кракава таксама будзе неабходна вызначыцца — ці патрэбная ім зімовая алімпіяда 2022 года? Ідэя правядзення ў Кракаве зімовых гульняў узнікла некалькі гадоў таму і спачатку была на ўра сустрэтая абывацелямі. Сваю ролю тут, безумоўна, згуляла алімпіяда ў Сочы. Палякі хацелі давесці Пуціну, што іх край таксама можа годна прымаць спаборніцтвы такога маштабу. Аднак чым бліжэй да 25 мая, тым менш у кракаўскай алімпіяды перспектыў. Прычына таму — серыя карупцыйных скандалаў унутры аргкамітэту. Так, высветлілася, што на стварэнне сімвалу алімпіяды была выдаткавана гіганцкая сума — 87 тысяч злотых (амаль 30 тысяч долараў). Грамадскасць Кракава таксама шакаваная карупцыяй у Сочы, дзе, па падліках крытыкаў, кожны трэці рубель інвестыцый быў скрадзены. Нядзіўна, што за месяц да галасавання кіраўнік аргкамітэта падаў у адстаўку. У сувязі з гэтым усе чакаюць, што 25 мая праект алімпіяды канчаткова праваліцца. Праўда, адмова Кракава ад удзелу ў конкурсе на тытул сталіцы Алімпіяды можа ўзняць шансы Львова, які таксама не супраць прыняць зімовыя гульні.

**Паводле польскай прэсы**




# Партыя не аднаго сезону

Алег НОВІКАЎ

**Упершыню ў гісторыі Усходняй Еўропы экалагічная партыя здолела ўтрымацца ў парламенце больш за адну кадэнцыю.**

Калі 25 гадоў таму разбуралі Берлінскую сцяну, лічылася, што экалагічныя партыі будуць адыгрываць у посткамуністычнай Усходняй Еўропе ледзь не вядучую ролю. Па-першае, чарнобыльская праблематыка была на той час вельмі актуальная для гэтага рэгіёну. Па-другое, у шматлікіх краінах грамадзянская супольнасць паўстала менавіта праз барацьбу за навакольнае асяроддзе.

Аднак рэальнасць аказалася больш празаічнай. Пад ціскам сацыяльных праблем людзі хутка забыліся пра экалагічныя забабоны. Вельмі марудным на ўсходзе Еўропы аказалася станаўленне новага сярэдняга класу — сацыяльнай базы Зялёных у Еўропе. У выніку Зялёныя на працягу 1990-х гадоў паступова маргіналізаваліся або былі цалкам выкупленыя алігархамі. Часам ім удавалася прайсці ў парламент, і нават займаць міністэрскія кабінеты (Чэхія, Украіна), аднак ужо наступныя выбары яны з трэскам прайгравалі. Было відавочна, што поспех Зялёных выкліканы кан'юнктурнымі фактарамі. Сапраўдным інстытутам палітыкі яны не сталі.

І вось упершыню ў гісторыі Усходняй Еўропы экалагічная партыя не вылецела з парламенту пасля таго, як туды трапіла. Прычым гэта адбылося там, дзе гэтага менш за ўсё чакалі. Гаворка ідзе пра Венгрыю. Венгрыя, як вядома, мае імідж краіны, дзе ўкараніўся правы папулізм. У дадатак прэм'ер Віктар Орбан перманентна канфліктуе з Брусэлем з-за парушэнняў грамадзянскіх свабод, абмежаванняў правоў прэсы і г.д. Больш за тое, у спіну «Fidesz» дыхае не левая апазіцыя ў выглядзе Сацпартыі, а праварадыкальная партыя «Jobbik».

Нягледзячы на такі неспрыяльны стан рэчаў, мясцовая экалагічная партыя «Палітыка можа быць іншай» (Lehet Más a Politika!), або LMP, не толькі пяць гадоў таму прарвалася ў парламент, аднак і здолела застацца ў ім па выніках апошніх сакавіцкіх выбараў. LMP атрымала 5,3 працэнта, што дазволіла ёй перакрочыць выбарчы бар'ер і захаваць сваё парламенцкае прадстаўніцтва.

Цяпер усе еўрапейскія палітолагі спрабуюць зразумець, што адбываецца на Дунаі. Тое, што ў 2010 годзе LMP заявіла пра сябе, не такі ўжо і сюрпрыз. На той час у Венгры назіраўся крызіс старой левай апазіцыі. Сацыялістычная партыя, якая фармавала ўрад раней, стала сінонімам партыі карупцыянераў. Сітуацыяй скарысталася невялікая групоўка актывістаў грамадзянскага сектару і эколагаў, якія не мелі за сабою шлейфу кампраматы. Напачатку 2009 года яны сварылі тую самую LMP і атрымалі рэйтынг, дастатковы, каб трапіць у парламент.

Па-сутнасці, такі ж сцэнар меў места ва Украіне ў 1998 годзе, калі Зялёныя атрымалі імідж партыі новых палітыкаў. Аднак, калі ва Украіне трыумф эколагаў цягнуўся нядоўга (на наступных выбарах партыя Зялёных не атрымалі нават 1 працэнта), іх венгерскія калегі захавалі крэдыт даверу электарату. Ці значыць гэта, што Зялёныя ператвараюцца ў сур'ёзнага актора ва Усходняй Еўропе?

Скептыкі кажуць, што венгерскім Зялёным проста зноў пашанцавала. Прычым пашанцавала проста фантастычна, нягледзячы на раскол у партыі літаральна за год да выбараў. Тыя, хто быў за аб'яданне ўсёй апазіцыі ў адзін блок, напярэдадні выбараў стварылі партыю «Дыялог для Венгрыі». Частка Зялёных вырашыла не ісці на блакаванне з сацыялістамі і застацца пад старымі партыйнымі штандарамі.

Тыя, хто застаўся пад сцягамі старой партыі, здавалася, былі асуджаныя на тое, каб стаць лузерамі. Структуры партыі былі расколатыя, парламенцкая група з-за сыходу аматараў дыялогу страціла ўплывовы статус фракцыі, і, адпаведна, уплыў эколагаў на вялікую палітыку скараціўся.

Аднак нечакана для ўсіх канфлікт з сацыялістамі вярнуў LMP імідж партыі сумленных людзей. Актывісты LMP казалі, што сацыялісты не маюць права крытыкаваць Орбана, паколькі самі стварылі ўмовы для яго прыходу ва ўладу. Сацыялістам аказалася няма чаго супрацьпаставіць такім аргументам. Іх перасталі разглядаць як сапраўдную альтэрнатыву рэжыму «Fidesz».

Такім чынам, калі верыць палітолагам-скептыкам, калі б не палітыка сацыялістаў напярэдадні выбараў, адсутнасць у іх адзінства, партыя эколагаў дакладна не перакрочыла б 5-працэнтны выбарчы бар'ер.

Аднак шмат хто лічыць, што прычыны перамогі LMP палягаюць у іншым. Пасля таго, як партыю пакінула частка сяброў, яе актыў вырашыў, што губляць ужо няма чаго (на гэты час партыю падтрымлівалі толькі 2 працэнты выбаршчыкаў). Яны пайшлі ва-банк. Значную ролю тут згуляла моцная фігура лідара партыі Андраша Шыфера. Перш за ўсё, было вырашана — нягледзячы ні на што — выставіць кандыдатаў па ўсіх 106 аднамандатных выбарчых акругах. Адбор у кандыдаты рабілі прама на сустрэчах з грамадскасцю. З'яўленне новых людзей у палітыцы зноў выклікала да партыі інтарэс.

Такім чынам, калі верыць некаторым палітолагам, LMP па сутнасці перахапіла новую генерацыю палітыкаў левых поглядаў. У макрапалітычным вымярэнні гэта значыць, што посткамуністычныя партыі, накшталт Сацпартыі, паказалі няздольнасць да кадравага і ідэйнага аднаўлення, паколькі моцна звязаныя з алігархамі. Больш таго, калі ім верыць, такія партыі, як венгерскія сацыялісты, будучы няздольнымі да ўнутраных рэформаў, рана ці позна распадуцца на больш дробныя. І адбыцца гэта можа вельмі хутка.

Падаецца, падобным чынам глядзяць у будучыню і LMP. Яны ўсур'ёз маюць надзею стаць вядучай партыяй апазіцыі да 2018 года, калі ў Венгрыі пройдуць наступныя выбары, па выніках якіх LMP спадзяецца ўвайсці ў склад ураду. Першы тэст на верагоднасць такіх сцэнараў Зялёным давядзецца здаваць 25 мая, калі будуць абіраць Еўрапарламент.

# Хто баіцца федэралізацыі?

Алег НОВІКАЎ

**Тэрмін «федэралізм» стаў жупелам для ўладаў Кіева, хаця шматлікія аўтары незалежніцкай ідэі бачылі Украіну выключна федэратыўнай. Каб зразумець гэты нонсэнс, трэба зрабіць экскурс у гісторыю ўкраінскай федэралісцкай дактрыны.**




**Украінскі абывацель баіцца федэралізацыі. У сярэднім толькі 16–20 працэнтаў украінскіх грамадзян гатовыя галасаваць за такую рэформу**

«Будзе Украінская Рэспубліка фармальна звацца федэратыўнай ці не, фактычна, яна ўсё адно павінна арганізоўвацца як федэрацыя рэспублік-грамадаў. Любое навязванне грамадам механічнай унітарнасці, прымусовых сувязяў будзе вялікай памылкай, якая прывядзе толькі да супраціву, рэакцыі, цэнтрабежнасці ці дасць аснову для новых канфліктаў», — гэтыя словы належаць не прыхільніку данецкага сепаратызму, а Міхаілу Грушэўскаму — прэзідэнту Украінскай Народнай Рэспублікі.

Пры гэтым Грушэўскі — не адзіны вядомы ўкраінскі нацыяналіст, хто падзяляў федэралісцкія погляды. Ідэя федэралізму ва Украіне мае глыбокую гістарычную тэаэртычную базу. Спачатку яна развівалася як ідэя федэрацыі ўсіх славянскіх народаў, прыхільнікамі якой былі такія выбітныя асобы, як Міхаіл Кастамараў, Іван Франко і той жа Шаўчэнка. Захапленне федэралізмам можна часткова растлумачыць тым, што на той час сярод інтэлігенцыі панавала мода на народніцкі сацыялізм, паводле якога дзяржава павінна быць федэрацыяй працоўных камунаў.

Праўда, у 1930–1940-я гады, калі ўкраінскія нацыяналісты захапіліся аўтарытарнымі канцэпцыямі, федэралізм згубіў прываблівасць. Усе праграмныя заявы той жа ОУН патрабуюць, каб незалежная Украіна была ўнітарнай дзяржавай.

З гэтым былі не згодныя ўкраінскія дысідэнты савецкіх часоў. У якасці прыкладу можна ўзгадаць Вячаслава Чарнавола — палітвязня, заснавальніка Народнага руху Украіны. Напачатку 1990-х гадоў ён казаў: «Бачу ў складзе Украінскай Федэратыўнай Народнай Рэспублікі такія землі, як Кіеўшчына, Падолле, Валынь, Галічына, Букавіна, Закарпацце, Гецьманшчына, Слабажаншчына, Запарожжа, Данбас, Таўрыя, а Крым — як незалежнага суседа ці аўтаномную рэспубліку ў саюзе з Украінай. Кожная з земляў будзе мець свой парламент (Данецкую Раду, Галіцкую Раду і г.д.) і свой зямельны ўрад». У пачатку 1990-х гадоў Вярхоўная рада з ініцыятывы дэмакратаў разглядала пакет законаў пра дэцэнтралізацыю, аднак пасля пра яго забылі.

Пра федэралізацыю ўзгадалі толькі падчас аранжавай рэвалюцыі. У лістападзе 2004 года ў горадзе Севераданецк прайшлі зборы прадстаўнікоў адміністрацый украінскага Поўдня і Усходу. Фінальная рэзалюцыя ўключыла пункт аб неабходнасці заснаваць «паўднёва-ўсходнюю ўкраінскую дзяржаву ў форме федэратыўнай рэспублікі».

Хутчэй за ўсё, гэта была форма шантажу аранжавых. Інакш бы ідэя федэралізму не знікла з лексікону «рэгіяналаў» адразу, як толькі Януковіч стаў прэзідэнтам. Галоўная прычына такога зігзага відавочная: пасля адпаведных змен у Канстытуцыі наконт федэралізацыі, цэнтральная ўлада губляла б абсалютны кантроль над фінансамі ў рэгіёнах і ператварылася б у орган, які сам мусіць прасіць грошы. Цікава, што на месцах былі свае рахункі з Януковічам. Так, федэралізацыі патрабавалі ў Марыупалі, маючы надзею выйсці са складу Данецкай вобласці і стварыць сваю адміністратыўную адзінку — Прыазоўскі край.

І вось зараз тэрмін «федэралізацыя» зноў на транспарантах Партыі рэгіёнаў, якая адначасова заклікае ўзгадаць спадчыну Грушэўскага і Чарнавола. Аднак наўрад ці Чарнавол, калі б ён быў жывы, падтрымаў такую прапанову. Ідэя федэралізацыя гучыць як дыягназ хваробы ўкраінскай дзяржаўнасці.

Патрабуючы федэралізацыі, яе адэпты парушаюць саму базавую формулу федэратыўнай дзяржавы, калі будучыя нізавыя суб'екты добраахвотна падпісваюць дамову. Бываюць і адваротныя прыклады. Напрыклад, у Бельгіі федэрацыя была створаная па патрабаванні фламандцаў, аднак відавочна, што ў бельгійскім выпадку кансенсусу паміж рэгіёнамі няма.

Фактычна, федэралізацыя, якую прапануе Масква і яе саюзнікі, будзе накіраваная на эскалацыю напружанасці. Як піша выданне «Хвиля»: «Цяперашнія федэратыўныя заклікі здольныя рэзка стымуляваць усе рэгіянальныя тэндэнцыі, у тым ліку і звязаныя з рэанімацыяй даўніх супярэчнасцяў паміж асобнымі рэгіёнамі, узнікненнем праблем packraзмеркавання тэрыторый, што зусім відавочна прывяло б да расколу Украіны і страты яе дзяржаўнасці».

У гэтым плане не дзіўна, што ўкраінскі абывацель баіцца федэралізацыі. У сярэднім толькі 16–20 працэнтаў украінскіх грамадзян гатовыя галасаваць за такую рэформу. Аднак пры гэтым назіраецца поўны, як зараз модна казаць, кагнітыўны дысананс. Выступаючы ў большасці супраць федэралізацыі, 69 працэнтаў украінцаў адначасова выступаюць за дэцэнтралізацыю ўлады.

Чым дэцэнтралізацыя адрозніваецца ад федэралізацыі — цяжка сказаць. Так ці інакш, гэта значыць, што супярэчнасці ў адносінах паміж цэнтрам і рэгіёнамі, а таксама паміж рэгіёнамі, сапраўды існуюць. І прыкладаў у гэтай сферы таксама хапае. У тым ліку і культурна-гістарычных. Самы свежы — рашэнне данецкага гарсавету аб ушанаванні ў назве аднаго са сквераў гораду Данецку памяці байцоў «Беркута», якія загінулі на Майдане. Гэта пры тым, што ў суседніх рэгіёнах вуліцы і скверы называюць у гонар Нябеснай сотні.

І такіх прыкладаў шмат. Вышэй былі ўзгаданыя сепаратысцкія зборы ў Севераданецку ў 2004 годзе, аднак не варта забывацца, што раней падобныя зборы таксама правялі прадстаўнікі адміністрацый Заходняй Украіны. Пра аўтаномію яны не казалі, аднак далі зразумець, што захад Украіны мае сваю асобную думку. Сёння абласаветы Заходняй Украіны, якія заўсёды былі супраць ідэі федэралізацыі краіны, сваімі антыканстытуцыйнымі дзеяннямі (такімі, як забарона дзейнасці Камуністычнай партыі і Партыі рэгіёнаў) фактычна руйнуюць унітарную прыроду краіны.

Праблема ёсць, і вырашаць яе трэба. Дарэчы, славуты Універсал 1919 года пра аб'яднанне Украінскай Народнай Рэспублікі (УНР) і Заходняй Украінскай Народнай Рэспублікі (ЗУНР) пакідаў за ЗУНР права на аўтаномію ў складзе адзінай дзяржавы. Адным словам, нічога жудаснага ў аўтаноміі рэгіёнаў няма, а агульную мову ўкраінцы заўсёды знойдуць.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Давід Залкаліяні



Намеснік міністра замежных спраў Грузіі публічна выказаў заклапочанасць у сувязі з тым, што ў Расіі прыняты новы закон аб спрошчаным пераходзе ў расійскае грамадзянства. Па новым законе, каб стаць грамадзянінам РФ, дастаткова здаць іспыт па рускай мове і прадставіць дакумент, які пацвярджае адмову ад замежнага грамадзянства. Міністр мяркуе, што новы закон быў прыняты выключна ў мэтах чарговага расколу Грузіі. Быццам, на гэты раз Масква паклала вока на рэгіён Джавахеці, дзе пражывае шмат грузін армянскага паходжання. Значная частка армянскага насельніцтва штогод выязджае на сезонныя заробкі ў Расію — такім чынам, мае патрэбу ў расійскіх пашпартах, каб не атрымліваць абавязковую для грузінскіх грамадзян візу. Мясцовая прэса, сапраўды, піша пра тое, што армяне апошнім часам сталі масава наведваць расійскае консульства ў Тбілісі, дзе ім выдаюць пашпарты грамадзян РФ. Залкаліяні паабяцаў, што яго кантора зоймецца барацьбой са «здраднікамі». Прынамсі, супраць іх можа быць распачатая крымінальная справа аб падвойным грамадзянстве, што забаронена ў Грузіі. Праўда, іншыя СМІ пішуць, што заявы Залкаліяні — спекуляцыі. Па-першае, ніякіх чэргаў армян каля расійскага консульства няма. Па-другое, край Джавахеці знаходзіцца далёка ад расійска-грузінскай мяжы, і ўводзіць туды войскі для абароны сваіх грамадзян Расіі няма ніякага сэнсу. Так ці інакш, прэзідэнт Грузіі ўжо заклікаў грамадзян зменшыць запал у ацэнках магчымай расійскай пагрозы.

### Біл Шуэт



Генеральны пракурор штату Мічыган святкуе перамогу. Вярхоўны суд ЗША прызнаў, што распрацаваны ім закон не супярэчыць Канстытуцыі. Закон, які лабіраваў Шуэт, гучыць вельмі правакацыйна — адмена пазітыўнай дыскрымінацыі. Гэта значыць, што цяпер у Мічыгане падчас прыёму на працу або ва ўніверсітэт ніхто не будзе браць пад увагу факт прыналежнасці кандыдата або абітурыента да нейкай меншасці. Пол, раса, этнічнае паходжанне могуць не разглядацца дырэктарамі кампаній і прыёмнымі камісіямі як аргумент. Як і варта было чакаць, прыхільнікі пазітыўнай дыскрымінацыі ўжо назвалі вердыкт злачынным актам. Хутчэй за ўсё, працаўнікі Біла Шуэта будуць шукаць нейкія юрыдычныя зачэпкі, каб аспрэчыць новы закон. Нагадаем, што рашэнне аб забароне пазітыўнай дыскрымінацыі ў Мічыгане было прынята аж у 2006 годзе, аднак яе прыхільнікі доўгі час аспрэчвалі яго ў розных прававых установах. Яны звяртаюць увагу на вопыт васьмі штатаў, дзе ўжо ліквідаваны інстытут пазітыўнай дыскрымінацыі. Там колькасць абітурыентаў афра- і лацінаамерыканскага паходжання апошнім часам скарацілася амаль на 30 працэнтаў, што спрыяе росту этнічнай і расавай злачыннасці.

### Дональд Туск



Прэм'ер-міністр Польшчы ў чарговы раз стаў мішэнню правых апазіцыйных СМІ. На іх думку, менавіта Туск нясе адказнасць за нізкі ўзровень польскага патрыятызму. Паводле сацыялагічных апытанняў, толькі 49 працэнтаў грамадзян Польшчы сапраўды гатовыя рызыкаваць жыццём і здароўем у барацьбе за радзіму. У той жа час 21 працэнт катэгарычна не жадаюць быць героямі пасмяротна. 54 працэнта палякаў супраць удзелу іх краіны ў вайне за тэрытарыяльнае адзінства Украіны (за — 39 працэнтаў). Такія сумныя для патрыётаў лічбы правыя СМІ тлумачаць палітыкай, якую праводзіць Туск і яго ўрадавая партыя «Грамадзянская платформа». «Крах патрыятычных пачуццяў у Польшчы за апошнія 20 гадоў — гэта вынік працы лева-ліберальнага лагера. А канчаткова абяззброіў Польшчу Дональд Туск», — сказаў адзін з лідараў партыі «Права і справядлівасць». Паводле меркавання прэсы, палякі згубілі інтарэс да абароны бацькаўшчыны пасля таго, як пабачылі, што Туск паціскае руку Пуціну. Прыхільнікі Туска, аднак, лічаць, што правыя займаюцца інсінуацыямі. Пытанне, ці гатовы ты памерці за свой край, гучыць вельмі спекулятыўна, каб усур'ёз успрымаць яго вынікі. Левая інтэлігенцыя ў сваю чаргу заклікае перагледзець погляды на мадэль польскага патрыятызму, які, на яе думку, не абавязкова павінен быць замяшаны на крыві.

# Троцкі прапаноўваў Балаховічу ўзначаліць кавалерыю

Алесь КІРКЕВІЧ

**Чаму прайграла БНР? Хто ваяваў на баку «бацькі»? Ці чынілі жаўнеры Балаховіча габрэйскія пагромы? — сёлета «ARCHE» выпусціла ў свет другое выданне «Балахоўцаў». З гэтай нагоды мы вырашылі паразмаўляць з рэдактарам зборніка Андрэем Вашкевічам.**





Цімох Хведашчэня — камандуючы адной з беларускіх частак Балаховіча


Станіслаў Булак-Балаховіч

***— Андрэй, сёлетняе выданне, у дапаўненне да першага, 2012 года, акрамя ўспамінаў польскага контр-выведніка Станіслава Ліса-Блонскага, які служыў у войску Булак-Балаховіча, утрымлівае ў сабе таксама магістарскую працу Юрася Юркевіча, прысвечаную Асобнаму атраду БНР, спіс балахоўцаў па прозвішчах, раней не вядомыя фота і дакументы. Наколькі каштоўнай часткай зборніка стала менавіта праца Юркевіча?***

— Юрась Юркевіч, які жыве ў Эстоніі, выдатна ведае прыбалтыйскія мовы, што дало яму магчымасць працаваць з мясцовымі крыніцамі, якія раней ніхто з беларускіх гісторыкаў не выкарыстоўваў. Паколькі ў 1919 годзе армія Балаховіча была фактычна складовай часткай эстонскай арміі, ішла пастаянная перапіска, таму і захавалася шмат дакументаў менавіта па-эстонску. У дадатак да гэтага ў Рызе працавала вайскова-дыпламатычная місія БНР на чале з Езавітавым — гэта яшчэ пласт дакументаў,ужо па-латышску. Сам Юркевіч у 2009 годзе ўдзельнічаў у стварэнні фільму пра Балаховіча — «Генерал невядомай вайны». Тады менавіта ён знайшоў арыгінальную хроніку заняцця Пскова войскамі «бацькі».

***— Ці не было прынцыповай супярэчнасці паміж «Рускай добраахвотніцкай арміяй» ды ідэямі БНР?***

— Хоць Балаховіч і спрычыніўся да барацьбы за беларускую дзяржаўнасць, усправмаць яго як адназначна беларускага дзеяча мы не можам. Ён сам падкрэсліваў, што па бацьку ён беларус, па маці — паляк, чалавек, які быў выхаваны ў дробнашляхецкім асяродку. Ягоная канцэпцыя падчас грамадзянскай вайны абапіралася на антыбальшавізм і патрэбу будаваць дэмакратычную Расію, шляхам вызвалення пэўных тэрыторыяў і абвяшчэння там нацыянальных урадаў. Стварэнне Пскоўскай рэспублікі летам 1919 года — яскравае таму сведчанне. Ён прыхільна быў настроены і да латышоў, і да эстонцаў, і да беларусаў. Таму менавіта для яго не было супярэчнасці паміж ідэяй «Рускай народнай добраахвотніцкай арміі» і БНР.

***— Ці вядома нешта пра супрацу Балаховіча з бальшавікамі?***

— Усе звесткі пра гэта ўскосныя, афіцыйных ніякіх дакументаў няма. Летам 1918 года Чырвоная Армія толькі стваралася, а Балаховіч апынуўся на тэрыторыі, занятай бальшавікамі. Там Троцкі яму прапанаваў узначаліць кавалерыйскую частку і ўвогуле ледзьве не стаць інспектарам, то бок кіраўніком, усёй кавалерыі. Тады былі такі час, што шансы мелі вайскоўцы нават з невысокім званнем. Што казаць, летам 1917 года Балаховіч толькі атрымаў званне паручніка (сучаснае — лейтэнант — А.К.), а летам 1919 года ён ужо быў генералам. Таму нічога тут дзіўнага няма. Бальшавікі яшчэ не праявілі сябе негатыўна, французскія ваенныя спецы кансультавалі Леніна, як змагацца з немцамі, а Балаховічу патрэбна было сфармаваць каля сябе сілу, што ў яго і атрымалася. Але Балаховічу было ад пачатку не па шляху з бальшавікамі, таму ён папрасіўся ў ваколіцы Лугі, пад Псков, каб быць падалей ад цэнтру і пры магчымасці перайсці на іншы бок.

***— У надрукаваным у кнізе спісе жаўнераў амаль адсутнічаюць беларускія прозвішчы. Хто служыў у «бацькі», і ці былі сярод іх беларусы?***

— Нацыянальны склад балахоўцаў заўжды быў прычынай маніпуляцый. У канцы 1919 года, калі Балаховіч падтрымаў БНР, большасць яго войска складалі сяляне з ваколіцаў Пскова. Гэта былі рускія па нацыянальнасці людзі, але і ад вялікарусаў яны сябе таксама адрознівалі. Шмат сярод іх было старавераў, якія ненавідзелі бальшавікоў. Сярод балахоўцаў было таксама шмат эстонцаў, шведаў, фінаў, пазней — палякаў. Беларускія часткі, сфармаваныя на Беласточчыне, у яго з'явіліся бліжэй да восені 1920 года, калі Балаховіч планаваў паход на тэрыторыю Савецкай Беларусі. Гэта аддзелы Цімоха Хведашчэні ды Мікалая Дзямідава. Яны вельмі добра сябе паказалі, напрыклад, Дзямідаў ўратаваў Балаховіча ад смерці альбо бальшавіцкага палону.

***— Часам даводзіцца чуць пра «Юдэн швадрон» у складзе арміі Балаховіча і ў той жа час пра страшэнны антысемітызм яго «сынкоў». Дзе праўда?***

— Балаховіч антысемітам, безумоўна, не быў, і сам публічна падкрэсліваў, што праявы антысемітызму ў ягоных частках караюцца. «Юдэн швадрон» акурат і быў спробай давесці лаяльнасць да жыдоў. У кнізе прыведзеныя тагачасныя газетныя публікацыі аб ягоным стварэнні, але больш ніякай канкрэтнай інфармацыі няма. Датычна антысемітызму: на Пскоўшчыне жыдоў не было, таму не было да каго яго праяўляць. А вось у 1920 годзе ў Беларусі антысеміцкія настроі былі даволі моцнымі. Па-першае, жыдоў часта прыроўнівалі да бальшавікоў. Па-другое, антысемітызм быў моцны і сярод мясцовага сялянства, якое таксама ўдзельнічала ў пагромах і рабавала жыдоўскае майно. Па-трэцяе, трэба ўлічыць сітуацыю вайсковых дзеянняў. Калі пачытаць Бабеля, бачна, што данскія казакі — Будзёны ды Цімашэнка — ставіліся да жыдоў гэтак жа сама. Такая ж польскіх вайскоўцаў.


**Гісторык Андрэй Вашкевіч.**
Фота Янкі Лялевіча

Не варта забывацца, што ішоў ужо шосты год вайны. Армія Балаховіча была сабраная з людзей, адарваных ад сваіх каранёў, якім часта не было «за што» ваяваць, было толькі «супраць каго». Ліс-Блонскі згадвае, што сустракаў салдат, якія маглі прыгадаць толькі губерню, з якой паходзяць, не больш... Яны былі цалкам адарваныя ад свайго сялянскага быту, вайна стала для іх жыццём.

***— Ці дазваляюць матэрыялы кнігі па-іншаму зірнуць на прычыны паразы БНР?***

— Канешне, з пункту гледжання сённяшняга дня нам працей стаць на пазіцыі культурніцкіх дзеячаў, якія не былі добрымі палітыкамі, але якія пакінулі па сабе след у беларускай культуры. Луцкевіч, Ластоўскі і іншыя часта негатыўна адгукаліся пра Балаховіча як пра авантурыста, бандыта і г.д. Але калі ўзяць палітычныя рэаліі таго часу, то адзінай прыкметай дзяржавы было акурат войска. І ў гэтым кантэксце супраца з Балаховічам не выглядае чымсьці нерэальным.

Частка працы Юркевіча прысвечана вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Прыбалтыцы, пад кіраўніцтвам Езавітава. Праца гэтай місіі была для БНР адным з нешматлікіх абнадзейваючых фактараў. Калі Езавітаў прыехаў у Рыгу, ён зразумеў, што з Балаховічам ёсць шанец. Невялікі, але шанец. Для гэтага патрэбныя былі грошы. Урад БНР, напэўна, мог паспрабаваць паставіць на Балаховіча ўсе карты і знайсці грошы. Але яны страшэнна прамарудзілі і не скарысталіся сітуацыяй. Не будзем забывацца таксама, што ў снежні 1919 года ва ўрадзе адбыўся раскол, што яшчэ больш ускладняла сітуацыю.

***— Ці прымалі ў грамадзянскай вайне падобныя арміі «кандацьераў», якія перакідваліся з аднаго боку на іншы? Балаховіч меў выбар, да каго ісці служыць?***

— Так, канешне. Балаховіча і яго аддзел у сябе хацелі бачыць і літоўцы, і латышы, і палякі. А БНР проста замарудзіў працэс прыняцця Балаховіча да сябе. Ён быў прыняты толькі на пачатку 1920 года, калі «бацька» ужо вёў перамовы з палякамі... У канцы 1919-га Асобны атрад быў прыняты на службу БНР асабіста Езавітавым, на сваю рызыку. Ён шукаў дапамогі ў Антанты, усё трымалася на ініцыятыве Езавітава. Дзякуючы менавіта Езавітаву, атрад Балаховіча атрымаў амерыканскую форму ды амуніцыю, якую добра бачна на здымках 1920 года, зробленых у Берасцейскай крэпасці. Урад БНР не надаў Балаховічу аніякай грашовай дапамогі.

***— Як складалася жыццё генерала адразу пасля вайны, калі ягоны атрад канчаткова адступіў на польскую тэрыторыю?***

— У 1921 годзе Балаховіч напісаў адкрыты ліст Польскаму сойму з нагоды таго, што яго хочуць выселіць з тэрыторыі Польшчы. Гэта была ініцыятыва бальшавікоў, якія лічылі Балаховіча прадстаўніком "незаконных банд-фармаванняў", а ўнеслі такую прапанову жыдоўскія паслы сойму. «Эндэкі» ўжо рыхтаваліся скарыстацца такой нагодай... Але Пілсудскі, які памятаў заслугі генерала, заступіўся за Балаховіча. Усе ягоныя афіцэры захавалі пры паляках вайсковыя званні, пры тым, што прадстаўнікі белых арміяў сваіх званняў не захоўвалі. Балаховіч лічыўся генералам брыгады, насіў адпаведную форму, хоць і не быў замацаваны за нейкай вайсковай часткай.

Пад кіраўніцтвам Балаховіча фармаваліся партызанскія аддзелы «Зялёнага дуба» яшчэ цягам савецка-польскай вайны. Але калі «Зялёны дуб» стварaўся як антыбальшавіцкая арганізацыя, то на пэўным этапе ён стаў непадкантрольнай разгорнутай структурай, якая стварала праблемы таксама і для палякаў. Таму на пачатку 1920-х гадоў за Балаховічам быў усталяваны нагляд з боку польскіх спецслужбаў. У Польшчы ён апынуўся непажаданай асобай. Тады ж бальшавіцкі агент забіў ягонага брата ў Белавежы... На гэтым фоне генерал спрабаваў разгарнуць палітычную дзейнасць, але быў непрыхільна сустрэты тагачаснымі беларускімі актывістамі — «Беларускім пасольскім клубам». Ягоныя дарожкі з беларускімі палітыкамі зноўку разышліся.


«Бацька» са сваім штабам

# Хрэстаматыя ад Дварчаніна

Арсень ЛІС

**Сёння ўжо крыху больш чым сёе-тое сказана пра добра вядомага ў свой час, асабліва ў Заходняй Беларусі, грамадска-палітычнага дзеяча і асветніка Ігната Дварчаніна.**



Партрэт Ігната Дварчаніна работы мастака Анатоля Крывенкі, 1999 г.

**ДВАРЧАНІН Ігнат Сымонавіч**

(08.06.1895, в. Погіры Дзятлаўскага р-на — 08.12.1937), грамадскі дзеяч беларускага нацыянальна-дэмакратычнага Адраджэння, вучоны, пісьменнік, паэт, літаратуразнавец. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Пражскага ўніверсітэта (1925) са ступенню доктара філасофіі. У 1917 г. быў сакратаром культурна-асветніцкага аддзела Беларускага нацыянальнага камісарыята ў Маскве, супрацоўнічаў у газеце «Дзянніца», прымаў удзел у падрыхтоўцы Усебеларускага з'езда 1917 года, рабоце Цэнтральнай Беларускай вайсковай Рады. У Празе стаў старшынёй Аб'яднання прагрэсіўных беларускіх студэнтаў, з У. Жылкам выдаваў часопіс «Перавясла», «Прамень» (друкаваў артыкулы і вершы). Выкладаў літаратуру ў беларускай гімназіі. Склаў «Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры. Сябар Беларускай Рады, якая аб'ядноўвала беларускую эміграцыю ў Чэхаславакіі. З 1926 г. у Вільні ўступіў у Беларускую сялянска-работніцкую Грамаду (БСРГ). У 1928 г. абраны ў польскі сейм, удзельнік беларускага рабоча-сялянскага пасольскага клуба «Змаганне». Уваходзіў у кіраўніцтва Таварыства беларускай школы. У 1930 г. арыштаваны польскімі ўладамі і асуджаны на 8 гадоў турмы. У 1932 г. абменены і дастаўлены ў Беларусь. Працаваў у АН Беларусі па вывучэнні Заходняй Беларусі. 16 жніўня 1933 г. арыштаваны агентамі НКУС па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». Пакаранне адбываў на Салавецкіх астравах. Паводле прыгавору «тройкі» ад 25.11.1937 г. прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны па двух прыгаворах у 1956 г. ваенным трыбуналам БВА. У г.п. Дзятлава ўстаноўлены помнік І. Дварчаніну, на радзіме ў в. Погіры ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Перш-наперш вернута яго добрае імя, рассакрэчана праўда пра адыход з жыцця, такая тыповая для лёсу інтэлігенцыі пад уладай таталітарызму. З'явілася кніжка, праўда, не на радзіме, а ў Польскай Рэспубліцы, прысвечаная палітычнай біяграфіі і культурнай дзейнасці Ігната Дварчаніна.

Часткова вернута народу творчая спадчына: перакладзена з чэшскай мовы напісанае І. Дварчанінам даследаванне жыцця і асветніцкага подзвігу Францішка Скарыны, абароненае ў Празе як доктарская дысертацыя. Збольшага агледжана і скарыстана ў аказійных публікацыях пра Дварчаніна віленская, заходнебеларуская перыёдыка і беларускі друк 20-х гадоў у Чэхаславаччыне і Латвіі.

Трэба было б пільней, паўней выбраць публіцыстычныя выступленні і вершы Дварчаніна, расцярушаныя ў дзясятках перыядычных выданняў, каб сабраць усё ў адну кнігу спадчыны беларускага літаратара і палітыка. І абавязкова не забыцца пра яго пісьмы. Як засведчыў светлай памяці Нестар заходнебеларускай духоўнай эпапеі, нястомны Уладзімір Калеснік, эпісталярый Ігната Дварчаніна можа дапамагчы не толькі лепш убачыць асобу яго аўтара, але і нешта больш зразумець у перыпетыях палітычнага жыцця Беларусі 20-х — 30-х гадоў, асаблівасцях яе грамадскай думкі.

Нарэшце, ёсць адна рэч, здзейсненая Ігнатам Дварчанінам, на першы погляд простая, немаштабная для асветніка. Фактычна ж яе нельга пераацаніць для свайго часу. Больш за тое, яе абавязкова трэба паўтарыць сёння друкам. Я гавару пра «Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры», падрыхтаваную і выдадзеную І.Дварчанінам у 1927 годзе ў Вільні. Была гэта сапраўдная скарбніца беларушчыны, яе залатая старонка. Аб'ядноўвала Хрэстаматыя (міжволі пішаш яе з вялікай літары) найлепшыя здабыткі беларускага краснага пісьменства, беларускага мастацкага слова практычна за чвэрць стагоддзя, але самага інтэнсіўнага ў развіцці нацыянальнай свядомасці беларусаў, самага плённага ва ўсіх сферах беларускага жыцця. І. Дварчанін у свой падручнік паўсталай да адраджэння нацыі ўключыў лепшыя ўзоры твораў, пачынаючы ад навел Ядвігіна Ш., мастацкіх шэдэўраў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, заканчваючы фрагментамі драм Францішка Аляхновіча. Творам кожнага пісьменніка папярэднічаў сціслы, змястоўны літаратуразнаўчы ўступ і фотапартрэт. Хрэстаматыя была ілюстравана дасканалай графікай Я. Драздовіча і мела самавіты паліграфічны выгляд. Гэта была адна з кніг, што нараджаюць свята душы. Натуральна, у Заходняй Беларусі 20-х гадоў, дзе высокай хваляй уздымаўся вызваленчы рух, ішла кансалідацыя нацыі, «Хрэстаматыя Дварчаніна» (так найчасцей яна і называлася ў абыходзе) набыла значэнне грамадскага Евангелля ад Беларушчыны, стала кнігай на штодзень. Узятыя з яе словы клаліся на ноты, рабіліся песнямі, цытаты, пачэрпнутыя ў ёй, скарыстоўваліся як аргумент у палеміцы з паланізатарамі, тымі, хто хацеў быць навекі каланізаваць, асіміляваць Беларусь, а яе інтэлігенцыю загнаць у рэзервацыю або проста знішчыць. Дзесь ужо на пачатку 70-х гадоў, падчас фальклорна-збіральніцкай вандроўкі па колішняй Заходняй Беларусі, натрапіў я на чалавека, ад якога даведаўся ўразлівы факт грамадскага рэзанансу «Хрэстаматыі» Ігната Дварчаніна, яе ролі ў духоўнай атмасферы свайго часу. У вёсцы Каччына Зэльвенскага раёна, на Гродзеншчыне, выпадкам, бо прыехаў ён на нейкі час з дому састарэлых, сустрэў я пажылога чалавека па прозвішчу Сталыгва. З размовы высветлілася, пацвярджэнне гэтаму пазней знайшоў у віленскай перыёдыцы, што ў час імклівага ўзрастання грамадаўскага руху на заходнебеларускіх землях мой нечаканы знаёмец узначальваў Лідскі павятовы сакратарыят Беларускай сялянска-работніцкай грамады. А ўвогуле Сталыгва — чалавек няпростага лёсу, нечым тыповага для беларуса XX стагоддзя. У даваенныя часы не мінуў польскага астрогу, а ў 1940 годзе, як і многіх былых грамадаўцаў ды капээзбоўцаў, яго паслалі абжываць лагеры ГУЛага. Адтуль трапіў ненадоўга ў польскае войска і разам з дывізіяй генерала Андэрса выехаў у Іран. Аднак контрразведцы польскага генерала не спадабаўся дух іх легіянера з беларусаў. Сталыгва быў арыштаваны як камуніст. Яму, аднак, удалося ўцячы з-пад арышту і ўладкавацца рабочым на англійскім вайсковым заводзе ў Іране. Страшэнна хацелася дамоў. На запыты, звернутыя праз Савецкае пасольства ў Маскву, адказаў не меў. Толькі пасля смерці «бацькі ўсіх народаў» у сярэдзіне 50-х гадоў Сталыгва здолеў вярнуцца на Беларусь, у родную Лідчыну.

Дык вось гэты былы актывіст беларускага вызваленчага руху, вяртаючы ў думках-успамінах да часоў сваёй маладосці, сказаў мне.

«Апірышчам у абароне свайго тут, у Заходняй Беларусі, мелі мы дзве кнігі — «Геаграфію Беларусі» Смоліча і «Хрэстаматыю» Дварчаніна. Моцна яны нам дапамагалі стаяць на сваім. Добра сілкавалі ў сэрцах і розуме людзей беларускую ідэю. Няўжо забаронены? Дзе б дастаць гэтыя кніжкі? Хоць бы зірнуць на іх, — сказаў з прасвятленнем у стомленых вачах гэты сучасны беларускі Адысей.

Сотыя ўгодкі з дня народзін Ігната Дварчаніна і для аўтара гэтай нататкі — нагода выказаць перад памяццю асветніка і змагара асабістую ўдзячнасць.

Калі яшчэ ў юнацкія гады трапіла на вочы Дварчанінская «Хрэстаматыя», (набыў яе ў школьнага сябра), зразумела, не мог усвядоміць, што яна будзе нешта значыць у маім асабістым жыцці і ў сэнсе грамадскай арыентацыі. На моцным буі знаходзіліся тады нашы душы, на вятрыску, што дзьмуў толькі ў адзін бок, казённы.

А тым часам не магло не рабіць уражання ўжо тое, што ў «Хрэстаматыі» Дварчаніна былі прадстаўлены аўтары, твораў якіх днём з агнём нельга было знайсці ў нашай праграме па літаратуры. Ні пра Алеся Гаруна, ні пра Максіма Гарэцкага, ні пра Ластоўскага, ні пра Цішку Гартнага, ні пра Аляхновіча мы ў класе не чулі і чуць не маглі, ні паўслова з-за іх найстражэйшай забароненасці. А калі праходзілі творчасць Купалы, Коласа, Багдановіча, то такіх агністых твораў іх, асабліва Купалавых, як тыя, што былі надрукаваны ў «Хрэстаматыі», у нашых падручніках і ў памінку не было.

Пра гэта, пасля таго, будучы вучнямі дзясятага класа, і гаварылі мы з сябрам Лявонам Соснай над рэчкаю, што бегла праз Смаргонь непадалёк ад нашай школы. Пэўна, тады яшчэ падсвядома, узгадваю, пачаў час ад часу думаць пра лёс гэтых літаратараў, схаваных ад нас, відаць, незнарок. У Мінску на першым курсе ўніверсітэта, калі раптам адчуў, як на свядомасць, самаадчуванне пачалі ціснуць каменныя зводы тагачаснай грамадскай будыніны, часцей стаў звяртацца да «Хрэстаматыі» Дварчаніна, шукаючы ў творах, рассыпаных на працягу яе паталі для душы. Вызнаў у іх меру, эталон праўдзівай, шчырай перад самой сабой і народам беларускай нацыянальнай літаратуры. Такой, якой яна была раней, на пачатку стагоддзя, і павінна быць заўсёды.

Тады не самі сабой запомніліся з падачы Ігната Дварчаніна, яго «Хрэстаматыі» Купалавы «Прарок», «Над Нёманам», «Не пагаснуць зоркі ў небе», Гаруновы «Ты мой брат, каго зваць беларусам», "Хто сказаў: «І я з народам», Багдановічава «Пагоня». У скрушную хвіліну яны паклікаліся на вусны, мацавалі дух, пакраплялі на духу, як выслаўляўся мастак Пётра Сергіевіч.

Значна пазней зразумеў, што Дварчанін сваёю «Хрэстаматыяй новай беларускай літаратуры» ў тых неадназначных умовах, у якіх мы раслі, надзейна дапамагаў арыентавацца на родны грунт, сапраўдныя духоўныя вартасці, а тым самым засцерагаў ад эфемерных ідэй, якімі нас вабіла ў некуды Дзяржава-мачыха. Дзякуй яму, светламу чалавеку асветніку-змагару за ўрокі, за пададзеную руку на хісткіх кладках юнацтва. Няхай вітае ў небе Беларусі яго светлы цень, ратуе заблуканых у пацёмках ад бяспамяцтва, бяздум'я, бязбацькаўшчынства.

Вільня 1920-х гадоў, дзе была выдана Хрэстаматыя




Гурт «Літы талер»


Салістка гурта «Альтанка» Дар'я Лаўрэнцьева


Спявае і грае Юрый Выдронак

# «Таўкачыкі–2014»: гэтым разам — апора на ўласныя сілы

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**23 красавіка для айчыннай фолк-сцэны — дзень у нечым знамянальны. На сцэне знакамітага клуба «RE: PUBLIC» загучалі старажытныя народныя спевы, выконваліся абрады, якім не адна сотня гадоў. Народных спевакоў з розных рэгіёнаў Беларусі змянялі маладыя рок-гурты і сучасныя фолк-выканаўцы, а слухачы не шкадавалі апладысментаў і тым, і другім. Гэта і быў folk-bomond-fest «Таўкачыкі на Юр'я»!**

Памятаю аптымізм Юрыя Выдронка, калі ў 2011 годзе ягонае тварэнне і дзецішча — фолк-фэст «Таўкачыкі» ўпершыню ўхваліла Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. І сапраўды, гэта было радасна, бо самая значная культурная ўстанова краіны, як маральна, так і матэрыяльна, падтрымала ініцыятыву незалежнага прадзюсера і музыканта ў яго імкненні зрабіць рэальны крок па адраджэнні беларускіх фальклорна-спеўных традыцый, напаўзабытых народных абрадаў, пазнаёміць з імі моладзь.

З такім жа пачуццём Юрый Выдронак і гэтым разам рушыў у Міністэрства культуры. Але з першых жа хвілін перамоў стала зразумела, што чаканай падтрымкі ўжо не будзе. І на гэта знайшлася тысяча прычын: тут і Чэмпіянат свету па хакеі, і патрэба павышаць заробкі работнікам культурных устаноў, і новыя, больш важныя праекты міністэрства...

Але дзякуючы намаганням уласна Юрыя Выдронка, яго сяброў і аднадумцаў фестываль стаў рэальнасцю. Хоць і ў нязвычным фармаце. Юрый прапанаваў гэтым разам адзначаць выканаўцаў спецыяльнымі намінацыямі з уручэннем маленькай копіі талісмана фэсту «Таўкачыкі» — сялянскай ступы з таўкачом. А танец «Таўкачыкі» стаў другім — музычным — талісманам фэсту. Ім і распачалася канцэртная праграма folk-bomond-fest «Таўкачыкі на Юр'я–2014».

Першымі на сцэну быў запрошаны хор «Талака», які працуе пры БДУ. Творчае крэда фолк-выканаўцаў — найбольш цеснае набліжэнне да аўтэнтычнай манеры выканання. Юрый Выдронак пад апладысменты слухачоў уручыў хору прыз у намінацыі «За фолк-адраджэнне». А вось блізкі па духу калектыў фальклорны гурт «Грамніцы» БДУК быў адзначаны ў намінацыі «Лепшы харавы калектыў».

Вялікай нечаканасцю стала з'яўленне на сцэне этна-гурта «Альтанка» пад кіраўніцтвам В. Шкілёнка. Віктару тут жа быў уручаны прыз у намінацыі «Фолк-гітара». «Альтанка» змяніла склад, і франтмэнам гурта стала маладая спявачка Дар'я Лаўрэнцьева, з якой гурт набыў новыя музычныя адценні. У выкананні Дар'і і «Альтанкі» прагучалі некалькі фальклорных апрацовак, у тым ліку і юраўскай тэматыкі.

Як добрую знаёмую сустракалі слухачы фолк-эмбіет-гурт «Дзівасіл» і яго салістку — Іну Перасецкую-Малаковіч. Менавіта Іне Юрый Выдронак уручыў прыз у намінацыі «За лепшую фолк-лірыку». Трэба адзначыць, што гурт «Дзівасіл» змяняецца ад эмбіента ў бок гітарнага джазавага гучання, элементаў імправізацыі, якія робяць кампазіцыі гурта больш насычанымі і экспрэсіўнымі. Ад гэтага, відавочна, гурт толькі выйграе, і гэта ацанілі слухачы, якія горача віталі высокі прафесіяналізм гурта «Дзівасіл».

У намінацыі «За фолк-экспрэсію» быў адзначаны малады фолк-рок-гурт «БАЙ КРАЙ». З першай жа кампазіцыяй «Там за гарой, ды камянной» выканаўцы прыцягнулі ўвагу слухачоў сваёй неўтаймаванай энергетыкай, высокім выканаўчым майстэрствам.

**Ужо стала традыцыяй «Таўкачыкаў» з'яўленне на сцэне аўтэнтычных фальклорных выканаўцаў**

Настрой слухачоў не змяніўся, калі на сцэну выйшлі музыканты гурта сярэднявечнай музыкі «Літы талер», якім кіруе вядомы Дзяніс Шматко. Гэтым разам музыканты былі адзначаны за «Гістарычны вобраз». І сапраўды, музыка «Літога талера» адрозніваецца вытанчанасцю і арыентацыяй на лепшыя еўрапейскія ўзоры медыевальных выканаўцаў. Пад «Конскі брань» «Літога талера» слухачы таксама ліха танчылі, як і пад рокавыя рыфы гурта «БАЙ КРАЙ»...

Намінацыяй «За фолк-пошук» былі адзначаны Маша Яр і яе «ХОХА БЭНД». Але ўсё ж такі галоўным сюрпрызам сталі песні ў выкананні Машы. Тут гучалі і беларускія народныя спевы ў незвычайнай апрацоўцы («Велікоднае танга»), і апрацоўкі палескіх песень у стылі «лаціна» («Рутка Сільвія»), і ўсе яны былі напоўнены цудоўнымі мелодыямі, жыццярадаснымі пачуццямі, якія характэрны для надыходу свята Юр'я, свята вясны. А вось прызам «За самы самабытны голас» была адзначана іншая фолк-выканаўца — Наталля Матыліцкая. І гэта адзнака знайшла сваё пацвярджанне ў час выканання шэрагу фолк-кампазіцый. Напрыклад, «Пчолка» ў аранжыроўцы Юрыя Выдронка ці «Вяснавой песні», якую Наталля запісала падчас этнаграфічнай экспедыцыі на Любаньшчыне.

Слухачам вядомы гурт «ВЕТАХ», якім кіруе знаны беларускі музыкант і фалькларыст В. Калацэй. Музыканты вядуць вялікую працу па папулярызацыі нацыянальнага фальклору дома і за мяжой. Гэтыя высілкі і адзначылі арганізатары і журы фэсту «Таўкачыкі на Юр'я», калі ўзнагародзілі гурт «ВЕТАХ» у намінацыі «За фолк-прапаганду». У іх выкананні прагучаў і «Гапак», які быў пашыраны і ў Цэнтральнай Беларусі, і пастушковая песенька «Юрачка», і юраўская «Вясна на талочку»...

Бадай, самай эмацыянальнай часткай фэсту, і гэта ўжо традыцыя «Таўкачыкаў», стала з'яўленне на сцэне клуба «RE: PUBLIC» аўтэнтычных фальклорных выканаўцаў з Любаньшчыны — спеўная група «Глыбокія крыніцы», якія былі адзначаны прызам у намінацыі «Фолк-традыцыі». Свята Юр'я — маляўнічая дзея, якая ў суправаджэнні шматгалоснага спеву была ўзноўлена на фестывальнай сцэне.

Фестывальныя старонкі завяршыў сваім драйвавым выступленнем гурт «UR'IA», якім і кіруе Юрый Выдронак. Цяпер Юрый быў не толькі вядучым фэсту, але і гітарыстам і вакалістам. У выкананні гурта слухачы пачулі такія хіты «UR'IA», як «Агу, вясна», «Мамачка», «Курка-рабушка» і іншыя кампазіцыі, якія і завяршылі фестывальную праграму гэтага вечара.

Канешне, сёлетні folk-bomond-fest «Таўкачыкі на Юр'я» нельга параўнаць з мінулагоднімі, калі ў арганізатараў была дзяржаўная падтрымка. Цяпер гэтага шчасця няма. Затое, ужо ёсць добры вопыт ініцыятывы і самаарганізацыі на карысць адраджэння і папулярызацыі нацыянальнага фальклору.

## Яны вас чакаюць

**Падарыце гэтым цудоўным жывёлінкам дом, і яны да апошняга ўздыху будуць вам удзячныя.**

### Нэльсан



Кацянё Нэльсан не па ўзросце дарослы — мае шыкоўны каўнер, футра рэдкай афарбоўкі агуці, пухнаты хвост і выкшталцоныя манеры. Але галоўная адметнасць Нэльсана — ягоны дарослы розум.

Крэда гэтага коціка: «Трэба — значыць, трэба!». Што б ні здарылася — ніякіх істэрык, ніякіх капрызаў. Можна спакойна мыць, кіпцюрыкі падстрыгчы. Нават уколамі яго не спужаць! Пры гэтым Нэльсан умее слухаць і суперажываць. Гэтае дарослае дзіцяці чакае вас! 8(029) 6501946, 8(029) 6741567, 8(029) 3701601.

### Маша



Маша можа смела прэтэндаваць на званне самай прыгожай трохкаляровай котачкі ў свеце! Ласкавая, кантактная, любіць быць у цэнтры ўвагі. Хочацца ўзяць яе на ручкі і моцна-моцна прыціснуць да сябе, такая яна замурчацельная. Машы тры годзіка, яна стэрылізаваная, карыстаецца латочкам і кіпцюрадзёркай, адным словам — беспраблемная. Котка знаходзіцца пад апекай валанцёраў. Звaніце Галіне 8(044) 7041733 альбо Вераніцы 8(025) 6327838.

Новы час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.

Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 534

Падпісана да друку 25.04.2014. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.